# Ніл Гілевіч

# Начлег на буслянцы

п'есы

НЕ КАЖЫ «ГОП» ...

МЫ СКОРА ЗАВІТАЕМ ЗНОЎ

ПАТРЫЯРХАЛЬНЫ ДЗЯДОВІЧ

КАМЕНЬ З МАГІЛЫ ПРОДКАЎ

ПЕРШАЯ НОЧ НА КУРОРЦЕ

ЗАБЯСПЕЧЫМ МАМЕ ЗДАРОЎЕ

НАЧЛЕГ НА БУСЛЯНЦЫ

Ніл Гілевіч

# Начлег на буслянцы

п'есы

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1980

НІЛ ГІЛЕВІЧ



# НЕ КАЖЫ «ГОП»...

Камедыя
ў адной дзеі з эпілогам

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

**Кутас Хведар Пятровіч** — дацэнт педагагічнага інстытута, гадоў 45.

**Алена Зміграўна** — яго жонка, выкладчыца нямецкай мовы ў гэтым жа інтытуце, гадоў 40.

**Пацяруха Арнольд** — кандыдат у аспіранты, гадоў 25.

**Ганна Піліпаўна** — дамработніца ў Кутасоў, гадоў 65.



Гасціны пакой у кватэры Кутаса. На тахце сядзіць **Ганна Піліпаўна** і вяжа нешта на прутках. На тумбачцы звініць тэлефон. Ганна Піліпаўна не спяшаючыся падыходзіць, здымае трубку і, трымаючы далёка ад вуха, слухае.

**Ганна Піліпаўна.** Га? Каго? Хведара Пятровіча няма. Я кажу: яго няма дома! Не, яшчэ не прыйшоў. Што? Знёс чужую бабку, а сваю пакінуў? Якую бабку?.. А-а-а, папку чужую ўзяў!.. Не, не, яшчэ не вярнуўся... Калі ласка, прыносьце, але яго няма. Калі ласка... *(Кладзе трубку і вяртаецца*

*на месца.)* Крычыць як ашалелы: бабку, бабку! Пакуль да мяне дайшло, што папку. Думаю, можа, і чужую бабку! Асабліва калі ёй трыццаць з хвосцікам, як гэнай белабрысай, што сюды заходзіла... Хто-хто, а наш можа знесці і чужую бабку. Што ўжо можа, дык можа! І куды гэта Алена Змітраўна глядзіць — не ведаю. Але, здаецца, і яна пачала заўважаць нешта. Такая невясёлая зрабілася. А каб жа хоць тое знала, што мне вядома! Каб яна хоць разок паслухала, як ён курняўкае па тэлефоне! Ну, рыхтык — марцовы кот! *(Імітуе голас Кутаса.)* Мурр, мурр, ага, вечарам, роўна ў дзевяць, ага, абавязкова... Цьфу! Аж слухаць брыдка. Мяне дык ужо не баіцца. Думае, старое тэпала нічога не разумее, не здагадваецца, з кім гэта ён і пра што курняўкае. *(Уздыхае.)* Ой, божа мой, божа! Збрыдзела ўжо тут хадзіць ды дагаджаць мурлыку гэтаму... Змітраўны шкада, а то ўжо даўно пашукала б сабе месца. Надта ж яна жанчына людская. Ну, але, відаць, скора прарве-такі мяне, і я скажу ёй. Усё вывалю, што ведаю, і хай сабе ён мяне праганяе. *(У пярэдняй зазвінеў званок.)* Мусіць, той, што званіў, папку нясе.

**Ганна Піліпаўна** ідзе ў пярэднюю адчыняць. Праз хвіліну яна вяртаецца назад, а ўслед за ёю ў пакой з папкай у руках заходзіць **Пацяруха.**

**Пацяруха** *(падкрэслена ветліва)*. Выбачайце, што турбую. Хведар Пятровіч прыйшлі?

**Ганна Піліпаўна.** Не, яшчэ не прыходзіў.

**Пацяруха** *(расчаравана)*. Не прыходзіў?.. Мяне паслаў да вас дацэнт Тарарака, Язэп Саўкавіч. Ён званіў вам. Я прынёс Хведару Пятровічу яго папку.

**Ганна Піліпаўна.** Дык давайце, я перадам.

**Пацяруха.** Але ж я павінен узяць у Хведара Пятровіча папку Язэпа Саўкавіча. Хведар Пятровіч незнарок замест сваёй забраў ягоную.

**Ганна Піліпаўна.** Тады вам давядзецца пачакаць яго. Праходзьце далей, пасядзіце... Можа, зараз прыйдзе. *(Зноў бярэцца за вязанне.)*

**Пацяруха.** Дзякую. *(Сядае на крэсла, папку*

*кладзе на стол.)* Там Язэп Саўкавіч хвалюецца вельмі. У яго сёння адкрытая лекцыя, члены кафедры будуць слухаць, а лекцыю ў папачцы знёс Хведар Пятровіч. Язэп Саўкавіч агледзеўся і так спалохаўся. А я выпадкова зайшоў туды, у прафесарскую. Якраз перапынак быў. Ну, ён і папрасіў мяне: бяжы, кажа, хуценька, тут блізка, за дзесяць хвілін і назад вернешся. Лекцыю, кажа, пачну са спазненнем.

**Ганна Піліпаўна.** А што, іх папкі такія аднолькавыя, што і адрозніць нельга?

**Пацяруха.** Увогуле, яны і фасону аднаго, і колеру, але адрозніць можна. У Хведара Пятровіча навейшая, у Язэпа Саўкавіча больш абтрошку шарпаная. Гэта — калі прыгледзецца. Але Хведар Пятровіч спяшаўся вельмі, таму і пераблытаў. Я бачыў, як ён хуценька ўскінуў на плечы макінтош і амаль бегма на вуліцу. Яшчэ без дзесяці дзевяць было. *(Паглядзеў на гадзіннік.)* А цяпер ужо роўна дзевяць.

**Ганна Піліпаўна** *(як бы спахапіўшыся)*. Роўна дзевяць? Дык дзіва што спяшаўся! Паабяцаў жа гэнай мурцы, што ў дзевяць прыйдзе... *(Апомнілася, што ўголас «ляпнула» перад чужым чалавекам «не тое», і тут жа паспяшалася загаварыць яго.)* А вы ж самі кім будзеце? Яшчэ студэнт?

**Пацяруха** *(не зважаючы на яе пытанне)*. Выбачайце, каму паабяцаў Хведар Пятровіч, што ў дзевяць прыйдзе?

**Ганна Піліпаўна** *(замятае след)*. Не, гэта ён учора абяцаў... сястры стрыечнай, а сёння не казаў нічога. Так што павінен зараз вярнуцца... *(Спяшаецца адвесці гаворку.)* Дык ці вы, кажу, яшчэ студэнт ці ўжо таксама другіх вучыце?

**Пацяруха.** І не студэнт, і другіх пакуль што не вучу. *(Баявіта, пафасна.)* Але — буду вучыць! У аспірантуру паступаю. Хведар Пятровіч маім навуковым кіраўніком будзе. Два экзамены ўжо здаў: Хведару Пятровічу на «выдатна», другі — так, ніжэй трохі. Засталася замежная мова. Самае цяжкае.

Зазвінеў тэлефон. Ганна Піліпаўна, спяшаючыся, ідзе да апарата.

**Ганна Піліпаўна.** От ужо надакучае! Колькі разоў на дзень!.. *(Здымае трубку і трымае далёка ад вуха.)* Алё!.. Якая пацяруха? У нас няма ніякай пацярухі!

**Пацяруха** *(кідаецца да тэлефона і амаль вырывае трубку з рук).* Дайце, дайце, калі ласка, гэта, мусіць, мяне...

**Ганна Піліпаўна** *(аддаючы трубку).* Пра нейкую пацяруху пытаюцца...

**Пацяруха.** Алё! Я слухаю, Язэп Саўкавіч! Няма яго, і я не ведаю, што рабіць... Алены Змітраўны таксама няма. А тут во *(паварочваецца да Ганны Піліпаўны)* толькі іх маці, кажуць, можа, зараз прыйдзе... Як толькі ён вернецца, я куляй дастаўлю вам папку. Добра. *(Кладзе трубку і глядзіць на Ганну Піліпаўну.)* Лекцыя зрываецца ў Язэпа Саўкавіча. Вось будзе злаваць на Хведара Пятровіча! Адкрытая лекцыя, сабралася камісія прысутнічаць, і раптам — асечка!

**Ганна Піліпаўна.** А чаму гэта ён вас пацярухай кліча? Хіба і вучоныя людзі абзываць усякімі словамі ўмеюць?

**Пацяруха.** Бачыце... я вам растлумачу. Маё прозвішча — Пацерухо. І трэба гаварыць Пацерухо. Але некаторыя наўмысна перакрыўляюць і клічуць Пацяруха. Асабліва зайздроснікі, каб дапячы мне.

**Ганна Піліпаўна.** А гэты чаго вам зайздросціць?

**Пацяруха.** Хто? Язэп Саўкавіч? Ды ён не зайздросціць, ён... ад хвалявання так сказаў. Нервуецца вельмі — лекцыя пад пагрозай зрыву.

**Ганна Піліпаўна.** Ад хвалявання ўсё можа быць. Нездарма ж людзі кажуць, жывучы ўсяго нажывеш — і Кузьму татам назавеш.

**Пацяруха** *(раптам загарэўся).* О, вы, напэўна, многа прыказак ведаеце і іншых фальклорных твораў! Відаць, і Хведар Пятровіч яшчэ з маленства ад вас навучыўся — таму і такім знатным вучоным-фалькларыстам стаў.

**Ганна Піліпаўна** *(трохі грэблівa).* Каго я вучыла з маленства? Гэтага — нашага? У маленстве я яго і ў вочы не бачыла!..

**Пацыруха** (*асекшыся*). Як? Хіба, выбачайце, вы не яго мама?

**Ганна Піліпаўна.** Не, дзякаваць богу, не маю, як той казаў, дачынення.

**Пацыруха** (*збянтэжана*). А-а-а, значыць, вы мама Алены Змітраўны?

**Ганна Піліпаўна** (*сумна ўздыхнуўшы*). О, каб у мяне такая дачка была! Такою б дачкой я ганарылася!.. Не даў божа. Адзінокая я. Таму пры чужых людзях і дажываю. Трэба ж недзе прытулак мець.

**Пацыруха.** Ага, цяпер усё зразумела. Значыць, вы тут у якасці домработніцы. А як вас зваць-велічаць, выбачайце?

**Ганна Піліпаўна.** Ганнай людзі завуць, а бацьку Піліпам звалі.

**Пацыруха.** Ганна Піліпаўна, я хачу вярнуцца да прыказкі, якую вы толькі што нагадалі — пра Кузьму і тату. Скажыце, калі ласка, вы не чулі трохі іншага варыянта?

**Ганна Піліпаўна.** Якога іншага вар'ята? Горшага вар'ята, чым той сын, што бацьку Кузьмом зваў, і прыдумаць цяжка.

**Пацыруха** (*паблажліва заўсміхаўшыся*). Я не пра вар'ята пытаюся. Я спытаў, ці не чулі вы іншай прыказкі — новай, але падобнай на гэту старую. Ну, напрыклад: жывучы ўсяго нажывеш — і цешчу другам назавеш.

**Ганна Піліпаўна** (*здзіўлена ўзняла вочы*). Як?

**Пацыруха** (*паўтарае мацней і больш выразна*). Жывучы ўсяго нажывеш — і цешчу другам назавеш!

**Ганна Піліпаўна.** Во гэта, мусіць, сапраўды нейкі вар'ят прыдумаў. Я такой не чула.

**Пацыруха** (*пакрыўджана*). Чаму вар'ят? Хіба гэта кепска? Фальклор, выбачайце, мае здольнасць абнаўляцца. Старая форма пад уплывам рэчаіснасці напаўняецца новым зместам. Дарэчы, гэта будзе тэма маёй будучай дысертацыі.

**Ганна Піліпаўна.** Гэтага я ўжо не цямлю. Мая ўся навука — сяк-так распісацца ўмею.

**Пацыруха.** О, выбачайце, Ганна Піліпаўна! Канечне, гэта праблема навукова-тэарэтычная.

У пярэдняй зазвінеў званок. Ганна Піліпаўна адкладае ўбок вязанне і ідзе адчыняць.

**Ганна Піліпаўна** *(ідучы да дзвярэй)*. Ну, вось, ці гаспадар, ці гаспадыня, нехта вяртаецца... *(Выходзіць.)*

**Пацяруха** *(застаўшыся адзін)*. Што за д'ябальшчына?! Ужо на каторым суб'екце апрабоўваю гэтую сваю новую прыказку — і ніхто яе не ўспрымае як народную мудрасць! Можа, гэтаксама сустрэнуць і прыпеўкі, якія я паднавіў?.. Трэба было б праспяваць гэтай старой прыпеўкі — праверыць на ёй іх вартасць. Яна ж усё-такі чалавек з народа.

У пакой вяртаецца **Ганна Піліпаўна,** за ёй заходзіць **Алена Змітраўна.**

**Алена Змітраўна** *(да Пацярухі)*. Добры вечар!

**Пацяруха** *(падымаецца з крэсла, падкрэслена ветліва)*. Добры вечар, Алена Змітраўна. Добры вечар!

**Алена Змітраўна** *(прыглядаецца)*. Здаецца, мы раней не бачыліся?

**Пацяруха.** Я-то вас бачыў ужо неаднойчы. Маё прозвішча — Пацерухо. Арнольд Пацерухо. Хіба вам Хведар Пятровіч не гаварыў пра мяне?

**Алена Змітраўна** *(паціскае плячыма)*. Нешта не прыпамінаю. Вы — наш студэнт?

**Пацяруха.** Не, Алена Змітраўна. Я, можна сказаць, маю гонар і шчасце стаць аспірантам вашага Хведара Пятровіча.

**Алена Змітраўна.** А-а-а, вось як!.. А што там здарылася? Ганна Піліпаўна паспела мне сказаць, што вы прынеслі нейкую папку. Вы сядайце, калі ласка. *(Стомлена садзіцца сама на тахце, побач з Ганнай Піліпаўнай.)*

**Пацяруха** *(з паклонам)*. Дзякую. *(Садзіцца на крэсла.)* Хведар Пятровіч, спяшаючыся, схапіў са стала папку дацэнта Таракі, а сваю пакінуў. А ў Язэпа Саўкавіча праз гэта зрываецца адкрытая лекцыя. Ён папрасіў мяне збегаць і забраць у Хведара Пятровіча папку, а Хведара Пятровіча няма. Я ўжо хвілін пятнаццаць чакаю.

**Алена Змітраўна** *(напружваючы памяць)*. Сёння які дзень? Аўторак?

**Пацяруха.** Аўторак, Алена Змітраўна.

**Алена Змітраўна.** У аўторак у Хведара Пятровіча на вячэрнім факультэце чатыры гадзіны — з дзевятнаццаці да дваццаці трох. Вы проста не паглядзелі — ён недзе там, у аўдыторыі. У аўторак у яго заўсёды было чатыры гадзіны.

**Пацяруха.** Не, яго там няма. Як толькі празвінела на перапынак, ён хуценька апрануўся і пабег. Я сам бачыў. Толькі я не заўважыў, што з чужою папкай.

**Алена Змітраўна** (*пераводзіць позірк на Ганну Піліпаўну*). Дзе ж ён у такім разе можа быць?

**Ганна Піліпаўна** (*не падымаючы галавы*). Заўсёды было чатыры, а сёння — дзве. Што ж тут дзіўнага? А цяпер прагульваецца недзе па вуліцы, каб у галаве пасвяжэла. Пагода, дзякаваць богу, толькі для шпацыру.

**Алена Змітраўна.** Мусіць, так яно і ёсць. (*Да Пацярухі.*) Пачакайце яшчэ трохі. Калі ў яго былі толькі дзве гадзіны, то ён павінен скора прыйсці.

Звініць тэлефон. Пацяруха падхапіўся першы.

**Пацяруха** (*зірнуўшы на жанчын*). Гэта, напэўна, зноў мяне. Я паслухаю, выбачайце... (*Ідзе да апарата і здымае трубку.*) Алё?.. Не прыйшоў яшчэ, Язэп Саўкавіч. Што? (*Пакрыўджана.*) Чаму я жулік і выжла? Што? Гэта вы не на мяне? А-а, прабачце, Язэп Саўкавіч, мне здалося, што гэта вы мяне так... Не, Язэп Саўкавіч, ён ненаўмысна, ён проста вельмі спяшаўся... Добра, Язэп Саўкавіч, да пабачэння. (*Кладзе трубку.*) Ну, можна мне ісці дадому: лекцыя ў Язэпа Саўкавіча ляснула! Сарвалася!

**Алена Змітраўна** (*устрывожана*). Як — сарвалася?

**Пацяруха.** Дык яго ж лекцыя ў папцы, а папка недзе ў Хведара Пятровіча! Сказаў, што больш чакаць няма сэнсу, прайшло амаль паўгадзіны, і студэнтаў ён адпускае дамоў. Пазней ён вам яшчэ пазвоніць.

**Алена Змітраўна.** Бедны Хведар Пятровіч — дастанецца яму ад Таракі!

**Пацяруха** (*садзіцца насупраць Алены Змітраў-*

*ны на крэсла)*. А нічога яму Язэп Саўкавіч не зробіць. Ён жа ненаўмысна. У Хведара Пятровіча такі аўтарытэт, што да яго не падкапаешся. Для нас, маладых, гэта прыклад ва ўсіх адносінах. Каб вы толькі ведалі, Алена Змітраўна, як я рад, што ён бярэ мяне ў аспірантуру!

**Алена Змітраўна.** А чым вы, прабачце, да гэтага займаліся?

**Пацяруха.** Ды займаўся важнымі справамі, Алена Змітраўна. Паўгода ў школе папрацаваў. Са школы перайшоў у раённую газету. А пасля — у абласны Дом народнай творчасці. Вось там я і захапіўся фальклорам, там і ідэя ўзнікла — у навуку падацца, у фалькларыстыку.

**Алена Змітраўна.** А чым канкрэтна вы думаеце займацца ў гэтай навуцы?

**Пацяруха.** Як — чым? Мы з Хведарам Пятровічам ужо і тэму дысертацыі ўзгаднілі. Ведаеце, як гучыць? «Лёс традыцыйных жанраў фальклору ў новых гістарычных умовах». Хведар Пятровіч кажа, што гэта вельмі дысертабельная тэма. Вельмі выйгрышная! *(Пафасна.)* Гэта будзе праца пра небывалы росквіт паэтычнай народнай творчасці ў перыяд пераможнага будаўніцтва!

**Алена Змітраўна.** Якую, прабачце, творчасць вы маеце на ўвазе?

**Пацяруха.** Як якую? Фальклор! Песні, казкі, легенды, быліны...

**Алена Змітраўна.** І што — гэтыя казкі, легенды, быліны ў нашы дні развіваюцца вельмі бурна?

**Пацяруха** *(усміхаецца, круціць галавой)*. Ну, Алена Змітраўна, вы, відаць, проста жартуеце. У Хведара Пятровіча столькі публікацый пра сучасны фальклор, пра творчасць самадзейных паэтаў і кампазітараў... Хіба вы іх не чыталі?

**Алена Змітраўна.** Чытала. А вы, прабачце, самі да гэтых самадзейных паэтаў часам не належыце?

**Пацяруха.** Паэтам — калі ў поўным сэнсе слова — я сябе не лічу, але цяга да творчасці, калі казаць шчыра, ёсць! Асабліва карціць перарабляць на сучасны лад старыя народныя прыпеўкі, песні, прыказкі. Магу нават вам прызнацца: у сваім навуковым рэфераце, які я прадставіў у аддзел аспі-

рантуры, я скарыстаў і некаторыя ўласныя пераробкі. І Хведару Пятровічу яны вельмі спадабаліся... Хочаце, я вам праспяваю некалькі абноўленых мною прыпевак? Калі, вядома, у вас ёсць жаданне...

**Алена Змітраўна.** А што — гэта, бадай, варта паслухаць. *(Паварочваецца да Ганны Піліпаўны.)* Як вы думаеце, Ганна Піліпаўна?

**Ганна Піліпаўна.** Паслухаем, калі ў чалавека такія таленты ёсць.

**Пацяруха.** Толькі я прывык пад гітару або балалайку... Без музыкі — не той эстэтычны эфект. Так што прашу зрабіць на гэта скідку.

**Алена Змітраўна** *(да Ганны Піліпаўны)*. Ганна Піліпаўна, вы не выкінулі тую Федзеву балалайку?

**Ганна Піліпаўна.** Навошта яе выкідаць... Ляжыць там у верхняй шафцы, дзе гэны хлам усякі... Дастаць?

**Алена Змітраўна.** Дастаньце, калі ласка. *(Ганна Піліпаўна выходзіць.)* А як вы абнаўляеце традыцыйны фальклор — у якой меры і з якіх меркаванняў пры гэтым зыходзіце?

**Пацяруха** *(упэўнена, баявіта)*. Мера ў мяне звычайна адна — пяцьдзесят працэнтаў. Абнаўляю роўна напалавіну. У прыпеўках гэта рабіць лягчэй за ўсё. Бяру старую прыпеўку — якую-небудзь папулярную,— два першыя радкі пакідаю, два апошнія замяняю новымі, сваімі. А з якіх меркаванняў зыходжу — дык гэта зразумела само сабой. *(Пафасна.)* Прыпеўка павінна загучаць па-сучаснаму, каб бачыўся вобраз новага чалавека, яна павінна несці яскравыя штрыхі нашай велічнай эпохі, у ёй павінен чуцца подых рэчаіснасці!..

Заходзіць з балалайкай **Ганна Піліпаўна.**

**Ганна Піліпаўна** *(падаючы балалайку Пацяруху)*. Вось вам і струмант, грайце. Я ўжо не думала, што калі спатрэбіцца.

**Пацяруха** *(бярэ балалайку)*. Дзякую. *(Да Алены Змітраўны.)* Ну, адным словам, зараз усё ўбачыце самі, Алена Змітраўна. Толькі не прад'яўляйце прэтэнзій да выканання — голас у мяне неважнецкі.

**Алена Змітраўна.** Прэтэнзій не будзе. Калі ласка.

**Пацяруха** *(кранае струны)*. Расстроіліся трохі. Трэба падкруціць калкі... *(Настройвае.)* Ну, цяпер, здаецца, можна. *(Адкашліваецца, аб'яўляе.)* Прыпеўкі з майго навуковага рэферата. Умоўная назва «Та-ра-ра-гоп-чыкі!». *(Яшчэ раз адкашліваецца, грае і пяе.)*

Не скажу, якая дзеўка
На яліну лазіла:
Абадрала ўсё на свеце —
Шкіпінарам мазала!

Ой! *(Заціскае балалайку, на твары ў яго — спалох. Алена Змітраўна апускае галаву, збянтэжана ўсміхаецца.)*

**Ганна Піліпаўна** *(рагочучы)*. А божа мой! Дык што ж ты тут абнавіў, чалавеча? Я ж гэтую прыпеўку паўвека назад чула — слова ў слова таксама было!..

**Пацяруха** *(разгублена-вінаватым голасам)*. Алена Змітраўна! Даруйце, калі ласка! Гэта стары варыянт праскочыў. Я ненаўмысна!.. Разумееце, пакуль яшчэ не прывык да новага, дык машынальна старое з языка зрываецца... Дазвольце, я пачну спачатку.

**Алена Змітраўна** *(іранічна ўсміхаючыся)*. Калі ласка.

**Ганна Піліпаўна.** Глядзіце ж, каб ізноў які стары вар'ят не праскочыў.

**Пацяруха** *(адкашліваецца, грае і пяе)*:

Не скажу, якая дзеўка
На яліну лазіла:
Да Урала — ўсё Еўропа,
За Уралам — Азія!

Та-ра-ра-гоп-чыкі!
Чатыры хлопчыкі!
Чатыры дзевачкі,
Ды піянерачкі! } 2 разы

Не выходзьце, дзеўкі, замуж,
Замужам — нявесела.
У раёне ўсе рашэнні
Зацвярджае сесія!

Та-ра-ра-гоп-чыкі!
Чатыры хлопчыкі!
Чатыры дзевачкі,
Ды піянерачкі! } 2 разы

Усе дзяўчаты як дзяўчаты,
А мая — як рэзгіны:
Ад таго, што не глядзела
Галерэю ў Дрэздэне!

Та-ра-ра-гоп-чыкі!
Чатыры хлопчыкі!
Чатыры дзевачкі,
Ды піянерачкі! } 2 разы

Усё! *(Заціскае рукой струны, падхопліваецца і па-акцёрску раскланьваецца. Алена Змітраўна і Ганна Пiлiпаўна весела смяюцца.)* Ну, вось у такім сплане я і апрацоўваю. *(Зноў садзіцца.)* Вам спадабалася?

**Алена Змітраўна** *(не выдаючы іроніі)*. Вельмі. Я проста ў захапленні! Асабліва ад гэтай галерэі ў Дрэздэне. А цікава, між іншым, як тут было раней — у старым варыянце?

**Пацяруха.** Калі ласка, я магу праспяваць. Убачыце самі, што для сучаснай аўдыторыі — зусім не стасуецца. *(Адкашліваецца, грае і пяе.)*

Усе дзяўчаты як дзяўчаты,
А мая — як рэзгіны:
Усе спраўляюць вечарынкі,
А мая — дык хрэсьбіны!

Та-ра-ра-гоп-чыкі!
Чатыры хлопчыкі!
Чатыры дзевачкі,
Ды піянерачкі!

Вось так было да маёй апрацоўкі. Каментарыі, як кажуць, не патрэбны. Хіба можна ў такім святле падаваць вобраз нашай сучаснай дзяўчыны — перадавіка фабрычнай або саўгасна-калгаснай вытворчасці? Маладая, прыгожая дзяўчына — і раптам спраўляе хрэсьбіны! Гэта дзіка! Гэта нікуды не варта!.. А ў маім варыянце — зусім іншы паварот. Намёк для моладзі, што маральнае і духоўнае ўдасканаленне немагчыма без далучэння да мастацтва. Калі дзяўчына не хоча быць як рэзгіны —

яна павінна хадзіць у тэатр, у музей, на канцэрты філармоніі, адным словам,— эстэтычна ўзбагачаць сябе. Дрэздэнская галерэя тут узята як паэтычны сімвал, можна было б і якую іншую назваць, але гэта добра пад рыфму кладзецца.

**Алена Змітраўна** *(з прыхаванай іроніяй)*. Вось гэта здорава! Гэта проста унікальна!.. *(Пацяруха глядзіць на яе пераможцам.)* Скажыце — і многа ў вас ужо такіх абноўленых шэдэўраў?

**Пацяруха.** Многа! Прыпевак ужо з паўсотні, песень менш — дзесятка паўтара, а прыказак і прымавак — дык і не ведаю дакладна: цэлы вучнёўскі сшытак!

**Алена Змітраўна.** І вы думаеце — гэтыя новыя варыянты будуць жыць, народ іх падхопіць?

**Пацяруха** *(з апломбам)*. Алена Змітраўна! Няўжо вы сумняваецеся? Спачатку мы пастараемся іх апублікаваць у якім-небудзь навуковым часопісе або нават у зборніку. Адтуль іх падхопяць радыё і тэлебачанне — а яны падхопяць з вялікай радасцю, гэта паверце ўжо мне. Ну, а затым — з эфіру і блакітнага экрана яны пяройдуць у самадзейныя калектывы, у мастацкія агітбрыгады і разнясуцца па ўсёй рэспубліцы. Гэта ж сучасны матэрыял для этычнага і эстэтычнага выхавання!

**Алена Змітраўна.** І Хведар Пятровіч так думае?

**Пацяруха.** Вядома! Іначай ён не згадзіўся б быць маім навуковым кіраўніком. Я ж вам казаў, што мы ўжо і тэму сфармулявалі: «Лёс традыцыйных жанраў фальклору ў новых гістарычных умовах».

**Алена Змітраўна** *(ківае галавой, сумна-іранічна ўсміхаецца)*. Ну што ж, усё зразумела, таварыш Пацерухо. *(Пасля невялікай паўзы.)* Прабачце — яшчэ адно маленькае пытанне: а вы ўпэўнены, што паступіце ў аспірантуру? Канкурэнтаў у вас няма?

**Пацяруха** *(радасна)*. Няма! Я іду адзін! Тут мне, можна лічыць, вельмі пашанцавала... Ну, а паступлю я ці не — гэта ўжо... залежыць толькі ад вас, Алена Змітраўна.

**Алена Змітраўна** *(здзіўлена)*. Ад мяне? Чаму — ад мяне?

**Пацяруха.** Таму што два экзамены я ўжо здаў, застаўся толькі адзін — па нямецкай мове. І Хведар Пятровіч сказаў, што гэты экзамен у мяне будзеце прымаць вы, Алена Змітраўна. Вы будзеце галоўнай у камісіі.

**Алена Змітраўна.** О-о, перапрашаю вельмі, я і забылася. Сапраўды, дэкан прасіў мяне прыняць у бліжэйшыя дні экзамен у якогась прэтэндэнта на аспіранцкае месца. Значыць, гэта пра вас ішла гаворка. Ну што ж, вельмі прыемна. *(Пераходзіць на нямецкую мову.)* Ван волен зі дзізэ прюфунг абхальтэн? *(Пацяруха глядзіць, і па твары відаць, што нічога не зразумеў.)* Іх фраге, ван волен зі дзізэ прюфунг абхальтэн?

**Пацяруха** *(з прыкметнай разгубленасцю)*. Прабачце, Алена Змітраўна, але... такія пытанні мне не па зубах. Мне ў інстытуце нямецкая мова давалася цяжка.

**Алена Змітраўна.** Як гэта — не па зубах? Я вам задала зусім лёгкае пытанне: калі вы хочаце здаваць экзамен? Гэта з праграмы няпоўнай сярэдняй школы. Што ж тут не па зубах?

**Пацяруха** *(лісліва, амаль жаласліва)*. Гэта яно для вас лёгкае, Алена Змітраўна, а для мяне... Мне я прасіў бы вас даць на экзамене што-небудзь прасцейшае, ну, напрыклад: Анна унд Марта бадэн або вір фарэн нах Анапа... Такое я перакладу з ходу.

**Алена Змітраўна** *(з вясёлым здзіўленнем)*. Вір фарэн нах Анапа?.. Вір фарэн нах Анапа! Мы едзем у Анапу! *(Не стрымлівае смеху.)* Цудоўна! Мы едзем у навуку... выбачайце — у Анапу!.. *(Рагоча.)* Жартаўнік вы, таварыш Пацерухо. Вір фарэн нах Анапа!..

**Пацяруха** *(трохі разгублена)*. Я... не толькі гэту Анапу ведаю... І слоў і нават цэлых сказаў у мяне ў памяці багата. Калі ласка. *(Пачынае сыпаць прыклады.)* Дас кіндэр іст кляйн, дас цымер іст грос, іх габэ пфэрдала...

**Алена Змітраўна.** Што? Што? Як вы сказалі апошняе?

**Пацяруха** *(няўпэўнена)*. Іх габэ пфэрдала.

**Алена Змітраўна** *(ледзь стрымліваючы смех)*. А... што гэта значыць?

**Пацяруха** *(збянтэжана)*. У мяне ёсць... кабыла.

**Алена Змітраўна** *(заходзіцца ад рогату, аж слёзы на вачах)*. Ой, таварыш дарагі... *(Ад смеху не можа гаварыць.)* Я ўжо даўно так не смяялася. *(Выцірае хусцінкай вочы.)* Прабачце, калі ласка. Дзе вы пачулі гэтае пфэрдала? Хто гэта дадумаўся?

**Пацяруха.** Ведаеце... У нас у калгасе некалі старая кабыла была, і мой дзед толькі так яе называў, казаў — гэта па-нямецку. Ён у першую сусветную ў Германіі ў палоне быў, добра нямецкую мову ведаў...

**Алена Змітраўна.** Дас пфэрд — конь па-нямецку, таварыш Пацерухо, а кабыла — дзі штутэ. Ну, але добра, ліха з ім — і з гэтым пфэрдалам, і з Анапай. Адкажыце ўжо на нашай мове: калі вы хочаце здаваць нам экзамен?

**Пацяруха** *(голас яго зноў набывае ўпэўненасць)*. У чацвер, Алена Змітраўна, я хацеў бы ў чацвер. Гэта будзе незвычайны дзень! У гэты дзень здзейсняцца дзве вялікія мары: мая і ваша!

**Алена Змітраўна** *(аж падалася ўперад ад здзіўлення)*. І мая?

**Пацяруха.** Ну, вядома! Збудзецца ваша самая запаветная мара!

**Алена Змітраўна** *(паціскаючы плячыма)*. Нічога не разумею. Якая мая запаветная мара? Што вы маеце на ўвазе?

**Пацяруха** *(дакорліва ўсміхаючыся)*. Ох, і хітрая вы, Алена Змітраўна! Цэлы вечар сёння жартуеце! Як быццам і не ведаеце нічога. *(Чаканячы словы.)* У той жа дзень, калі вы прымеце ў мяне экзамен — а гэта значыць — я стану аспірантам,— у той жа дзень мой дзядзька Васіль Цярэнцевіч дае распараджэнне неадкладна, без чаргі, прадаць Хведару Пятровічу легкавую машыну «Масквіч» новай маркі! Вось так, Алена Змітраўна! І не хітруйце са мной, калі ласка! *(Глядзіць на Алену Змітраўну пераможцам.)*

**Алена Змітраўна.** Ах, вось яно што! А я, грэш-

ным чынам, і не ведала, што ваш дзядзька... прабачце, што ў мяне — ёсць такая запаветная мара.

**Пацяруха** *(ківаючы пальцам)*. Не хітруйце, Алена Змітраўна! Я сам чуў, як Хведар Пятровіч за сталом у майго дзядзькі гаварыў: «Алена Змітраўна ўжо колькі гадоў не можа дачакацца, калі я пасаджу яе ў сваю ўласную машыну і павязу за горад — на лясную палянку або на бераг ракі».

**Ганна Піліпаўна** *(нецярпліва заварушыўшыся на тахце)*. Ой, божа мой, божа! Ажно слухаць моташна!..

**Алена Змітраўна** *(з прытворным здзіўленнем)*. Ну, што вы, Ганна Піліпаўна? Гэта ж сапраўды цудоўна! *(Тонам захаплення.)* Садзімся ў новенькі «Масквіч» і — вір фарэн нах Анапа. *(Рагоча.)* Цудоўна! *(Да Пацярухі.)* Вы — на пфэрдале — у аспірантуру, мы — садзімся на «Масквіч» і — вір фарэн нах Анапа! Цудоўна! *(Перастае смяяцца, устае з тахты.)* Ну, жадаю вам поспеху, таварыш Пацерухо!

**Пацяруха** *(таксама падымаецца, раскланьваецца)*. Дзякую, Алена Змітраўна! Шчыра дзякую! Я вельмі рады, што ў вас такі добры настрой, што ваша запаветная мара збудзецца. *(Лёгка раскланьваецца і выходзіць.)*

**Алена Змітраўна** *(нейкі час стаіць у задуменні, пасля паварочваецца да Ганны Піліпаўны)*. Ну, як вам падабаецца гэты экземпляр?.. *(Не чакаючы адказу.)* Ведаеце, я проста не магу апомніцца. Няўжо гэта ўсё сур'ёзна? Няўжо Федзя сапраўды пацягне ў навуку такога варвара? Гэта ж варвар! Самы што ні ёсць варвар! Што ён робіць з творамі народнай паэзіі?.. У яго няма элементарнага мастацкага густу! *(З зацятасцю ў тоне.)* Ну, здаецца, гэты нумар не пройдзе. Калі Федзя пацвердзіць, што ўсё гэта праўда, то я не ведаю... я не ведаю, што я зраблю. Дарэчы, куды ён так спяшаўся з факультэта і дзе ён можа быць так доўга? *(Глядзіць на Ганну Піліпаўну.)*

**Ганна Піліпаўна** *(збірае сваё вязанне, устае з тахты, пазяхае)*. Пайду я, Змітраўна, як той казаў, у люлю. Стамілася нешта... Ды і позна ўжо. Прыйдзе — спытайце самі, ці ён на лекцыях быў,

ці, можа, яшчэ дзе... Добрай ночы вам! *(Выходзіць.)*

**Алена Змітраўна** *(праводзіць Ганну Піліпаўну насцярожаным позіркам)*. Добрай ночы... *(Застаўшыся адна, у задуменні.)* Гм, чаму яна так сказала? З якімсьці падазроным намёкам... Аж неяк на душы нядобра зрабілася. Пайду — пакуль не заснула — папрашу растлумачыць. *(Памкнулася пайсці, але каля стала спынілася.)* Трэба і гэту папачку ўзяць з сабою — ці не з'яўляецца яна ключом да загадкі? *(Забірае папку і выходзіць.)*

Нейкую долю хвіліны сцэна пустуе. Затым паяўляецца **Кутас.** У руках у яго такая ж папка, якую прынёс Пацяруха.

**Кутас** *(абводзіць позіркам пакой, прыслухоўваецца)*. Тэ-экс, сямейнічкі, здаецца, паселі ўжо на куросадні. Вельмі міла з іх боку! Вельмі прыемна, калі я вяртаюся, а яны пагрузіліся ўжо ў нірвану. *(Кладзе папку на стол.)* Гэта проста цудоўненька. Раніцай пражытае звечара здаецца далёкім, я ўжо буду зусім спакойны і нічога лішняга, непрадуманага не скажу. *(Падыходзіць да трумо і з задавальненнем разглядае сваю фізіяномію.)* Нічога лішняга не скажу! Як гэта там у Пацярухі ў рэфераце? *(Ціха напявае.)*

Не скажу, якая дзеўка
На яліну лазіла:
Да Урала — ўсё Еўропа,
За Уралам — Азія!

Та-ра-ра-гоп-чыкі!
Чатыры хлопчыкі!
Чатыры дзевачкі,
Ды піянерачкі!
Та-ра-ра-гоп...

*(Бачыць у люстэрка, што ў дзвярах насупраць паявілася Алена Змітраўна. Корчыць грымасу здзіўлення і абарочваецца.)* Дык ты яшчэ не клалася?.. А я паслухаў — ціха, ні гуку, падумаў, што вы ўжо на куросаднях.

**Алена Змітраўна** *(спакойна, але патрабавальна)*. Дзе ты быў пасля дзевяці?

**Кутас** *(прымае здзіўлены выраз)*. Як гэта — дзе я быў? Хіба ты не ведаеш, дзе я быў?

**Алена Зміграўна** (*тым жа тонам*). Не ведаю, таму і пытаю: дзе ты быў пасля дзевяці?

**Кутас** (*стараецца ўтрымацца на лагодна-жартаўлівым тоне*). Аленачка, што за допыт? У мяне сёння чатыры гадзіны на вячэрнім — з сямі да адзінаццаці. (*Глядзіць на гадзіннік.*) Якраз адзінаццаць гадзін.

**Алена Зміграўна.** Якую лекцыю ты чытаў пасля дзевяці?

**Кутас** (*стараецца выкруціцца*). Скажы мне спачатку, чаму ты ўчыняеш гэты допыт?

**Алена Зміграўна.** Я хачу ведаць, з кім пражыла столькі гадоў — з чалавекам ці хлусам і нягоднікам. Дык якую лекцыю ты чытаў пасля дзевяці?

**Кутас** (*пераходзіць на злосць, рэзка*). Лекцыю пра вобраз Васілісы Прамудрай у народных казках! (*З выклікам.*) Што далей?

**Алена Зміграўна.** Ты ўпэўнены ў гэтым?

**Кутас** (*рэзка*). Упэўнены!

**Алена Зміграўна.** Разгарні папку і паглядзі — ты памыляешся.

**Кутас** (*на твары ў яго адбілася здзіўленне*). Як гэта — я памыляюся? Што я — не помню, што я чытаў?

**Алена Зміграўна.** Выходзіць, што не помніш. Я прашу: разгарні папку і паглядзі.

**Кутас** (*заінтрыгаваны яе настойлівасцю, ідзе да стала, але з паблажлівай усмешкай: маўляў, што з капрызнай бабай зробіш*). Ты захацела павесяліцца насупраць ночы? Ну што ж... (*Разгортвае на стале папку, вымае адтуль стос лістоў і падносіць да вачэй.*)

**Алена Зміграўна.** Чытай уголас, каб я чула.

**Кутас** (*чытае, голас паступова траціць упэўненасць, на твары адбіваюцца здзіўленне і разгубленасць*). «Байка Крапівы «Сука ў збане» пачынаецца з характэрнай экспазіцыі: браты Сцяпан і Васіль косяць, а сука Фінця тым часам ляжыць за кустамі ў халадку». (*Перастае чытаць.*) Што за лухта? Як у маёй папцы магла апынуцца гэта сука Фінця? Хто мне яе падсунуў? У мяне была тэма: вобраз Васілісы Прамудрай, а не сукі Фінці. (*Здымае верхні ліст і чытае на наступным.*) «Эс-

тэтычны аналіз байкі мы пачнём з пастаноўкі чатырох кардынальных пытанняў. Першае: што рабіла сука ў той час, як браты Сцяпан і Васіль касілі? Другое: з якой мэтай сука тунькалася каля касцоў? Трэцяе: каго трэба разумець у вобразе сукі? І чацвёртае: у якім грамадстве могуць быць такія сукі?»... Божухна! *(Ашаломлены і абураны.)* Гэта ж лекцыя Тараракі па сучаснай літаратуры! Гэта ж яго стыль і ўзровень! Хто гэта мог мне ўсучыць? *(Глядзіць на Алену Змітраўну.)*

**Алена Змітраўна.** Ты сарваў дацэнту Тарараку адкрытую лекцыю. У дзевяць у яго павінна была быць лекцыя, а ты схапіў яго папку і кудысьці збег. Тваю папку ён пераслаў сюды дзве гадзіны назад.

**Кутас** *(глядзіць на папку, грэбліва адсоўвае яе на край стала, цяжка апускаецца на крэсла)*. Стары асёл!.. *(Узлакаціўся на стол і абхапіў галаву рукамі.)*

Добрую хвіліну цягнецца маўчанне.

**Алена Змітраўна** *(спакойна, але настойліва)*. Ну, дык дзе і з якой мэтай тунькалася сука Фінця, ці як яе там завуць? *(Кутас не падымае галавы і маўчыць — ён ліхаманкава шукае выйсця са становішча.)* Хведар Пятровіч, я пытаю, дзе і з якой мэтай тунькалася сука?

**Кутас** *(устаўшы, з напушчаным шкадаваннем, але бадзёра)*. Ах, Алена-Аленачка! Я хацеў табе сюрпрыз зрабіць — ну, а калі так, то прыйдзецца выкласці ўсё зараз. *(Радасна.)* У чацвер мы з табой купляем «Масквіча»! Вось па гэтаму пытанню я і хадзіў да адной асобы.

**Алена Змітраўна** *(глядзіць на яго доўга і ўважліва. Памаўчаўшы)*. Да дзядзькі Арнольда Пацярухі?

**Кутас** *(здзіўлена)*. Ты... адкуль гэта ведаеш?

**Алена Змітраўна.** Сам Пацяруха сказаў. Ён быў тут: папку тваю па просьбе Тараракі прынёс. Тое, што ты робіш,— гэта нізка і агідна. Спадзяюся, ты задумаешся і зразумееш гэта. Я, аказваецца, вельмі кепска знаю, на што ты здатны. Я, напэўна, увогуле вельмі мала знаю. У мяне над-

та гідка на душы, але сёння я нічога больш не скажу. *(Рэзка паварочваецца і выходзіць.)*

**Кутас** *(услед)*. Ды пачакай ты, Алена!.. *(У гэты ж момант на тумбачцы зазвінеў тэлефон. Кутас нехаця падыходзіць да апарата і здымае трубку.)* Слухаю! Хто? Таракака?.. Што я нарабіў? *(Хвіліну слухае моўчкі.)* У вас усё?.. Цяпер паслухайце мяне. Скажыце, колькі гадоў вы чытаеце студэнтам гэты курс?.. Скора трыццаць?.. І за трыццаць гадоў не завучылі на памяць, чаго сука тунькалася каля касцоў? Без папкі не маглі абысціся? На пенсію вам пара, Язэп Саўкавіч, на пенсію! *(Злосна кладзе трубку на апарат і вяртаецца да стала. Пастаяў хвіліну ў роздуме, паківаў галавой і, развёўшы рукамі, накіраваўся да дзвярэй.)*

*Заслона.*

## ЭПІЛОГ

На сцэну перад заслонаю выходзяць: з аднаго боку — **Кутас**, з другога — **Пацяруха**. На сярэдзіне сустракаюцца.

**Пацяруха** *(з крыўдай у голасе, з роспачу)*. Хведар Пятровіч! Я ўжо дзве гадзіны шукаю вас. Як гэта ўсё зразумець? Насуперак вашай... нашай дамоўленасці яна паставіла мне па нямецкай двойку!..

**Кутас** *(горка ўсміхаючыся)*. Двойку... Двойка — гэта яшчэ паўбяды. Мне яна, браце ты мой, кол паставіла! Можна сказаць — асінавы!.. А двойка — гэта драбяза.

**Пацяруха.** Як — драбяза? Але ж гэта значыць, што ляснула мая аспірантура! Мая запаветная мара!

**Кутас** *(разводзіць рукамі)*. Нічога ўжо, браце ты мой, не зробіш. Прыйдзецца табе пачынаць спачатку — праз год.

**Пацяруха** *(з дакорам і асуджэннем)*. Хведар Пятровіч!.. Яшчэ тры дні назад вы мяне стукалі па плячы і казалі: ну, цяпер ужо можаш лічыць

сябе аспірантам! А што ж выходзіць? Што праўду кажа старая прыказка: не кажы «гоп», пакуль не пераскочыў!..

**Кутас.** Гэтую старую прыказку, дарэчы, можна абнавіць. Да нашай сітуацыі, мне здаецца, лепей падыдзе такі варыянт: не кажы «гоп», не пагаварыўшы з жонкай. Запішы ў свой сшытак — на ўсякі выпадак. Можа, калі-небудзь спатрэбіцца. *(Ляпае Пацяруху па плячы і пакідае яго.)*

**Пацяруха** *(уголас, марудна, як бы стараецца ўнікнуць у сэнс слоў).* Не кажы «гоп», не пагаварыўшы з жонкай... А што? У гэтым, калі хочаце, ёсць вялікі сэнс. Прыказка вучыць, што складаныя пытанні трэба ўзгадняць з нашай сучаснай жанчынай — перадавіком фабрычнай і саўгасна-калгаснай вытворчасці. І абноўлена прыказка якраз на пяцьдзесят працэнтаў! Пайду запішу, пакуль не забыўся. *(Пакідае сцэну.)*

1971

Драма
ў адной дзеі

# МЫ СКОРА ЗАВІТАЕМ ЗНОЎ



ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

**Андрэй Селях** — партызан, гадоў 20.
**Антон Габэлік** — былы аднакласнік і сябра Андрэя.
**Надзя Аскерка** — іх былая аднакласніца.
**Гілена** — маці Антона, гадоў пад 60.
**Карп** — паліцай, гадоў пад 30.







Дзея адбываецца ў цяжкі для нашай Радзімы час, у канцы лета 1942 года, на акупаванай фашыстамі Беларусі. Дэкарацыя — абстаноўка звычайнай вясковай хаты, яе першай — «чорнай» — палавіны: печ, стол, два ўслоны, акно, двое дзвярэй — адны з двара, другія — на чыстую палавіну. Ля печы — качарэжнік. На сцяне — паліца для посуду і лыжак. На канцы стала — загорнуты белы настольнік.

**Гілена** сядзіць на ўслоне і скубе пер'е. На другім услоне — качалка і валак, відаць, гаспадыня нядаўна качала бялізну. На стале гарыць газнічка, зробленая з гільзы.

**Гілена** (*цяжка ўздыхаючы*). Ой, божа мой, божа... Каторая пара, а яго няма. Чуе маё сэрца,

што і сёння прыйдзе такі ж засмучаны, як заўсёды. Хай бы ўжо ён хоць трохі супакоіўся і гэтак не перажываў, не мучыўся! Падумаўшы, дык ці ж гэта цяпер час ладзіць вяселле, абзаводзіцца сям'ёю? Калі гэтакая калатнеча ў свеце, калі адзін бог ведае, што робіцца, і калі гэта ўсё скончыцца!.. Але ж ці маладому сэрцу загадаеш? *(У сенцах нехта загрукаў нагамі. Гілена павяла галавой, прыслухалася.)* Не, нехта чужы, не Анцік.

Заходзіць **Карп** — невысокі, з распаватым тварам і пляскатым носам, у паліцэйскай уніформе, з вінтоўкай за плячыма. Бачна, што на добрым падпітку.

**Карп** *(наўмысна громка)*. Гутан абанд, цётка! Фарштэйн?

**Гілена.** А божа мой, Карп, ты ўжо скора і гаварыць па-нашаму развучышся. Зусім ужо на немца пераробішся.

**Карп** *(задаволены, моцна рагоча)*. Гучыць? Га? Вось іменна! Я сказаў табе: здарова, цётка!

**Гілена.** Неяк жа здарова, дзякаваць богу. Хварэць няма часу.

**Карп.** Ну, хварэць! Хварэць будзем пасля поўнага разгрому бальшавізму! А цяпер — нельга. Ты што — адна дома? Ці Антон ужо ўлёгся?

**Гілена.** Дзе табе ўлёгся! Яшчэ не прыйшоў во... І вячэра даўно акалела. Забавіўся недзе. Мабыць, у Шыктавых, на зборышчы. А ці ты не адтуль ідзеш?

**Карп** *(здымае вінтоўку, садзіцца насупраць, цераз стол, на ўслоне)*. Не, я з другога канца, з участка. Бачу — не спіцё, зайду, думаю, навіна важная ёсць для Антона. Такая навіна, што — самы раз яму падавацца цяпер да нас, у паліцыю. А то пасля позна будзе. Пасля — не ацэніцца. Не будзе заслуг мець ніякіх перад новым парадкам.

**Гілена.** А што ж гэткае важнае здарылася? Можа, дзякаваць богу, вайна скончылася?

**Карп.** Пакуль што — не скончылася, але справа ідзе к гэтаму. *(Прыстукнуўшы прыкладам аб падлогу.)* Халэмус бальшавікам скора, цётка! Як піць даць — халэмус!

**Гілена.** Хто ж яе цяпер, тую праўду, ведае, можа, як ты кажаш, і халэмус.

**Карп.** Што за сумненні! Халэмус — на ўсе дваццаць пяць! На ўсю катушку! Як гаворыць майн гер Штольц, мой начальнік — вас іс дас і аллес капут! Капут, цётка!

**Гілена.** Доўга ж нешта гэты капут цягнецца. Год назад, помню — якраз жа гэтай самай парою — спыніўся каля нас адзін з матацыклам, нешта было сапсавалася, бо ладзіў. І, мусібыць, сам ахвіцэр вялікі, бо тут во, каля шыі кругом, у бліскучых цацачках. Падышлі тады бабы, спрабавалі загаварыць, спытацца, ці скора вайне канец, ці скора мужыкі дамоў вернуцца. Праўда, нічога ён не ўмеў па-нашаму. Адно толькі паўтараў увесь час: «Масква — капут, Сталін — капут! Масква — капут, Сталін — капут!» Гэта ж ён год назад казаў, а во Анцік вычытаў у газеце, у гэнай, што ты прынёс, што Маскву так і не дасталі, яшчэ й да гэтага часу...

**Карп.** Тая газета ўстарэла даўно! Ёй ужо больш за месяц недзе! Я во новую прынёс, з апошнімі ведамосцямі. Толькі што з Мінску прывезлі. Дык вось табе ўся праўда, цётка: доблесныя войскі фюрара выйшлі на Волгу! Фарштэйн?

**Гілена.** А дзе гэта — на Волгу?

**Карп.** Дзе? Гэта куды далей, чым Масква! Гэта ўжо, лічы, за спіной Масквы!

**Гілена.** Дык што — ужо ваш фурар у Маскве ўсеўся?

**Карп.** Пакуль што не ўсеўся, але не сёння-заўтра гэта будзе. Як піць даць — будзе! Да зімы ўсё скончыцца! Так што досыць вашаму Антону цілімоніцца. Крайняя пара за розум брацца. Я ўжо яму раіў неаднойчы, нават і свайму начальству гаварыў пра яго. Мы яго, можна сказаць, чакаем. Ты скажы яму сваё слова, падахвоць яго. Знаеш, як тваё слова падзейнічае!

**Гілена** *(з просьбай у голасе)*. Карп, што гэта ты гаворыш такое? Каб я сама падахвоціла сваё дзіця на згубу ісці! Карп, ты ж старэйшы намнога, ну падумай — які з майго Анціка ваяка, ён жа яшчэ зусім малады. Карп!

**Карп.** Малады для вайны лепш, чым стары, цётка!

**Гілена.** Богам малю цябе, Карп, не цягні ты яго, не зводзь! Ці ж у вас мала народу без яго?

**Карп.** Вось іменна што мала! Калі кожны будзе во гэтак шкадаваць і трымаць ля спадніцы сваё дзіцятка — дык хто ж паможа фюрару ўсталяваць новы парадак? Да таго ж лясныя бандыты распладзіліся! І ўсё больш нахабнічаюць. Так што цілімоніцца нечага, цётка. Во газета прыйдзе — хай сам пачытае, хай пераканаецца. Я заўтра зайду забяру. *(Падымаецца, закідвае вінтоўку за плячо.)* М-да, не шкодзіла б за такую навіну яшчэ адну шкляніцу прапусціць, га? Не прыхавала там дзенебудзь?

**Гілена.** Няма, Карп, і ў паміне няма на сялібе. Анцік, дзякаваць богу, смаку ў ёй не чуе, дык я і не абзаводжуся.

**Карп.** Шкада! А нашто ты скубеш гэта пер'е? Дачок у цябе няма, каб падушкі на пасаг збіраць. А нявестка свае прывязе.

**Гілена.** А хто ж гэта ведае — ці прывязе, ці, можа, і не прывязе. Зраблю — дык спатрэбяцца.

**Карп.** Ну, калі ён возьме гэну Аскеркаву падчарку — дык на падушкі не спадзявайся. Не падабаецца яна мне, дарэчы.

**Гілена.** Надзя?

**Карп.** Надзя.

**Гілена.** А чым жа яна брыдкая ці заганная?

**Карп.** Не брыдкая. Але, па-мойму, не тым дыхае і не туды глядзіць. Ну, гэта мы яшчэ разбяромся. Толькі — нікому ні мур-мур, цётка! Фарштэйн? Пайду, загляну яшчэ на зборышча. *(Накіроўваецца да дзвярэй.)*

**Гілена** *(пераймае яго і хапае за рукі)*. Карп, май сэрца, прашу цябе, не чапіся да Анціка, не цягні яго ў паліцыю. Хопіць у твайго фурара ваякаў без яго. Адзін жа ён у мяне, Карп, і хай яго міне гэтае ліхалецце.

**Карп.** Э-э, няма і ў цябе галавы, цётка! І ты не разумееш, што я хачу зрабіць як лепш для яго ж самога. Шчасце сваё ўпусціць твой Анцік, вось што! Фарштэйн? А-а? Гутын нах! *(Выходзіць.)*

**Гілена** *(зноў садзіцца за пер'е, але не скубе, сядзіць, склаўшы рукі, і думае ўголас)*. Шчасце

ўпусціць, кажа. Нехта цяпер ведае, дзе шчасце, а дзе няшчасце. Калі гэткае безгалоўе ў цэлым свеце — дык дзе яго шукаць, тое шчасце, чалавеку? Трэба перачакаць, пакуль усё ўляжацца, уціхамірыцца. Не можа ж быць, каб гэта цягнулася вечна. А тады і пра шчасце падумаць. Калі шчаслівы радзіўся, дык знойдзецца, тваё ад цябе не ўцячэ... *(Паўза.)* А што ж гэта ён да Аскеркавай Надзі мае? Куды гэта яна не туды глядзіць? І не тым дыхае, кажа. Пэўне ж, самагонкай, як ён, не дыхае, дык дзе ж яму будзе даспадобы. *(У сенцах зноў пачуліся крокі. Гілена падхапілася.)* Анцік!

Заходзіць **Антон,** худы, досыць высокі і шыракаплечы дзяцюк, у танным, вынашаным гарнітуры. Выгляд — не трэба ні пра што пытацца: на душы чорна.

**Гілена** *(пільна паглядзеўшы на сына).* З Карпам не сустрэўся на вуліцы?

**Антон.** Ні з кім не сустрэўся. *(Здымае з шастка каля печы, над духам, сцяблінку табакі, бярэ днушку, нож і пачынае крышыць самасад на курава.)*

**Гілена.** Быў толькі што тут, відаць, у другі бок пайшоў, раз не спаткаліся. Ізноў чоўп мне сваё дурное, каб ты ў паліцыю падаваўся. Ужо, кажа, і з начальствам гаварыў пра цябе. *(Пакідае пер'е, разгортвае на другім канцы стала настольнік, пад якім аказаўся ёмкі акраец хлеба, здымае з паліцы і ставіць на стол міску.)*

**Антон** *(злосна крышачы «дудку» самасаду).* Калі і пайду, дык толькі — каб гэную кралю престрэліць. Каб лютасць з душы адвалілася, а то — дыхаць не дае.

**Гілена** *(спалохана).* Анцік!.. Анцічак, ты пра каго гэта?

**Антон.** Пра каго ты падумала. Пра каго ж яшчэ! Я ўжо рашыў, мама: або — або! Або яна — гэта самае, або — я зраблю нешта страшнае.

**Гілена** *(яшчэ больш спалохана).* Анцічак! Перахрысціся, што ты сказаў!.. Ой, божачка! Ой, божачка мой! *(Замітусілася па хаце.)* Што гэта ён гаворыць такое! Ён пойдзе ў паліцыю, каб застрэліць Надзю!.. Анцічак, сынок, апомніся, супакойся. Ой, які ты зрабіўся! Які ты непадобны зрабіўся!

Во калі бацькава натура палезла з цябе! Ды пачакай жа ты закурваць, павячэрай жа спачатку хоць трохі. Ой, божачка мой!..

**Антон** *(круцячы самакрутку).* Я не магу есці. Не буду. Накарміла мяне маё мілаванне — во! *(Паказвае рукой «па горла».)*

**Гілена.** Сыночак мой, з'еш хоць трохі, хоць малачка з хлебам. Гэта ж ты ўжо каторы дзень не вячэраеш! Паглядзі на сябе, як ты змарнеў за гэта лета, як ты высах. Анцічак!..

**Антон** *(прыкурваючы ад газнічкі).* Я ж ужо сказаў, мама: есці не хачу. Што гэта за газета? Карп прынёс? *(Бярэ і разгортвае газету.)*

**Гілена** *(зноў села за пер'е).* Карп. Казаў, напісана там, што немцы далёка за Маскву зайшлі і скора вайна скончыцца. Гэта ўжо каб ты сам пачытаў і пераканаўся, што трэба ісці ў паліцыю. А я ж яго ўжо тут так прасіла, каб ён не прыставаў да цябе. Так прасіла!.. Не слухай яго, Анцічак! Не вер яму! Нікому цяпер не давай веры!..

**Антон** *(адсоўваючы газету, у задуменні).* Цікава... Выйшлі на Волгу і на ўскраіны Сталінграда. Калі гэта ўсё праўда, то, відаць-такі, блізка канец.

**Гілена** *(пасля даўгаватай паўзы).* Дык што ж яна табе, сынок, сказала? Ізноў тое самае — «адкладзём гаворку да канца вайны»? Ці ўжо што новае?

**Антон.** Новае. Адкладаць няма чаго. Няма сэнсу. Яна кахае другога.

**Гілена** *(уражана).* Каго ж гэта?

**Антон.** Каб яшчэ табе сказала каго.

**Гілена.** Можа, гэнага Мырсу? Чула, што ён ля яе круціўся на вечарынках.

**Антон.** Круціліся многія, ды без толку.

**Гілена.** Дык яна табе так у вочы і сказала, што ёсць другі?

**Антон.** Так нарэшце і сказала. «Не хачу нічым цябе крыўдзіць, але я не вінавата, Антон: я думала, ты сам здагадаешся, што маё сэрца даўно занята, і да астатку. І дзень і ноч я думаю толькі пра аднаго яго». Аж горача мне стала. Аж млосна. Гатоў быў у той міг ударыць і нават забіць яе!

**Гілена.** Ты бач, як нехта запусціў кіпці глыбока!

Тут ужо, сынок, злосцю і пагрозай не паможаш, не, тут цярпенне трэба... І хто ж гэта можа быць? Ні пра кога ж, здаецца, людзі не гаварылі. Ні з кім яе сам-насам не бачылі...

**Антон.** Я здагадваюся, хто гэта. Яго няма тут, у вёсцы. Таму і не бачылі і не гаварылі.

**Гілена** *(не адразу)*. Ці не пра Андрэя ты думаеш?

**Антон.** А пра каго ж яшчэ!.. Я заўважаў і раней, як яна на яго пазірала, яшчэ да вайны. Аж перастала на вечарынкі хадзіць, як ён пайшоў у партызаны. Толькі сам ён, па-мойму, нічога не ведае і не падазрае нават.

**Гілена.** Ці не склаў ён дзе галаву, Анцік? Гэта ж ён заходзіў да цябе калі — яшчэ ў маі? І сказаў, што прыйдзе роўна праз месяц. А не прыйшоў жа! Каб ён ужо, даў божачка, і забыўся на цябе, калі яшчэ жывы дзе!

**Антон.** Калі жывы, то прыйдзе, не забудзецца. Каго-каго, а яго я ведаю добра.

**Гілена** *(хрысціцца)*. Даруй мне, божа, мае думкі нядобрыя... Сынок, паслухай, што я табе скажу, і, можа, я цябе развяжу. Ты не бяры так цяпер да галавы, што яна сказала. Ніхто ж не ведае, як пойдзе далей жыццё. І ці вернецца ён жывы, ці не вернецца — таксама адзін бог ведае. Гэта ж вайна! Усё можа здарыцца. І што ж тады будзе рабіць Надзя? А нідзе не дзенецца. Маладосць возьме сваё. Паперажывае ды забудзецца. Колькі ўжо было такога ў свеце — уга! Агледзіцца і за цябе пойдзе, вось пабачыш. Не будзе ж яна сваё багацце да старасці ў сабе насіць! Ну, хіба я не праўду кажу, Анцік?

Антон курыць і нічога не адказвае. У гэты час хтосьці тройчы нягучна пастукаў з двара ў шыбіну.

**Антон** *(падхапіўшыся)*. А вось і ён. Прыйшоў. Лёгкі на паміне.

**Гілена** *(амаль з нянавісцю)*. Прынесла-такі нячыстая. Анцік, не паддавайся ні на якія ўгаворы! Чуеш?

**Антон** ідзе ў сенцы і праз хвіліну вяртаецца з **Андрэем**. Андрэй — у цывільным гарнітуры, у кепцы. Зброі не

відаць. На твары — усмешка. Заходзіць спакойна, як бы ў добры даваенны час.

**Андрэй.** Добры вечар, цётка Гілена! Як жывыздаровы, як чуецеся? *(Падае Гілене руку і энергічна вітаецца.)*

**Гілена.** Так во і чуемся, што спакою няма ні днём ні ноччу.

**Андрэй** *(зірнуў на Гілену, зразумеў, у чый агарод камень, перавёў пагляд на Антона)*. Ты што гэта ўсё адно як збянтэжаны, Антон? *(Шырока ўсміхаецца.)* Ты, мусіць, ужо не чакаў мяне, га? Мусіць, падумаў, што я ўжо, напэўна, недзе гнію ў балоце? Або ў лесе да касцей мурашкі аб'елі? Падумаў? Ну, прызнавайся! *(Грукае Антону кулаком у плечы.)*

**Антон.** Не гавары абы-чаго. Прысаджвайся, што мы стаім сярод хаты. *(Сядаюць на розныя канцы стала. Гілена стала каля печы.)* Газніцу, я думаю, можна патушыць. *(Хукае і тушыць газніцу.)* Відна ў хаце і ад месяца.

**Андрэй.** Калі падумў — дык ты, брат, быў зусім недалёка ад праўды. За адной крупінкай не аддаў душу богу. Чуць выкараскаўся! Сем тыдняў праваляўся ў нашым лясным шпіталі. Ішоў да цябе — роўна праз месяц, як дамаўляліся,— і каля Альхоўкі мяне падстрэлілі — собіла якраз нарвацца на погань. Добра, што ў кусты пабаяліся сунуцца — а то б і даканалі там, дзе я ляжаў і сплываў крывёю.

**Гілена.** Ой, мой божачка! Божачка мой мілы! Каб гэта жыла твая маці і чула, што ты расказваеш! І як жа гэта ты не баішся адзін па ночы бадзяцца?

**Андрэй.** Гэ, цётка! Дзвюм смерцям не бываць — адной не мінаваць! Як у той песні пяецца: смелага куля баіцца, смелага штык не бярэ! Але ладна! Доўга расказваць няма часу. Ідзіце, цётка, кладзіцеся спаць, а мы з Антонам тут трохі пра сваё пашэпчамся.

**Гілена.** Ды пайду, пайду, замінаць вам не буду, але я хачу сказаць табе, Андрэйка, каб ты ўжо да майго Анціка не чапіўся з гэтымі парцізанамі. Не падбівай яго, дзіцятка...

**Антон** *(перабівае маці)*. Мама! Ну папрасіў жа чалавек не замінаць, дык што ты тут пачынаеш свае модлы — ідзі кладзіся і спі.

**Гілена** выходзіць у чыстую палавіну хаты.

**Андрэй.** Маці, брат, ёсць маці. Яе можна зразумець — і яе трывогу, і боязь. Але ёсць і яшчэ Маці, якая для ўсіх для нас адна і якую таксама трэба зразумець. Тым больш што ёй, гэтай нашай усіхнай, вялікай Маці, вельмі цяжка цяпер, Антоне. Так цяжка, як, можа быць, ніколі. Дык я, брат, прыйшоў да цябе ад імя той Маці. Прыйшоў пачуць твой адказ. Ты прасіў на абдуманне месяц, а прайшло ўжо цэлыя тры. Я, між іншым, спадзяваўся, што ты знойдзеш дарогу сам, без мяне. Кожны дзень у шпіталі ўспамінаў цябе і чакаў, што вось ты зараз зойдзеш, што ты ўжо ў атрадзе... А ты ўсё яшчэ сядзіш дома. *(Паўза.)* Дык які ж твой адказ, Антоне? Часу ў цябе на абдуманне было многа.

**Антон** *(не адразу)*. А ты ні да чога не дадумаўся, лежачы ў шпіталі?

**Андрэй.** Я? Не разумею, што ты маеш на ўвазе.

**Антон.** А тое, што, можа, і табе варта задумацца.

**Андрэй.** Нешта не цямлю, куды ты хіліш. Можа, і мне варта, гледзячы над чым.

**Антон.** Можа, ты не ведаеш, што на фронце робіцца і дзе гэты фронт апынуўся?

**Андрэй.** О-о, Антон! Дык вось над чым ты мне прапануеш задумацца! Вось чаму ты так нявесела спаткаў мяне! Аказваецца, твае думкі тым часам круціліся зусім не ў той бок!

**Антон** *(пачынае злавацца)*. А куды ім загадаеш круціцца? Немцы дайшлі да Волгі, захапілі Паўночны Каўказ! Стаяць пад Масквою! Трымаюць у блакадзе Ленінград! Можа, ты карту не ўяўляеш? На што вы спадзеяцеся? Чаго варта гэтае ваша лясное бадзянне? *(Асекся.)*

**Андрэй.** Ну, давай, давай, брат, развівай свае аргументы далей.

**Антон.** А куды ж далей? Хіба не ясна і так, што твае хвалёныя маршалы вайну прайгралі?

І ты ў гэтай сітуацыі агітуеш мяне пайсці ў лес на пагібель? Скруціўся сам і хочаш маё жыццё скруціць таксама? А ў імя чаго? Які разумны сэнс у гэтым?.. Дык вось я цябе прашу, Андрэй: пакінь мяне ў спакоі. Ідзі, калі табе даспадобы, прадаўжай бадзяцца, а да мяне з такой агітацыяй не прыходзь. Вельмі прашу цябе!..

**Андрэй.** Та-ак! Здорава ж цябе апрацавалі за гэты час, Антоне! Мне такі Надзя сказала, што, відаць, нічога добрага з нашай размовы не выйдзе. Але, ты знаеш, я ёй не паверыў. А цяпер бачу, што яна не памыляецца, што яна тут разабралася ў табе досыць дакладна.

**Антон** *(устрывожана)*. Ты... быў у Надзі? Цяпер?

**Андрэй** *(не звярнуўшы ўвагі на яго пытанне, напружваючы голас)*. Ра-за-бра-лася... Знаеш, што зараз, у гэту хвіліну, у мяне ў думках? *(Паўза.)* Не знаеш? А тое, што за такія твае словы я павінен цябе расстраляць як здрадніка Радзімы. *(Павышаючы голас.)* І я зараз жа гэта зраблю, Антон Габэлік! *(Выхоплівае з кішэні пісталет і накіроўвае на Антона. Абое як па камандзе устаюць.)* Імем Радзімы, якой ты здрадзіў, імем праўды, у якой ты зняверыўся, імем сяброў, якіх ты выракся, імем маладосці, якую ты зганьбіў,— я прыгаворваю цябе да пакарання смерцю і пускаю ў твой бязмозглы лоб...

Расчыняюцца дзверы з чыстай палавіны хаты, і да Андрэя з немым крыкам кідаецца **Гілена.**

**Гілена.** Не-е! Не-е! Не руш! *(Хапае за руку з пісталетам.)* Лепей мяне! Лепей мяне, Андрэй! Не губі дзіця маё!.. Божачка!

**Андрэй** *(апусціўшы руку з пісталетам, у гневе)*. Гніда закаўнерная! Дваццаць год дыхаў савецкім паветрам і не ўшалопіў, што гэта значыць? Дваццаць год было мала, каб дадумацца, што трэба Радзіму абараняць ад ворагаў? Ды гэта дзеці з калыскі разумеюць і помняць усё жыццё, без падказкі. А ты мне — «трэба падумаць», «дай мне часу падумаць»! Я пытаюся: пра што ты думаў дваццаць гадоў? Калі хадзіў у школу? Калі спяваў

у піянерскім атрадзе побач са мною песні і трымаў чырвоны сцяг над галавою?

**Гілена.** Андрэйка, сядзь, супакойся. *(Да Антона.)* Сядзь і ты, Анцік. Сядзьце і супакойцеся. Божачка! *(Андрэй садзіцца, услед за ім апускаецца на ўслон і Антон.)* Божачка! Да якога гневу дайшло! Андрэйка, схавай свой левальверт, схавай, дзіцятка. *(Андрэй засоўвае пісталет у кішэнь.)* Як жа гэта так можна, з малых гадоў сябравалі, на адной парце ў школе сядзелі... і каб да такой непрыязні дайшло!..

**Антон** *(прыглушаным голасам)*. Ну, хопіць мама. Ідзі, дзе была. Мне нічога не страшна. І ты не бойся, ідзі...

**Андрэй** *(спакойна)*. Супакойцеся, цётка Гілена. Страляць я не буду *(з націскам)* у свайго таварыша і сябра. Калі будзе трэба — гэта зробяць другія. Уласна, размова наша на гэтым закончана. Мне пара ісці. Больш я ніякіх тэрмінаў табе не даю. Але калі ты і зараз не зразумееш, дзе павінна быць тваё месца, ты можаш кончыць вельмі кепска. Запомні гэта!

**Гілена.** Андрэйка, дзіцятка, ну чаго ж ты так прычапіўся да Анціка? Ці ж ён адзін малады хлопец у вёсцы? Вунь колькі дзецюкоў здаровых ходзіць — да іх жа ты во не прыстаеш чамусьці? Ці табе мой Анцік замінае чым?

**Андрэй.** Таму і прыстаю да вашага Антона, цётка, што мы сядзелі на адной школьнай парце. Я лічыў яго сваім сябрам. Але — як кажа прымаўка — сябры ў бядзе пазнаюцца. Вось і я пачынаю пазнаваць сяброў. *(Падымаецца.)* Ну, да хуткай сустрэчы ў лесе, Антон.

**Антон.** Пачакай... яшчэ хвілінку. *(Да Гілены.)* Мама, ідзі ў тую палавіну, я ж ужо прасіў цябе... Мне трэба нешта спытаць у Андрэя.

**Гілена**, уся насцярожаная, выходзіць.

**Андрэй.** Што ты яшчэ хочаш пытацца? Хіба мы не ўсё высветлілі?

**Антон.** Не ўсё... Прысядзь яшчэ на хвілінку. *(Садзіцца сам. Апускаецца на ўслон і Андрэй.)*

Я зразумеў, што ты перад гэтым заходзіў да Надзі?

**Андрэй.** Так, заходзіў. І што?

**Антон.** А чаго ты заходзіў?

**Андрэй.** А гэта ўжо цябе не датычыць! Ты пытаеш так, як быццам між намі нічога не адбылося... Зрэшты, магу сказаць — усё роўна ты рана ці позна даведаешся. А ў паліцыю, спадзяюся, не заявіш — да гэтакай подласці не дакоцішся. Дык вось, Антон: Надзя ідзе са мною ў лес, у партызаны.

**Антон** *(як абвараны, яму перахапіла дыханне).* Што?

**Андрэй.** У партызаны ідзе. Ваяваць з фашыстамі.

**Антон.** Надзя... у партызаны?

**Андрэй.** Я, здаецца, сказаў ясна. А што цябе так устрывожыла?

**Антон.** Ты гэта... навошта?

**Андрэй.** Што — навошта?

**Антон.** Навошта зводзіш на пагібель Надзю? Ты — не маеш маральнага права!

**Андрэй.** Ого! Гэта ўжо якаясь новая песня пачынаецца. Пра мараль, Антон, не табе гаварыць, і маралі ты лепш не чапай. Але чаму ты думаеш, што я яе зводжу?

**Антон.** Таму што яна пойдзе не па сваёй разумнай волі. Несвядома пойдзе.

**Андрэй.** Дзіўнае вярзеш нешта. Як гэта не па сваёй волі? Яна нават вельмі ўзрадавалася гэтаму! Калі хочаш ведаць, дык яна мне яшчэ тады, у маі, выказала жаданне ўступіць у атрад...

**Антон** *(перабіваючы, горача).* Не! Гэта толькі затое, што прапанаваў — ты! Толькі таму, што ў гэтым атрадзе — ты! Яна за табой пойдзе, а не ў партызаны. Не ваяваць. Ты проста сляпец і нічога не бачыш, не ведаеш. Яна для цябе — толькі таварыш, аднакласніца, і не больш. А хто ты для яе — цябе гэта не цікавіць. І таму ты раўнадушны да яе лёсу, да яе чалавечага шчасця... І таму так лёгка зводзіш яе на пагібель!..

**Андрэй** *(задумаўшыся).* Надзя табе сама па-

спавядалася, што ў яе на сэрцы? Ці ты проста так — фантазіруеш?

**Антон.** Нічога я не фантазірую. Сама сказала. І пакалькі ўсё гэта — праўда, то я і кажу: ты не маеш маральнага права браць яе ў лес. Гэта — несумленна! *(Усё ў большым запале.)* Гэта — спекуляцыя на пачуццях! Гэта — амаральна! Яна там можа нізашто загінуць! Ты яе не кахаеш — дык не злоўжывай яе пачуццём. Пакінь яе ў спакоі — і толькі!

**Андрэй** *(спакойна)*. Пачакай, Антон. Ты чаго так гарачышся? Я здагадваўся і раней, што ты да яе не роўна дыхаеш, але не думаў, канешне, што за апошні час ты гэтак сябе распаліў. Цябе так забрала, што ажно калоцішся, як гаворыш пра яе. Ну, добра. Давай паспрабуем разабрацца. Адна твая просьба — пакінуць у спакоі цябе. Другая твая просьба — пакінуць у спакоі Надзю. Каго мне яшчэ пакінуць у спакоі? *(Антон маўчыць. Павысіўшы голас.)* Я пытаюся ў цябе, Антон, каго яшчэ я павінен пакінуць у спакоі? Можа — гэту фашысцкую погань, што прыпаўзла сюды і поіць крывёю нявінных зямлю нашу? Можа — гэтых «бобікаў», агідных вырадкаў, што памагаюць нечысці душыць свой народ? Можа, я павінен Адольфа Гітлера пакінуць у спакоі — паклапаціцца, каб яму добра, безмяцежна спалася?.. Ну, не, дарагі мой! Пакуль гэты азвярэлы зброд топча мой родны край — я нікому не дам спакою. І сваім сябрам таксама! Радзіма ў небяспецы, у вельмі цяжкім становішчы, ёй патрэбны салдаты, і як мага больш! І патрэбны іменна цяпер, сёння, зараз, калі ёй цяжка! А ты тут... таргуешся за спакой. Мала што для сябе, дык яшчэ і для Надзі. Я паўтараю: Надзя ідзе сама, без ніякага прымусу...

**Антон.** Але ты цяпер ведаеш чаму.

**Андрэй.** Добра. Ты баішся за Надзю. Ты не хочаш, каб яна была далёка ад цябе. Дык жа ёсць найлепшы выхад: хадзем з намі разам! Я ж дзеля гэтага і прыйшоў, каб вас абаіх забраць з сабою. Табе даецца магчымасць паказаць Надзі, чаго ты варты — у баях, у паходах, у разведцы... А пасля, як даканаем гадаў, усталюем мір на зямлі — тады

і разбяромся і ў пачуццях, і хто каго кахае. Дык што — хадзем? Ці зноў будзеш думаць?

**Антон.** Я цябе на прамілы бог прашу — ты не зводзь цяпер за сабой Надзю. Чуеш? Мы пойдзем з ёй у партызаны, але трохі пазней... і ў які-небудзь іншы атрад. А цяпер ты не забірай яе. Чуеш? Адгавары, каб не ішла. Загадай ёй застацца. Ты ж можаш!

**Андрэй** *(круціць галавой, усміхаецца).* Нічога не выйдзе, Антон. Па-першае, паспрабуй адгаварыць яе. А па-другое, нам пазарэз патрэбен у атрадзе свой чалавек з дзяўчат. Такі, як Надзя... Без Надзі я не маю права вярнуцца — іначай я не выканаю баявога задання. Я — на вайне, Антон. Ты што — не разумееш гэтага?

**Антон** *(амаль крычыць).* Але ж яна можа загінуць там! Яе могуць забіць! Або зловяць і расстраляюць! А гэта ты разумееш?

**Андрэй** *(зусім спакойна).* Так, Антон, усё можа здарыцца. Амаль у кожным баі гінуць нашы баявыя таварышы. Мы ўжо многіх пахавалі, Антон. І пакляліся адпомсціць за іх.

**Антон** *(непрыкметна сціскае ў далоні ручку вàлака).* І гэта тваё апошняе слова?

**Андрэй.** Апошняе, Антон. Надзя пойдзе са мною.

**Антон** *(у лютым гневе).* Дык жа не будзе гэтага! *(Імгненна ўзмахвае ляўшой і гэхае валакам Андрэя па галаве.)* Сам згінь, навалач лясная!

Андрэй, трацячы прытомнасць, з'язджае з услона на падлогу.

Мама! Сюды скарэй! *(Кідаецца да Андрэя і выцягвае ў яго з кішэні пісталет. Убягае перапалоханая Гілена. У яе вырываецца крык жаху.)* Нясі скарэй вяроўку з сенцаў! Я аглушыў яго валакам.

**Гілена** *(заламаўшы рукі, лямантуе).* Божачка мой! Анцік! Што ты нарабіў! Сынок! Можа, ты забіў яго!

**Антон** *(у лютасці).* Вяроўку нясі скарэй, сказаў табе!

**Гілена** кінулася ў сенцы. Антон стаіць на каленях з наведзеным на Андрэя пісталетам.

**Гілена** (*вяртаючыся з сенцаў і падаючы вяройку*). Што ты нарабіў, сынок! А божачка мой міленькі, што ж гэта будзе? Анцічак!..

Антон спрытна звязвае непрытомнага Андрэя вяроўкай — спачатку па руках, а тады і па нагах.

**Антон** (*разгінаючыся і аддыхваючыся*). Вось так, таварыш і сябра. Не хацеў дабром — дык атрымаў калом. Надзю я табе не аддам. Ні табе і нікому. Гэта я ўжо сабе пакляўся цвёрда. (*Да Гілены.*) Бяжы па Карпа, ва ўчастак! Хуценька! А я тут пасяджу пры ім, павартую.

**Гілена.** Анцічак, сынок, ты ж, можа, забіў яго насмерць, ці жывы ён? Паглядзі, ці жывы ён! Дай я паслухаю сэрца. (*Спрытна прысядае і прыкладае вуха да грудзей Андрэя.*) Жывы, дзякаваць богу, тахкае. Ой, мой божачка!

**Антон** (*злосна*). Па Карпа бяжы, я сказаў табе! Зараз жа! Хай прыйдзе, забярэ яго — і я буду ні пры чым. Папаўся сам на вуліцы ці за вёскай. І ніхто ведаць не будзе. Ты зразумела? Хуценька!

**Гілена** (*божкаючы*). Бягу, сынок, бягу.

**Гілена** выходзіць з хаты. Антон садзіцца на ўслон, пісталет кладзе на стол перад сабою, закурвае.

**Антон** (*сам сабе*). Думаю, што цяпер можна і газнічку запаліць. Не так вусцішна будзе. (*Запальвае газнічку.*) Вось так, Андрэй, не хацеў уважыць маю просьбу — пажынай, што пасеяў. Я дабром прасіў — пакінь нас у спакоі. Пакінь! Дык не! Кожны лічыць, што ён можа распараджацца маім жыццём і лёсам, як яму захочацца. А можа, я хачу жыць па-свойму? А можа, мне напляваць, што вам у атрадзе пазарэз патрэбна такая дзяўчына?

На падлозе заварушыўся і застагнаў Андрэй. Антон пасунуў на край стала газнічку, каб святло ўпала на твар Андрэя, і прыгледзеўся. Андрэй расплюшчыў вочы, пакутліва павярнуў галаву.

**Андрэй.** Даўно прадаўся?

Антон адхінуўся, зноў адсунуў газнічку на сярэдзіну стала і глыбей зацягнуўся дымам.

Я пытаюся: даўно служыш у фашыстаў?

**Антон.** Я цябе дабром прасіў: ідзі, адкуль прыйшоў, і пакінь нас у спакоі. Дабром прасіў цябе! Ледзь не маліўся на каленях!..

**Андрэй.** Надзя табе гэтага век не даруе, дурань ты апошні. Вось цяпер-то ўжо ты нават забудзься, як яе і звалі. Яе сташніць ад агіды да цябе, калі яна даведаецца...

**Антон.** А яна не даведаецца. Зараз прыйдзе Карп, забярэ цябе ва ўчастак — і ўсё. Папаўся на вуліцы ці ў двары. Я — ні пры чым. Я — і знаць не знаў, што ты прыходзіў.

**Андрэй.** Ага... Значыць, ужо і версія прыдумана. Значыць, будзеш жыць невінаваты і чысценькі. Ажэнішся неўзабаве. Дзяцей гадаваць будзеш...

У сенцах пачуліся лёгкія і шпаркія крокі. Антон пазнаў, што вяртаецца маці. Задыханая, заходзіць **Гілена.**

**Антон.** Сказала?

**Гілена.** Сынок! Адпусці яго! Дзіцятка маё, богам цябе малю — адпусці яго!

**Антон** *(у гневе)*. Дзе Карп? Ты сказала Карпу?

**Гілена.** Анцічак, сынок, не злуйся і паслухай мяне. Не бяры такі грэх на душу.

**Антон** *(грукае кулаком па стале)*. Дзе Карп, я пытаюся?! Ты сказала Карпу?

**Гілена** *(падае на калені перад сынам)*. Я не дайшла, сынок, я вярнулася... Рабі са мной што хочаш, хоць забі, калі сэрца не маеш... Але адпусці Андрэя. Апомніся! Падумай, што скажуць людзі. Шыла ў мяшку не ўтоіш. Як я буду людзям у вочы глядзець, Анцік? Ну, пасварыліся, нават пабіліся, ці мала бывала калісь на вечарынках, што хлопцы за калы хапаліся... Але каб аддаваць Андрэя немцам... Анцік, апомніся! Паслухай мяне, старую.

**Антон** *(падымаючы маці з падлогі)*. Ну што ты перада мной, як перад катам якім,— на каленях... Устань і супакойся. А ты думаеш, што ён *(ківае галавой на Андрэя)* мне цяпер даруе? Позна ўжо, мама, справа зроблена.

У сенцах пачуліся цяжкія крокі. Антон схапіў пісталет, кінуўся ў другую палавіну хаты і стаў за дзвярыма з пісталетам напагатове. Гілена стала так, каб

хоць трохі засланіць сабою Андрэя. У хату ўваліўся яшчэ больш п'яны **Карп.**

**Карп** *(пераступаючы парог)*. Што гэта ў вас усю ноч святло гарыць? Іду з канца — зноў, бачу, у вас акно свеціцца. Хіба яшчэ Антон так і не прыйшоў? *(Заўважае за Гіленай на падлозе чалавека, імгненна зрывае з пляча вінтоўку і ляскае затворам.)*

Антон з пісталетам у руцэ выходзіць з-за дзвярэй.

**Антон.** Спакойна, Карп. Ён звязаны.

**Карп** *(усё яшчэ трымаючы палец на курку)*. Хто гэта? Адхініся, цётка, на морду глянуць хачу.

**Гілена** *(загаласіўшы)*. Што ты нарабіў, Анцік! А божачка ж ты мой! А што ж гэта цяпер з намі будзе! *(Ідзе да печы і там у кутку божкае і плача.)*

**Карп** *(радасна)*. Дык гэта ж!.. У-у-у, хто папаўся! Бандыцкі завадзіла на ўсю акругу! Вот гэта дык зэр гут! *(Да Антона.)* Гэта ты яго так уходаваў? Адабраў пісталет і скруціў? Ну, Антон! Ты не проста наш, ты ўзнагароды варты! Я далажу гэр Штольцу, які ты герой! Ах, вафлюхтар тваю пад рэбры, якая птушка папалася ў нашы лапы! *(Да Андрэя.)* Ну, галубчык, як тваё вас іс дас? Фарштэйн? Нікс гут, канешне? *(Задаволена рагоча.)*

**Андрэй.** Антон, апошняя ў цябе магчымасць уратаваць сваё жыццё і сумленне — кокні гэту пачвару! Зараз жа кокні, каб не разявалася і не смярдзела тут!

**Карп.** Што? Гэта я — пачвара? Гэта мяне — кокнуць? Ах, вафлюхтар тваю па чэрапе! Калі б ты не патрэбен быў гэр Штольцу жывы — я б табе растоўк зараз прыкладам усю мазгаўню. А так — палучай пад рэбры, неданосак бальшавіцкі! *(З п'янай азвярэласцю пачынае біць Андрэя ботам — у жывот, у спіну, у плечы.)*

Гілена з крыкам кідаецца да Карпа і адпіхае яго да сцяны.

**Гілена.** Звар'яцеў, Карп! Гэта ж чалавек, а так і скаціну не б'юць! Што ж ты звязанага забіваеш! Анцік, сынок, ён жа заб'е яго!

**Карп.** Адыдзі, цётка, я яшчэ і смаку не дабраў! Гэта яшчэ толькі разміначка, а зараз я сапраўды зраблю з яго пачвару — такую пачвару, што і маці родная не пазнае!

За крыкам не пачулі, як бразнула клямка і расчыніліся дзверы. На парозе паявілася **Надзя** — русакосая, высакаватая, танклявая, вельмі мілавідная з твару. Гілена ўбачыла яе першая.

**Гілена** *(заломваючы рукі)*. Надзечка! Бяда ў нашай хаце вялікая!..

Антон і Карп рэзка паварочваюцца да дзвярэй і настаўляюць зброю на дзяўчыну.

**Карп.** Рукі ўгору! Ні з месца!

**Антон** *(тут жа апусціўшы пісталет)*. Спакойна, Карп, не палохай.

Надзя не паспела падняць рукі, як убачыла на падлозе Андрэя. Закрычала і кінулася да яго.

**Надзя.** Андрэй! Андрэечка, родненькі! Што яны з табой зрабілі! Ах, сволачы фашысцкія!

Карп апускае вінтоўку і з сілай адштурхоўвае Надзю ўбок, так што яна паляцела ў качарэжнік.

**Карп.** Прэч, вафлюхтар тваю багародзіцу! А за сволач і ты зараз сваё атрымаеш. Усю абойму зараз выпушчу ў кішкі! Ты чаго сюды прыйшла? Ты што — можа, рашыла з ім у бандыты падацца?

**Надзя** *(падхапіўшыся)*. Страляй, паршывы рабы сабака! Страляй! Ты думаеш, я цябе баюся? На перакладзіне здохнеш ты, вырадак!

**Карп.** Я загадваю адказваць: ты чаго сюды прыйшла? Разам у лес сабралася?

**Надзя.** Разам! Сабралася! І шчасце тваё, што я не паспела ўзяць у рукі зброю. Ты быў бы на маім рахунку першым, фашысцкі халуй!

**Антон.** Надзя! Ты што на сябе нагаворваеш? Якое ты глупства гародзіш? Нікуды ты не сабралася, апроч як да мяне. *(Да Карпа.)* Не слухай, што яна ў прыпадку меле. Ты што — Надзі не ведаеш? Яна заўсёды такая была — гарачку парола. За слабых заступацца любіць. Не звяртай на яе крык увагі. З ёю я разбяруся сам.

Гілена падышла да Надзі і прытуліла яе да сябе. Тая затрэслася ў сутаргах ад плачу.

**Карп** (*незадаволена, але паважаючы «героя ночы»*). Глядзі, Антон!.. Я табе веру, але — глядзі. Я за гэтай тваёй цацай даўно назіраю. Глядзі, каб не падвяла яна цябе. (*Ідзе і стомлена садзіцца на ўслон. Вінтоўку заціскае між ног.*)

**Надзя** (*павярнуўшыся да Антона, плачучы*). Антон, як гэта магло здарыцца? Ты прадаў таварыша?

**Андрэй.** Надзя, не плач і не смей ні аб чым прасіць Антона. Чуеш? Ні аб чым! Застанешся жыць — знайдзі маіх сястрычак і раскажы, што знаеш.

**Карп.** Ну, вось што! Будзем канчаць гэту музыку. (*Да Антона.*) Развяжы яму ногі, і я паганю яго ва ўчастак — парадую гэр Штольца. А ты сабе тут разбірайся з Аскерчыхай. Можа, за ноч разбярэшся. (*Нядобра гыгыкнуў.*) Толькі глядзі — вуха трымай востра. А раніцою прыйдзеш да мяне, і пойдзем разам да гэр Штольца. Раскажаш, як усё было. Фарштэйн? Развязвай!

Антон падыходзіць да Андрэя, прысядае на кукішкі, пісталет кладзе побач на канец услона і пачынае развязваць вяроўку. Надзя сочыць за яго рухамі, і ў яе імгненна выспела рашэнне. Яна спружынай адскочыла ад Гілены, і за нейкія долі секунды пісталет апынуўся ў яе руцэ. Не паспеў Карп ускінуць на руку вінтоўку, як яна тройчы націснула на курок. Паліцай выпусціў зброю і рухнуў на падлогу. Гілена закрычала і заціснула рот далонню. Антон аслупянеў. Стаіць, разявіўшыся, з канцом вяроўкі ў руцэ, і не можа вымавіць слова. Надзя адступіла крок назад і наставіла пісталет на Антона.

**Надзя.** Развязвай хутчэй! А то астатнія ў цябе выпушчу, гадзюка падкалодная!

Антон зноў сагнуўся над Андрэем і хоць дрыжачымі рукамі, але хутка развязаў вяроўку. Андрэй, выслабаняючыся з вяроўкі, павольна падняўся і, шчасліва ўсміхнуўшыся, працягнуў рукі да Надзі.

**Андрэй.** Надзя!.. Надзя!.. Ты — самая слаўная ў цэлым свеце! (*У рэзкім парыве ён прытуліў да сябе дзяўчыну і горача пацалаваў у шчаку.*)

У гэты ж момант **Антон** кінуўся да дзвярэй, выскачыў у сенцы і — толькі яго бачылі. Надзя зрэагавала першая, крыкнула ўслед яму: «Стой, здраднік!» — і памкнулася кінуцца наўздагон, але ёй, шырока растапырыўшы рукі, перагарадзіла дарогу Гілена.

**Гілена.** Не-е! Не пушчу! Вы ўсе пазвярэлі! Анціка я вам не дам! *(Страшным голасам.)* Не дам Анціка!..

**Андрэй** *(усміхаючыся)*. Уцёк наш таварыш Антон Габэлік. Ну, што ж! Хай пакуль парадуецца! Пайшлі, Надзя, бавіцца нам тут нельга, стрэлы маглі пачуць. *(Падымае з падлогі і закідвае за плячо вінтоўку. Азірнуўся і зняў з Карпа патранташ. Да Гілены.)* Скажыце, цётка, сыну, што Радзіма яшчэ можа дараваць яму, калі ён заўтра будзе там, куды ідзём мы. Ну, а калі не — то мы скора завітаем зноў. І тады ўжо, цётка,— даруйце вы нам: з-пад зямлі яго дастанем, Анціка вашага, а кары народнай здрадніку не мінуць! Так і скажыце яму, цётка: з-пад зямлі дастанем!.. Пайшлі, Надзейка!

**Андрэй** і **Надзя** выходзяць. За імі ўслед і **Гілена** — глядзець, дзе падзеўся Антон.

*Заслона.*

1977—1978

# ПАТРЫЯРХАЛЬНЫ ДЗЯДОВІЧ

**Аднаактовая п'еса ў чатырох сцэнах**



## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

**Дзядовіч Васіль Дзям'янавіч** — гадоў 35.
**Ірына** — жонка Дзядовіча, гадоў на 10 маладзейшая за яго.
**Грак Міхась Іванавіч (Грак Першы)** — гадоў 35.
**Ніна Паўлаўна** — жонка Грака Другога, гадоў 30.



Дзея адбываецца ў вялікім горадзе.

## СЦЭНА ПЕРШАЯ

Сціпла абстаўлены гасціны пакой у кватэры Дзядовіча. Па пакоі нервовым крокам ходзіць узад-уперад **г а с п а д а р.** На твары ў яго — адбітак моцнага засмучэння і расчаравання, як у чалавека, які зразумеў, што ён ашукаўся ў найлепшых пачуццях і надзеях.

**Дзядовіч** *(прыпыніўшыся, сумна-горка ўсміхаючыся)*. Вось так, шаноўны Васіль Дзям'янавіч. Як гаворыць суседка: я вас праздраўляю! Праздраўляю з напарнікам у каханні!.. *(Скаланаецца ад агіды.)* Бр-р-р! Якое паскудства на душу звалілася... Дык вось чаму яна ўчора так са мною спаткалася: ні як жонка з мужам, ні нават як сястра з братам... І вось чаму яна апошнім часам, перад ад'ездам у Прыазёрск, была такая нервовая і няўважлівая. Усё казала: на рабоце не ладзіцца! Не

на рабоце. У душы нелады ўжо былі. Не ўмела іх схаваць, прытварацца не ўмела... Другі ў душу ўбіўся... Замена мне знайшлася, як-то кажуць... А я такія пісьмы пісаў ёй у санаторый! *(Летуценна.)* Адпачывай, Ірынка, не хвалюйся! Я кожную хвіліну думаю пра цябе. І так па табе сумую! І так жа я цябе чакаю!.. Ну, і дачакаўся. Вось. *(Бярэ на стале канверт і выцягвае з яго ліст.)* Чытай і радуйся, Васіль Дзям'янавіч! *(Чытае.)* «Любы мой! Як мы і дамовіліся, пішу табе на Галоўпаштамт да запатрабавання. Пішу, каб сказаць, што цяпер, пасля нашых сустрэч у Прыазёрску, мне стала яшчэ цяжэй: такое адчуванне, што Дзядовіч бачыць мяне наскрозь і пра ўсё здагадваецца. А я думаю толькі пра цябе і ўяўляю толькі цябе: твае вочы, і губы, і рукі... Як успомню — аж захлынаюся шчасцем. Прабач, закончу пісьмо пасля — вымушана перарвацца...» *(Памаўчаўшы.)* Табе такое, Васіль Дзям'янавіч, і не пісалася і не гаварылася ніколі... І як я наткнуўся на гэты канверт? Зусім неспадзявана і ненаўмысна. Калі б не подпіс — я і ўвагі не звярнуў бы. Незнаёмае прозвішча кінулася ў вочы... *(Памаўчаўшы.)* Значыць, у Прыазёрску дала сабе волю канчаткова... На ўлонні прыроды, як-то кажуць, сярод кветачак пад кусцікамі... *(Горка ўсміхнуўшыся.)* Ну, што ж, гэтага ты і варты, наіўны цяляпень і недарэка. Паверыў, што калі прытуліў яе — пакрыўджаную, пакінутую з дзіцем,— дык яна з удзячнасці будзе захоўваць табе вернасць. Толькі цяляпень і верыць у такія рэчы, як удзячнасць, дабрата, сумленне... Пакуль ты трымаешся сумлення, знаходзіцца сэрцаед-урвіцель і пачынае руйнаваць тваю сям'ю, без якое ты не мысліш свайго існавання...

Садзіцца ў крэсла і нейкі час сядзіць задумаўшыся. Затым заўважае на стале пісьмо, бярэ яго і зноў перачытвае. Дачытаўшы, абхапіў галаву рукамі і добрую хвіліну сядзіць моўчкі, нерухома. Потым, як бы схамянуўшыся, ускоквае з крэсла.

*(Голасна.)* Ды не можа ж гэтага быць! Хлусня гэта ўсё і няпраўда! Хлусня і няпраўда! *(Хапае на тахце транзістар.)* Музыку на ўсю катушку! Му-

зыку слухай, Васіль Дзям'янавіч, а не брыдкую выдумку!..

Уключае транзістар, знаходзіць музыку, ставіць на стол, сам ходзіць шырокім крокам па пакоі і слухае. Музыка спачатку гучыць вельмі моцна, а затым усё цішэй і цішэй. І нарэшце, замест музыкі, добра пастаўлены, як у дыктара, жаночы голас чытае радкі пісьма, якое толькі што чытаў Дзядовіч — спачатку ціха, але з кожным словам усё мацней і мацней. «Цяпер, пасля нашых сустрэч у Прыазёрску, мне стала яшчэ цяжэй: такое адчуванне, што Дзядовіч бачыць мяне наскрозь і пра ўсё здагадваецца. А я думаю толькі пра цябе і ўяўляю толькі цябе: твае вочы, і губы, і рукі... Як успомню — аж захлынаюся шчасцем». Апошняя фраза — «Як успомню — аж захлынаюся шчасцем!» — пачала паўтарацца, як бывае, калі «заесць» грамафонную пласцінку. Дзядовіч хапае транзістар, трасе ў руках і крычыць:

Ну, ты ж ілжэш! Ілжэш, сволач!

Рэзка пераключае на другую хвалю, зноў знаходзіць музыку. Садзіцца. Але праз хвіліну ўсё паўтараецца спачатку: музыка патроху заціхае, а пачынае гучаць той самы жаночы голас — і зноў усё грамчэй і грамчэй, і зноў на словах «як успомню — аж захлынаюся шчасцем» «пласцінку заела». І зноў Дзядовіч хапае транзістар, трасе яго ў руках і крычыць:

Ілжэш! Ілжэш, нягодніца! Ілжэш!

Рэзка круціць наводку наперад і назад, але на якую хвалю ні трапіць — адусюль голас: «Як успомню — аж захлынаюся шчасцем». І ўжо не адзін, а дзесяткі жаночых галасоў, якія наперабой гучаць усё мацней і мацней. Дзядовіч кідае транзістар на тахту, сам затыкае вушы рукамі і носіцца па пакоі як звар'яцелы. Але хор галасоў усё роўна да яго даходзіць. Тады ён хапае транзістар і кідае яго з усёй сілы аб падлогу. Ад апарата паляцелі шчэпкі. І тады стала ціха, зусім ціха. Дзядовіч знясілена садзіцца ў крэсла і заплюшчвае вочы. Хвіліну цягнецца гэтая гнятучая цішыня. Затым ён падымаецца, на твары — выраз гнеўнай рашучасці. *(Ходзячы па пакоі голасна).*

Ну не, гіцаль! Сям'ю зруйнаваць я табе не дам! Ты завіхаўся каля чужой жонкі, а пра яе дзіця ты падумаў? Пра Аленку ты падумаў? Я ўдачарыў яе і стаў ёй бацькам не для таго, каб ёй цяпер пакалечылі душу навечна! Ты ведай, паскуднік, што яна будзе мне дачка да самай маёй труны! Яна любіць мяне так, як цябе твае родныя дочкі любіць не будуць! Я з Аленкі чалавека зраблю!

Такога чалавека — каб людзі радаваліся! Каб уся краіна ганарылася! Каб той падонак, што даў ёй жыццё і выракся,— каб ён захлынуўся ўласнай жоўцю, што папрэ з яго ад зайздрасці, калі даведаецца, якой ён дачкі адцураўся! Каб ён зямлю грыз ад злосці, гледзячы на шчаслівую Аленку!..

Значыць, Грак Міхаіл Іванавіч. Ну, што ж, трэба ісці да Грака і гаварыць з Граком! Іншага выйсця не бачу. Быць не можа, каб размова з ім нічога не дала мне. Толькі з якога пачынаць, калі іх два? Трэба ж! Два Гракі Міхасі Іванавічы ў адным горадзе! Вось і гадай — каторы?.. А дзе ж той лісток з бюро даведак? Ага, тут. *(Дастае з нагруднай кішэні пінжака лісток, глядзіць.)* Ну, так, адзін на Сонечнай, другі — на Палярнай. Першы — нібыта нейкая досыць важная шышка ў Акадэміі. Мабыць, гэта ён ад лішняга тлушчу дурэе. Канешне. Ну, то і пачну з яго. Зараз жа пайду і пагавару з ім па-мужчынску. Або — або! Ці пан, ці прапаў... *(Надзяе плашч.)* Галоўнае — не далікатнічаць. Далікацтвам з паскудніка праўды не дастанеш. *(Тонам пагрозы.)* Трэба гада прыцiснуць да сцяны так, каб з яго праўда сама палезла, каб выперла з душою! Толькі трэба нечым узброіцца, на ўсякі выпадак. *(Азірае пакой.)* Што ж бы гэта такое мне прыхапіць? Каб што-небудзь ёмкае... Ага, недзе ж у мяне была гіра — у століку валялася. Кілаграмовая гіра. *(Дастае са століка гіру.)* Во! Калі ўжо давядзецца, дык так і быць: джвыгну па лабэціне ці па дахоўцы — судзіце!.. Толькі трэба загарнуць у насоўку, каб не адразу ўбачыў. *(Загортвае і кладзе ў кішэнь плашча.)* Ну, сцеражыся, Грак! Іду! *(Выходзіць.)*

*Заслона.*

## СЦЭНА ДРУГАЯ

Гасціны пакой у кватэры Грака Першага. Амаль усё тое ж самае, што і ў пакоі Дзядовіча. Новае хіба што — каля сцяны на тумбачцы тэлефон. Седзячы на табурэтцы, **г а с п а д а р** — досыць поўны, з прыкметным

чэраўцам і з плехам на галаве мужчына — гаворыць па тэлефоне.

**Грак Першы** *(радасна, зацікаўлена).* Што? Твой бегемот едзе ў камандзіроўку?.. На цэлы тыдзень?.. Слухай, дык гэта ж здорава! Сам лёс ідзе нам насустрач. *(Рагоча.)* Нарэшце здагадаўся, што нам трэба спакойныя чалавечыя ўмовы... А як будзе з малою?.. Ах, яна яшчэ ў бабы, на вёсцы! Ну, слухай, дык гэта ж зусім цудоўна!.. Малайчына твой бегемот, дальбог, малайчына! Трэба будзе мне як-небудзь пазнаёміцца з ім і паставіць яму добрую чарку. *(Рагоча — аж захлёбваецца.)* Ну, што ты — такія нам умовы стварае. Гэта ж каб і лепей, дык на чорта!.. Кажу: каб і лепей, дык на чорта!.. Не разумееш? У сэнсе, што лепей ужо і быць не можа... *(Спахапіўшыся.)* Слухай, а не зманіў ён табе? Можа, ён нікуды не едзе, а западозрыў цябе ды наўмысна сказаў, каб пасля застукаць на месцы?.. Ты ўпэўнена?.. Глядзі, не ашукайся. Каб не прыйшлося мне, як у тым анекдоце, лезці ў шафу... Ну-ну-ну! Баязліўцам я ніколі не быў. Справа не ў баязлівасці. Ты ж сама разумееш... павінна быць усё шыта-крыта. А то можа мне сапсаваць усю музыку. Не забывай, што праз месяц мне абяцаюць па службе павышэнне. Ах, ён пайшоў ужо браць білет? У шэсць ад'язджае?.. Слухай, ты для пэўнасці правядзі яго сама... Так-так, аж у вагон і пачакай, пакуль поезд скранецца. Дазваляю нават пацалаваць на развітанне. *(Рагоча.)* А яшчэ лепш, калі і слязінку выціснеш. Каб ён спакойна дрыхнуў на плацкарце... Дык вось — у сем трыццаць я ўжо буду ў цябе. Чуеш? У сем трыццаць. Ага. Чао!.. *(З шчаслівай фізіяноміяй кладзе трубку, ляскае ў далоні, энергічна пацірае іх.)* Цудоўненька, цудоўненька, цудоўненька! Бегемот робіць нам падаруначак! Каб яшчэ мая законная з'ехала куды-небудзь на тыдзень — дык бы ўвогуле ідэальна было. Ну, нічога! *(Спыняецца пасярод пакоя, закладае пальцы на руцэ, лічыць, корчачы міну.)* На сённяшні вечар планую лекцыю, на заўтрашні — даклад, на паслязаўтрашні — пасяджэнне, а там яшчэ нешта прыдумаю. Так і далажу сваёй Аўгіньцы: сёння — лекцыя. *(Падыходзіць да тру-*

*мо, папраўляе валасы рукамі, падміргвае сабе.)* Весялей, Міхась Іванавіч! Ты яшчэ, брат, арол, хоць і Грак па пашпарту. *(Паварочваецца перад трумо.)* Камсамолец — кругом! *(Пяе радкі вядомай песні.)* «Не пакіну камсамола, буду вечна маладым!»

У пярэдняй звініць званок. Грак Першы ідзе і адчыняе дзверы. Заходзіць **Дзядовіч.** Пагляд — уважліва-насцярожаны.

**Дзядовіч.** Міхась Іванавіч Грак?

**Грак Першы.** Так, гэта я. З кім маю гонар?

**Дзядовіч** *(не звярнуўшы ўвагі на пытанне).* Мне трэба пагаварыць з вамі. Адзін на адзін.

**Грак Першы** *(устрывожана).* Калі ласка. Праходзьце... Плашч можна зняць, ці ў пярэдняй павесіць, ці тут на крэсла ўскіньце.

**Дзядовіч.** Плашч?.. Бадай, здыму. Баюся, што размова будзе не на хвілінку...

Здымае плашч, кідае на спінку крэсла. Памкнуўся адысціся, але штось успомніў, вяртаецца да плашча, лезе ў кішэнь і дастае насоўку. З насоўкі падае з грукатам і коціцца па падлозе гіра. Дзядовіч пахапліва згінаецца, падымае, загортвае ў насоўку, але ад хвалявання зноў выпускае гіру з рук. Грак Першы паспявае добра разгледзець прадмет і раптам блажэе з твару. Дзядовіч хавае гіру ў кішэнь пінжака.

**Грак Першы** *(спалатнелы, заікаючыся).* Ш-ш-што гэта у-у-у вас?

**Дзядовіч** *(ляпае па кішэні).* Гэта?.. Гэта — гіра.

**Грак Першы.** А нашто яна в-в-вам? Нашто вы яе п-п-п-прынеслі?

**Дзядовіч.** Хай будзе. Яна мне не замінае...

**Грак Першы** *(заікаючыся).* Вы ўсё-такі па-па-пакіньце гэту жалязяку ў плашчы... Нашто вы яе дасталі? Вы прыйшлі мяне абрабаваць?

**Дзядовіч.** Я прыйшоў з вамі пагаварыць. Пачуць ад вас усю праўду. Я думаю, што вы ўжо здагадаліся, чаго я да вас прыйшоў.

**Грак Першы** *(апасліва).* Ну, што ж... Праходзьце... Сядайце.

Дзядовіч садзіцца на крэсле, Грак Першы — на крайку тахты насупроць. Госць нейкі час вывучае позіркам гаспадара.

**Дзядовіч.** Якія ў вас адносіны з маёй жонкай?

**Грак Першы** (*спалохана асей і падаўся ўсім целам назад*). Што?..

**Дзядовіч** (*не спускаючы вачэй з Грака Перша-га*). Якія ў вас адносіны з маёй жонкай?

**Грак Першы** (*ён ужо не сумняваецца, што перад ім «бегемот» — муж яго палюбоўніцы, душа яго падалася ў пяткі*). З-з-звычайныя... Якія ж могуць быць адносіны? Звычайныя. Як і да ўсіх жанчын сектара.

**Дзядовіч** (*іранічна*). Звычайныя? Як і да ўсіх жанчын?

**Грак Першы.** Вядома. Звычайныя службовыя адносіны! Чыста службовыя!..

**Дзядовіч.** Службовыя?.. Значыць, гэта вы па службе каля яе завіхаецеся? Можа, нават па распараджэнню свайго начальніка? Ці вы сам над сабой начальнік?

**Грак Першы.** Клянуся вам — чыста службовыя адносіны! Калі вам хто наплямкаў што-небудзь — не верце! Толькі па службе звяртаюся! Вядома, з вялікай павагай. Але не больш.

**Дзядовіч.** Нішто сабе служба!.. Добрыя людзі такую службу спакон веку распустай называлі. Ці, можа, у вас гэта сур'ёзна?.. Скажыце: у вас што — сур'ёзныя намеры? Вы думаеце яе адбіць у мяне і жаніцца?

**Грак Першы** (*патрохі супакойваецца*). Толькі гэтага мне не хапала — жаніцца на вашай жонцы! А дзе ж я сваю дзену? І як вы наогул пра мяне думаеце? Вы, відаць, не ведаеце, да каго прыйшлі і з кім гаворыце!

**Дзядовіч** (*не адразу, змераўшы позіркам*). Ну, і з кім жа я гавару?

**Грак Першы** (*падымаецца, бярэ з паліцы нейкі часопіс*). Вось навуковы часопіс, дзе ўсё напісана. (*Раскрывае, дзе закладзена, і падае Дзядовічу.*) Чытайце, гэта пра мяне. (*Дзядовіч чытае, пасля кладзе на стол, адсоўвае.*) Прачыталі? Ну, вось. Цяпер вам ясна, што сваім падазрэннем вы абражаеце не толькі мяне, але ў маёй асобе савецкую навуку. (*Усё больш смялеючы.*) Так, так, шаноўны! Вы прыйшлі і абражаеце ў маім доме нашу савецкую навуку! Г-м!

**Дзядовіч.** Пры чым тут навука?.. На гэту справу вялікай навукі не трэба. Што вучоны, што невучоны — а калі няма сумлення...

**Грак Першы.** Ага! Дык, па-вашаму, савецкія вучоныя не маюць сумлення?! Вы за гэтыя словы адкажаце.

**Дзядовіч.** Калі я і адкажу, дык не за словы. За дзеянні мне, відаць, давядзецца адказваць.

**Грак Першы** (*улавіўшы нядобры намёк, упалым голасам*). Якія... дзеянні?

**Дзядовіч.** А такія, што я зараз прыстукну вас.

**Грак Першы** (*моцна спалоханы*). Што?

**Дзядовіч** (*членараздзельна*). Прыстукну вас зараз. (*Вымае з кішэні гіру.*) Вось гэтай гіркай. Па вашым вучоным чэрапе трахну — і ўсё. І сведкаў не будзе. Га? (*Падкідае гіру ў далоні.*)

**Грак Першы** (*збялелы, падымаецца і адступае задам да акна*). Вы — шызік! Вар'ят! Вы гэтага не зробіце! Я зараз жа пазваню ў міліцыю. Вы не маеце права мне пагражаць! Вы знайце, што я ў дзяржаве на асобым уліку. Мае навуковыя працы аб ролі прафсаюзаў вядомы далёка за межамі! Маю манаграфію цытаваў сам Мікалай Герасімавіч!

**Дзядовіч.** Значыць, знакаміты вучоны? Усё ведаеце? Усё на свеце? А ці ведаеце вы, вучоны Грак, як [redacted] кахаю сваю жонку? (*Падымаецца і паволі набліжаецца да Грака Першага.*)

**Грак Першы** (*крычыць*). Не падыходзьце да мяне! (*Адступае задам да самага акна.*) Не падыходзьце! І схавайце сваю дурную жалязяку!

**Дзядовіч.** Я пытаю, ці ведаеце вы, Грак, як я кахаю яе? (*Кладзе гіру ў кішэнь і хапае Грака Першага за пелькі.*)

**Грак Першы** (*спрабуючы аслабаніцца*). Таварыш!.. Таварыш!.. Вы гэтага не зробіце! Адпусціце мяне!..

**Дзядовіч** (*трасучы за пелькі, кожнае слова выразна*). Як я кахаю яе — вы ведаеце ці не ведаеце?

**Грак Першы** (*не могучы аслабаніцца*). Кахайце сабе!.. Адпусціце мяне!.. Кахайце!.. Адпусціце! Маё жыццё патрэбна народу і радзіме! Чуеце?

**Дзядовіч** (*перастаў трэсці, але трымае прыпёр-*

*тым да акна).* А, народу і радзіме? А маё? А маё — патрэбна каму-небудзь? А мае рукі радзіме не патрэбны? Не хочацца толькі пэцкаць іх вашай юшкай, таму што яны чыстыя ў мяне, хоць і мазольныя. Я чужых жонак імі не мацаю, таварыш Грак! Сядзьце!.. *(Сілай садзіць у крэсла, што стаяла побач, а сам адыходзіцца і сядае каля стала.)*

**Грак Першы** *(папраўляе каўнер, гальштук, ледзь пераводзячы дыханне).* Гэта хуліганства! Я буду скардзіцца на вас. Прыйшлі на чужую кватэру і самавольна ўчыняеце расправу. Я прашу вас — пакіньце мяне! Зараз жа пакіньце!..

**Дзядовіч.** Ды пакіну, канешне. Няўжо ж з сабой забяру. Але перш чым я выйду, вы дасце мне смяротную клятву, што назаўсёды пакінеце ў спакоі маю сям'ю. На-заў-сё-ды! Ясна?

**Грак Першы.** Ясна.

**Дзядовіч.** Нават забудзьце, як зваць маю жонку. Ясна?

**Грак Першы.** Ясна.

**Дзядовіч.** Ну, вось так. А цяпер я пагавару яшчэ трохі з вамі як з вучоным — спецыялістам па прафсаюзах. Вы ведаеце, што ў нас ёсць дзіця?

**Грак Першы.** Ведаю.

**Дзядовіч.** А што яго трэба выхоўваць, што з яго чалавека трэба зрабіць,— канешне, таксама ведаеце?

**Грак Першы.** Выхоўвайце на здароўе, я вам перашкаджаць не намераны.

**Дзядовіч.** Дык вось гэтае дзіця было бязбацькавічам: бацька выракся яго яшчэ немаўляці, яшчэ і года не было яму. Гэта вам таксама вядома?

**Грак Першы.** Пра гэта мне не гаварылася.

**Дзядовіч.** Я ўдачарыў малышку. І люблю яе як родную, як сваю крывінку. І яна мяне таксама. Таго бацькі, што сабакам сена косіць, яна не ведае. Бацька ў яе адзін — я! Яна расце шчаслівым дзіцянём. Вы гэта разумееце?

**Грак Першы.** Хай расце на здароўе.

**Дзядовіч.** А вы, вучоны чалавек, рашылі зноў дзіця зрабіць бязбацькавічам? Папоўніць ёю рады байструкоў, якіх і так у нас развялося чорт ведае колькі?

**Грак Першы.** Крый бог! І ў галаву мне не прыходзіла такое!

**Дзядовіч.** У тым уся і справа, што да вашай вучонай галавы гэта не даходзіць. Вы ўмешваецеся ў чужую сям'ю і тым самым яе разбураеце, бо падобныя гісторыі звычайна канчаюцца разводам. А дзеці? А дзеці становяцца бязбацькавічамі! Дзіця, каб з яго вырас нармальны, духоўна здаровы чалавек, павінна гадавацца ў сям'і, пры маці і бацьку! Вы гэта разумееце, вучоны Грак, ці не?

**Грак Першы** (*асмялеўшы, з амбіцыяй*). Я не хачу слухаць вашы педагагічныя пропаведзі! Яшчэ мне — Песталоцi знайшоўся! Ян Амос Каменскі! Я ўжо ясна сказаў вам: гадуйце на здароўе дзіця і будзьце здаровы самі разам са сваёй жонкай.

Зазвінеў тэлефон. Грак Першы вобмегам апынаецца каля тумбачкі і хапае трубку.

Слухаю... Ты? (*Спалохана азіраецца на пакой, дзе сядзіць Дзядовіч.*) Не паедзе?.. Памыляешся: ён сядзіць у мяне ў кватэры... Якія жарты! Можаш прыехаць палюбавацца: сядзіць і трымае ў руцэ гіру, якую ледзь не пасадзіў мне на лысіне... Яшчэ раз кажу: гэта ніякія не жарты! Я магу даць яму трубку... Што? Гэта не твой бегемот? Нейкі другі?

Падбягае Дзядовіч і вырывае ў Грака Першага трубку.

**Дзядовіч** (*у трубку*). Ірына!.. Алё! Ірына!.. Мне Ірыну, жонку маю, яна толькі што гаварыла... (*Адняў ад вуха трубку, глядзіць на Грака Першага.*) Кінула трубку. Што за ерундовіна? Што гэта была за жанчына?

**Грак Першы** (*ашаломлены*). Ірына?.. Ваша жонка Ірына?.. (*Хапаецца за сэрца, паволі ідзе назад, у пакой, і апускаецца ў крэсла. Ледзь не плачучы.*) Дык пры чым жа тут Ірына?.. (*Крычыць.*) Дык пры чым жа тут я? Вы ж не той бегемот? Вы ж зусім другі бегемот!..

Дзядовіч зноў вымае з кішэні і падкідвае ў руцэ гіру.

Пардон! Я хацеў сказаць — вы зусім не той муж! Тойсь, вы муж зусім не той жонкі! Тойсь, ваша

жонка зусім не тая жонка! Тойсь, я не ведаю ніякай Ірыны! Вы мяне проста абалванілі! *(Ледзь не стогнучы.)* О, божа мой! Чаму вы мне адразу не сказалі, як завуць вашу жонку!

Дзядовіч, бачна, крыху разгубіўся. Але ненадоўга.

**Дзядовіч.** Хто гэта гаварыў з вамі?

**Грак Першы** *(раздражнёна)*. Знаёмая мая гаварыла! Знаёмая! Спадзяюся, называць яе прозвішча я не абавязаны перад вамі, ваша вялікасць?.. Паслухайце: зараз жа ідзіце прэч! Ідзіце і шукайце палюбоўніка вашай Ірыны ў іншым месцы! Ніякага дачынення да вашай жонкі я не маю! *(Сам сабе, праз стогн.)* О, якое дурное супадзенне!

**Дзядовіч.** Цікава!.. Толькі што ва ўсім прызнаўся, што нават і пра дзіця ведае, і пакляўся, што больш не будзе... нічога ніякага, а цяпер раптам запеў зусім іншае. Вы думаеце, калі вам пазваніла нейкая знаёмая, дык гэта ўжо вам і апраўданне? Знаёмых жа можа быць некалькі.

**Грак Першы.** Ну, ведаеце... Давайце канчаць гэту музыку. Іначай я сапраўды выклічу міліцыю, вас арыштуюць і пасадзяць за знявагу асобы. Гавару вам абсалютна сур'ёзна: вы прыйшлі не па адрасу. Вы мяне з некім зблыталі. Ніякага інтарэсу да вашай жонкі ў мяне няма. Ды і хто ваша жонка, каб я мог ёю зацікавіцца? Хто яна ў вас: актрыса, спявачка, музыкантша, культработніца?

**Дзядовіч.** Яна вам не сказала — хто? Яна — ткачыха. Прадзільшчыца.

**Грак Першы** *(круцячы галавой, трацячы цярпенне)*. Чорт сваё, а поп сваё ўсё роўна... Не сказала!.. Што яна магла мне сказаць, калі я яе ў вочы не бачыў?.. *(Пасля невялікай паўзы. Пагардліва.)* Прадзільшчыца! І пра што ж я з ёю, прабачце, буду гаварыць — з вашай прадзільшчыцай? Пра ніткі-шпулькі? Вы мне аказваеце вялікі гонар. У мяне жонка — да вашага ведама — дацэнт, і то гаварыць не хочацца. *(Спахапіўся.)* Тойсь, я хачу сказаць, што нават яна часам не разумее маіх навуковых і ўвогуле духоўных інтарэсаў.

**Дзядовіч.** Адукацыя ў гэтай справе значэння не мае. Не шыбка адукаванай можна захапіцца мац-

ней, чым якой прафесаркай. Калі б мая жонка была нецікавая — вы б не прычапіліся да яе.

**Грак Першы.** Зноў тое самае... Та-ак, гэта ўжо, бачу, складаны выпадак. У вас — фікс-ідэя. І я не ведаю, як вам даказаць, што вы прыйшлі сюды дарэмна. Вы яўна мяне з некім блытаеце. Я не магу прыпомніць ніводнай знаёмай Ірыны наогул!..

**Дзядовіч** (*вымае і падае фотакартку*). Паглядзіце, можа, прыпомніце.

**Грак Першы** (*не хоча браць фотакартку*). Што значыць: прыпомніце? Мне няма чаго прыпамінаць і няма патрэбы глядзець. Дабром ужо вас прашу: давайце будзем канчаць гэту марную размову. У мяне спраў багата.

**Дзядовіч** (*трымае фотакартку ў працягнутай руцэ*). Паглядзіце ўсё-такі.

**Грак Першы.** Дзіўны вы чалавек... (*Бярэ фота, разглядае, круціць галавой*). Не, гэтай жанчыны я ніколі не бачыў. Не!.. Колькі ёй гадоў, між іншым?

**Дзядовіч.** Дваццаць шэсць.

**Грак Першы** (*тонам знаўцы*). Самая сіла. Атамная! Ну, што ж, у вас, шаноўны мой, здаецца, не кепскі густ. Досыць цікавы экземплярчык! Праўда, паўнаватая трошкі.

**Дзядовіч.** Нічога лішняга.

**Грак Першы** (*глянуў на фотакартку яшчэ раз і аддае Дзядовічу*). Ну, для вас, можа, і нічога, а для мяне... Я поўных жанчын не вельмі ўшаноўваю. Тоўстая баба-ступа да сэрца не туліцца. (*Смакуючы.*) Тоненькая — дык яна аж уліпне ў цябе. Абдымеш — дык аж, здаецца, пад пальцамі чуеш, як яе сэрцайка тахкае... (*Спахапіўся і заікнуўся.*) Г-м!

**Дзядовіч.** А вы, я гляджу, аматар гэтае тахканне паслухаць.

**Грак Першы.** Я, мой шаноўны, нармальны мужчына. А вось вы мяне, між іншым, здзіўляеце. Вы — не сучасны чалавек. Вы прадстаўляеце адмерлы, выкапнёвы тып.

**Дзядовіч.** Не зусім разумею.

**Грак Першы.** Рэўнасць, шаноўны мой, ужо сто гадоў назад была недарэчным перажыткам. А сён-

ня — тым больш. І вашы сардэчныя пакуты вартыя смеху. Дапусцім, вам сапраўды здрадзіла жонка — з некім там недзе... пазнаёмілася, правяла вечар ці два. Ну, і што? Што ад гэтага змянілася ў свеце і ў вашым жыцці? Землетрасення не адбылося, і сям'я ваша будзе цэлая — калі ў вас у самога хопіць розуму паглядзець на ўсё гэта з філасофскай шырынёй, па-сучаснаму. Але вы жыццёвую дробязь ператвараеце ў драму, у трагедыю. Вы што — хочаце ўсё жыццё трымаць жонку каля сябе, як на прывязі? І пільнаваць, каб хаця яна не сарвалася і не забегла ў шкоду? Ды ёй жа стане так сумна, ёй так збрыдзее сямейная будзённасць і аднастайнасць, што яна ўзненавідзіць вас. Вы проста патрыярхальны чалавек, вы не бачыце, як усё змянілася ў жыцці і куды ідзе само жыццё.

**Дзядовіч** *(не адразу)*. Ну, а куды яно ідзе?

**Грак Першы.** Куды?.. Калі вы самі гэтага не разумееце — наўрад ці я вам растлумачу. Жыццё ідзе ў тым кірунку, што чалавек усё больш і больш вызваляецца ад сямейных ланцугоў, прычым не толькі мужчына, але і жанчына. Сям'я ўсё больш становіцца ўмоўнасцю. Тойсь, яна існуе рэальна, але трымаецца ўжо не столькі на так званых любоўных пачуццях, як на сувязях іншага характару. На дзелавых, скажам, на эканамічна-матэрыяльных. Інтымныя адносіны паміж мужам і жонкай робяцца ўсё больш свабоднымі. І гэта задавальняе абаіх — і яго і яе. Яна не шпігуе за ім і не драпежыць яго, калі ён часам зацікавіцца кім-небудзь збоку, а яму мала абыходзіць, што хтосьці ўшанаваў яе жаночыя вартасці. Больш таго: іх узаемная павага адно да аднаго нават узрастае. Кожны з іх цэніць адно ў адным чалавечую свабоду і незалежнасць.

**Дзядовіч.** А дзеці?

**Грак Першы.** Што — дзеці?

**Дзядовіч.** Дзеці ж паяўляюцца ў сям'і? Як жа яны — без кахання, без любоўных пачуццяў нараджаюцца?

**Грак Першы.** Ну, па-першае, не надта і нараджаюцца. Колькі цяпер тых дзяцей у сям'і? Адно ці два? Вось на гэтыя адно ці два і хапае любоў-

нага палу — напачатку. А затым — усё, пал перагарае, наступае, як пісаў паэт, амартызацыя цела і душы, стамленне і апусташэнне. І пачынаюцца пошукі таго, што магло б вывесці з гэтай амартызацыі, з гэтай будзённай аднастайнасці. Пачынаюцца ўцёкі ад суму і нуды. Гэта і раней адчувалі і перажывалі людзі. Але раней не было многіх фактараў, якія ёсць цяпер і якія неймаверна ўзмацнілі як тэмп і ступень амартызацыі, так і прагу духоўнага і фізічнага абнаўлення, прагу стрэсавага моманту для душы. Адным словам, усе мы сёння, можна сказаць,— ахвяры тых умоў сучаснай цывілізацыі, якія самі ж стварылі і працягваем ствараць. Усе мы — хто ў большай, хто ў меншай ступені — дзеці свайго часу. І ці варта вінаваціць за гэта саміх сябе? А галоўнае — ці варта гэтаму супраціўляцца?.. Вы — супраціўляецеся. Вы хочаце, каб ваша жонка жыла і паводзіла сябе так, як яе бабка ці прабабка. Нічога з гэтага не выйдзе! Вы ідзяце супроць жыцця і часу. Ваш погляд на сямейныя ўзаемаадносіны страшэнна ўстарэў! Разумееце?

**Дзядовіч** (*не адразу*). Дык што наперадзе? Суцэльная распуста?

**Грак Першы.** Уся справа ў тым, што на новыя сексуальныя адносіны не трэба глядзець як на распусту. І толькі.

**Дзядовіч** (*памаўчаўшы*). А дзеці?

**Грак Першы.** Што — дзеці?

**Дзядовіч.** Ну, а дзяцей жа трэба выхоўваць у сям'і? Без сям'і дзіцяці кепска і вырасці добрым, сапраўдным чалавекам — цяжка. Вы кажаце: сям'я цяпер — фактычна ўмоўнасць. Ну, а дзеці ж — не ўмоўнасць. Дзеці ж сапраўдныя, жывыя. І есці просяць, і хварэюць, і ласка бацькоўская ім патрэбна — сапраўдная, а не ўмоўная. Як жа гэта ўсё спалучыць — гэту вашу ўмоўнасць з рэальнасцю?

**Грак Першы.** Сям'я застаецца сям'ёй. Толькі яна, паўтараю, трымаецца на іншым падмурку, на больш высокім, сучасным узроўні свядомасці.

**Дзядовіч.** Значыць, шукаць мужа ці жонку,

употайкі падгульнуць недзе — гэта і ёсць больш высокі, сучасны ўзровень свядомасці?

**Грак Першы** (*узмахвае безнадзейна рукамі*). Э-э, шаноўны мой! Як вы ўсё спрашчаеце!.. Не, гаварыць з вамі пра гэта — мала карысці. Ніякага сэнсу!

**Дзядовіч** (*памаўчаўшы*). Скажыце, і многія вучоныя так думаюць, як вы, ці, можа, усе? Я — чалавек просты, я заўсёды лічыў для сябе правілам — браць прыклад з людзей высокаадукаваных, культурных...

**Грак Першы.** Я ўжо сказаў вам: вы — архаічны, выкапнёвы тып. Больш мне дадаць няма чаго. Усё! І да вашай патрыярхальнай сямейнай драмы я не маю ніякага дачынення.

**Дзядовіч** (*падымаецца з крэсла і горка ўсміхаецца*). Патрыярхальны, адмерлы, выкапнёвы тып. За тое, што кахаю сваю жонку і ні з кім не хачу дзяліцца! Аказваецца, сёння гэта смешна і варта жалю... Ах, целяпень, целяпень!.. (*Сумна ківае галавой, здымае з крэсла і кладзе на руку плашч, выходзіць.*)

**Грак Першы** (*садзіцца стомлена ў крэсла, тварам да сцэны*). Ух ты!.. Ну, і гісторыя! Усяго перакалаціла... Прыйдзецца пакуль што спыніць рандэву з Эмачкай. Пакуль ёсць такія дапатопныя істоты — трэба асцярожна. Гэта ўжо не бегемот, а дыназаўр!.. Ну, але ж і выкапень! Жах!.. (*Лэпае рукой па дахоўцы.*) Каб трохі — гірка магла б апынуцца тут. І за што?.. Якое дзікунства! Якое дзікунства!.. І гэта ў апошняй чвэрці дваццатага стагоддзя! Падумаць толькі!..

*Заслона.*

## СЦЭНА ТРЭЦЯЯ

Гасціны пакой у кватэры Грака Другога. Абстаноўкай ён амаль не адрозніваецца ад папярэдніх. У пакоі — гаспадыня, **Ніна Паўлаўна.** Сядзіць на тахце і рамантуе нагавіцы школьніка-сына.

**Ніна Паўлаўна** (*заклапочана*). Як на агні гарыць! Як на агні! Не напараюся. Месяц назад ку-

піла — і ўжо на́ табе! Гатова! І ўсё праз гэты хакей з футболам. Во развялася зараза на свеце!

Звоніць званок. **Ніна Паўлаўна** ідзе да дзвярэй і ўпускае ў пакой **Дзядовіча.**

**Дзядовіч** *(крыху разгублены, бо спадзяваўся ўбачыць Грака Другога, а не яго жонку)*. Добры дзень!

**Ніна Паўлаўна.** Дзень добры. *(Запытальна глядзіць на незнаёмца, які не спяшаецца загаварыць аб справе.)* Вы... мабыць, да Мішы?

**Дзядовіч.** Так, я хацеў бы пабачыцца з вашым Міхасём Іванавічам.

**Ніна Паўлаўна** *(ветліва ўсміхаючыся)*. Тады вам не пашанцавала. Яго няма сёння і не будзе. Ён вернецца толькі заўтра раніцай.

**Дзядовіч.** А-а-а, сапраўды не пашанцавала. *(Нейкі час глядзіць на Ніну Паўлаўну ў замяшанні, не ведаючы, відаць, як у такім выпадку быць.)* Ён яшчэ ў Прыазёрску?

**Ніна Паўлаўна.** Не, ён не ў Прыазёрску, а ў Вішнёўцы. Гэта амаль побач, кіламетраў за дзесяць. Ён туды інспектаваць будаўнікоў ездзіць.

**Дзядовіч.** А-а, вось як, а я думаў, ён у санаторый паехаў... *(У нерашучасці.)* Шкада, шкада... Ну, нічога не зробіш. Давядзецца мне прыйсці яшчэ раз.

**Ніна Паўлаўна.** А вы... відаць, саслужывец Мішаў? Ці проста так знаёмы?

**Дзядовіч** *(сумеўшыся)*. Не, я не па службе да яго, проста так, справа невялікая ёсць...

**Ніна Паўлаўна** *(са шчырым зацікаўленнем)*. Дык, можа, я вам чым дапамагу? Вы прайдзіце і сядзьце, калі ласка. Раз вы Мішаў знаёмы — значыць, наш госць. Праходзьце і сядайце, не саромцеся.

Дзядовіч зноў нейкую долю хвіліны стаіць у нерашучасці. Затым, прыкінуўшы, што размова з жонкай Грака Другога можа яму дапамагчы высветліць сітуацыю, праходзіць да стала і садзіцца ў крэсла.

**Дзядовіч.** І часта муж туды ездзіць — у Прыазёрск? Прабачце — у Вішнёўку?

**Ніна Паўлаўна** *(сядае на тахту)*. Часта. Праз

кожныя тры-чатыры дні. Але сказаў, што гэты раз — ужо апошні, што ўжо амаль усё праверыў.

**Дзядовіч.** Але ж учора, напрыклад, быў выхадны дзень. Што ж, у яго і выхадных няма?

**Ніна Паўлаўна.** Ну, во гэткая ж нядобрая служба яму дасталася! Апошнія тры тыдні не меў ніводнага выхаднога. Як толькі пятніца — у камандзіроўку. І аж да панядзелка. У буднія дні ў яго тут, у канторы, работы па горла. А на інспекцыю ездзіць на выхадныя.

**Дзядовіч** (*з патугай на ўсмешку*). Дык жа, мабыць, вам, прабачце, нявесела? І крыўдна, напэўна?

**Ніна Паўлаўна** (*засаромлена ўсміхнуўшыся*). Вядома, было б лепш, каб суботу і нядзелю быў дома, з дзецьмі, але ж што зробіш? Служба ёсць служба. Я-то нічога, разумею, а малыя — дык надта засмучаюцца яго паездкамі. Асабліва Пеця. Бунтуе і злуецца. «Што ты ўсё, кажа, раз'язджаеш? Або застанься дома або вазьмі мяне з сабой!» Кожны раз во гэтак яму!..

**Дзядовіч** (*уражаны, сказаў уголас тое, што не хацеў*). Та-а-ак, дзіцячае сэрца чуе... (*спахапіўся*)... што з бацькам яму там цікава было б. Дзіва што — гэта ж бацька! У вас іх, здаецца, двое — малых?

**Ніна Паўлаўна.** Двое. Пеця і Каця. Каця таксама ўлягае за бацькам — божа мой! Сёння — вы не паверыце — прымусіла мяне пекчы пірог да бацькавага прыезду. Як прыстала: «Мама, давай спячы пірог, каб татка рады быў!», што я вымушана была ўчыніць і паставіць у духоўку пірог. А ў вас, прабачце, дзеці напэўна ж ёсць?

**Дзядовіч** (*захваляваўшыся*). Ёсць. Адна дзяўчынка. Тры гады — неўзабаве будзе. І таксама незвычайна горнецца да мяне. Незвычайна! Нават спаць укладваю толькі я. Бо не засне інакш. А дзе ж цяпер вашы малыя? На вуліцы?

**Ніна Паўлаўна.** У цырку. Пеця павёў Кацю ў цырк на дрэсіраваных мядзведзяў. Яму ж ужо дзевяць, і ён такі ў нас самастойны. А Каці — шэсць з палавінай. Бралі білет і на бацьку і так засмуціліся, што яму не выпадае, што Каця ажно заплакала. Пайшлі самі, удваіх.

**Дзядовіч.** А вы? Чаму вы не пайшлі з імі?

**Ніна Паўлаўна.** Ну, я і не збіралася адразу, гэта яны на бацьку білет бралі. Калі ж мне хадзіць у той цырк? Столькі ўсякай работы ў хаце — што і дня мала. Пакармі, абмый, абшый, даглядзь — і адзетак, і абутак, і ўсё іншае, што вы!.. Прыйдуць — раскажуць мне пра ўсё да апошняй дробачкі. А тады яшчэ бацьку раскажуць. Гэта ўжо абавязкова!

**Дзядовіч.** Значыць, з бацькам у іх дружба, як кажуць, навек?

**Ніна Паўлаўна** *(з гордасцю)*. Што вы!.. Нам проста ўсе зайздросцяць. А хіба вам Міша ніколі не расказваў?.. Што вы!.. Мне ўжо суседзі — цьфу! Цьфу! Цьфу! — усе вушы прагудзелі. «Во ўжо, кажуць, Грачысе пашэнціла: сям'я — не налюбавацца!» Гэта яны мяне па-суседску Грачыхай завуць.

**Дзядовіч** *(уздыхнуўшы)*. Ну, што ж! Дай божа вам і надалей — і згоды, і шчасця, і ўсякіх уцех у доме. *(Раптам падняўся з крэсла.)* Рад быў пазнаёміцца з вамі. І прабачце за турботы. Мне пара.

**Ніна Паўлаўна** *(спахапіўшыся)*. Дык а... прабачце, вы ж не сказалі... вы ж нешта хацелі да Мішы!

**Дзядовіч** *(уздыхнуўшы зноў)*. Нічога асаблівага. Можа, калі другім разам спаткаюся. *(Сумна ўсміхаецца.)*

**Ніна Паўлаўна.** А вы прыходзьце заўтра! Сур'ёзна! Тым больш што і пірог будзе, прыходзьце! Знаеце, як Міша будзе рады. І малых нашых пабачыце.

**Дзядовіч** *(круціць галавой)*. Не-е, шчыра дзякую за гасціннасць, за запрашэнне, але...

**Ніна Паўлаўна.** Ну, а чаму б і не? Прыходзьце ўсёй сям'ёй — і з жонкай і з дачушкай. Пазнаёмімся бліжэй, падружымся. Прыходзьце!

**Дзядовіч** *(сумна ўсміхаючыся, круціць галавой)*. Дзякую, дзякую вам, але... Не магу. Добрая вы душа, бачу,— такая патрыярхальная, архаічная... *(заўважыўшы, што да Грачыхі сэнс апошніх слоў не даходзіць)*... у сэнсе — сапраўдная, чалавечная... *Прыкладае руку да сэрца.)* Бывайце!

**Ніна Паўлаўна** *(паспешліва)*. Дык, можа, усё-такі Мішу хоць перадаць што-небудзь? Вы нічога не сказалі! Нават, прабачце, не назваліся, хто вы!

**Дзядовіч.** Скажыце, прыходзіў Дзядовіч, Васіль Дзям'янавіч. А што перадаць яму?.. Перадайце яму вось гэтую штуковіну. *(Дастае з кішэні і падае Ніне Паўлаўне гіру.)*

**Ніна Паўлаўна** *(бярэ гіру і, моцна здзіўленая, падымае яе на далоні)*. Гіру?

**Дзядовіч.** Гіру. Ну, і скажыце, што ў мяне яшчэ большая ёсць, цяжэйшая...

**Ніна Паўлаўна** *(на твары ў яе выраз недаўмення)*. Але — нашто яна яму? І што гэта наогул значыць?

**Дзядовіч.** Ён зразумее што. Да пабачэння! *(Выходзіць.)*

Ніна Паўлаўна стаіць сярод пакоя, пакручвае ў руках гіру, разглядае яе і ўвесь час паціскае плячыма.

**Ніна Паўлаўна.** Нейкі дзіўны чалавек... Па ўсім бачна, што і сур'ёзны, і справядлівы... Але нашто ён прынёс гэту гіру?.. Дзядовіч?.. Міша ніколі не называў такое прозвішча... І чаму ў яго ў вачах столькі суму?.. *(Памаўчаўшы.)* Чаму ў яго столькі суму ў вачах?..

*Заслона.*

## СЦЭНА ЧАЦВЕРТАЯ

Дэкарацыя сцэны першай: гасціны пакой у кватэры Дзядовіча. За сталом сядзіць **Ірына** і піша: заканчвае тое пісьмо, якое выпадкова знайшоў Дзядовіч.

**Ірына** *(паклаўшы ручку, перачытвае апошнія радкі пісьма)*. Помні, што я жыву адной надзеяй — рана ці позна мы будзем разам з табой і я змагу штодня глядзецца ў твае вясёлыя вочы, слухаць твой чароўны голас, дакранацца да тваіх пяшчотных рук... Помні!

Стукнулі ўваходныя дзверы. За сцяной пачулася адкашліванне Дзядовіча. Ірына хуценька ўклала ліст у канверт, а канверт — у сумку.

Дзякаваць богу, што паспела. Зараз паеду да мамы па Аленку і заадно адпраўлю пісьмо. Ой, божа, што са мной робіцца! І як гэта перажыць усё?

Заходзіць **Дзядовіч**. Ірына кідае на яго насцярожаны позірк, затым падыходзіць да трумо, папраўляе прычоску і падводзіць аловачкам губы, даючы знаць, што збіраецца выходзіць з дому.

**Дзядовіч** (*стомлена апусціўшыся ў крэсла*). Па Аленку паедзеш?

**Ірына.** А куды ж яшчэ? Мог бы і ты даўно прывезці, дык жа недзе на шпацыры ходзіш. А я пасля работы павінна цяпер яшчэ таўчыся ў перапоўненым аўтобусе.

**Дзядовіч.** Заставайся дома, Ірысенька. Я з'езджу. А што затрымаўся — прашу прабачыць. (*Зусім спакойна, але не спускаючы вачэй з Ірыны, якая стаіць да яго бокам.*) Даўняга знаёмага спаткаў, з якім ужо шмат гадоў не бачыліся. З такім смешным птушыным прозвішчам — Грак. (*Падкрэслена, з гумарыстычнай ноткай у голасе.*) Міхась Іванавіч Грак!

У Ірыны падае з рук на падлогу аловачак. Яна раптам мяняецца з твару. Бачна, што ёй перахапіла дыханне, яна стаіць, як амярцвелая.

Вучоным за гэты час зрабіўся. Навуковыя трактаты піша — аб ролі прафсаюзаў. Запрасіў на кватэру, пасядзелі, пагутарылі трохі... Гэта тут недалёка, па Сонечнай.

Ірына ступае два крокі да тахты і садзіцца, як не зусім прытомная. Але хутка пачынае авалодваць сабою. Яна зразумела, што спалохалася дарэмна. Дзядовіч робіць выгляд, што толькі цяпер заўважыў яе хваляванне.

Што з табою? Табе кепска? Ты ўся змянілася з твару.

**Ірына** (*упалым голасам*). Нічога страшнага. Прынясі вады, калі ласка.

**Дзядовіч** спрытна падхапіўся і выбег з пакоя.

(*Расшпіляе на грудзях кофту, цяжка дыхае.*) Добра, што не рухнула на падлогу... Аж млосна зрабілася... Што гэта за насланнё? Выпадкова — такое супадзенне? Ці не наўмысна ён гэта?..

Вяртаецца са шклянкай вады **Дзядовіч**.

**Дзядовіч** (*падаючы Ірыне шклянку*). Вось бачыш, як табе нельга хвалявацца. Чуць разнервавалася — і нá табе: адразу робіцца блага.

**Ірына** (*глынуўшы трохі вады*). Гэта, мабыць, ад launch пepaтамлення. Першы дзень пасля адпачынку, дык і цяжка здалося, і дзень здоўжыўся...

**Дзядовіч.** Вядома! Можа, валяр'янкі вып'еш?

**Ірына.** Не трэба. Мне ўжо лепш стала. Аддало. Гэта — так, на адно імгненне. Сціснулася было сэрца...

**Дзядовіч.** То пасядзі спакойна. І наогул — адпачывай сёння. Па Аленку я зараз сам з'езджу... Ага, дык паслухай, што расказала Гракова жонка. У іхнім пад'ездзе сям'я жыве, суседзі. Ён і яна ды двое дзетак — хлапчук гадоў дзевяці і дзяўчынка — гады на тры меншая, дашкольніца. Сям'я такая, што ўсе знаёмыя адно любуюцца ды зайздросцяць. А такія слаўныя дзеці і так прывязаны да бацькі — што рыўма равуць, як ён у камандзіроўку едзе. От як па мне Аленка плакала, калі я на вёску да мамы ад'язджаў, помніш... (*Не зводзіць вачэй з Ірыны.*) І што ты думаеш? Учора жонцы стала вядома, што муж ёй здраджвае, што знюхаўся з нейкай маладзіцай, таксама замужняй і пры дзіцяці. Ну, і, вядома, сямейнае шчасце тут жа ператварылася ў сапраўднае пекла. Самае ж сумнае і самае смешнае, што ён ужо горка шкадуе аб сустрэчах з той маладзіцай, бо ён вельмі любіць дзяцей і ніколі іх не пакіне — ніколі! Гэта ўжо ты павер, Ірысенька, мне — ніколі! Я ж ведаю такіх людзей! Ну, вось. А тым часам мазгі закруціў маладзіцы так, што ўжо і яе сям'я на грані катастрофы! (*Павысіўшы голас.*) І яе дзіця можа аказацца няшчасным бязбацькавічам, байструком і бэнсем, можа скалечыцца душою на ўсё жыццё!.. Вось што значыць даць сабе неразумную паслабку, даць волю першаму спадманнаму пачуццю! Легкадумнасці стала замнога, распуста пайшла па людзях, як сталі жыць багата...

**Ірына.** Едзь, Васіль Дзям'янавіч. Едзь па Аленку. А то позна будзе.

**Дзядовіч.** Так, так, зараз жа еду. Ах, як яна ўзрадуецца, убачыўшы бацьку, і як усю дарогу

будзе шчабятаць мне на вуха, што навучылася за дзень ад бабы!.. *(Падняўся з крэсла.)* Ну, дык не сумуй тут. Мы хутка прыедзем. *(Выходзіць.)*

Ірына засталася сядзець на тахце нерухома, як і сядзела, скіраваўшы невідушчы позірк кудысь далёка. Затым расшпіліла сумку, дастала пісьмо і, не гледзячы, разарвала яго напалам. Пасля гэтага гучна, з крыкам, заплакала і залілася слязьмі. Уткнулася галавой у спінку тахты і забілася ў сутаргах.

*Заслона.*

1975—1976

# КАМЕНЬ З МАГІЛЫ ПРОДКАЎ

П'еса ў адной дзеі



ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

**Цішкевіч Вячаслаў Антонавіч** — прафесар, 75 гадоў.
**Вера** — яго ўнучка, гадоў 16.
**Тарлецкі Банадысь Сымонавіч** — рабочы саўгаса, гадоў 50.
**Франуся** — яго жонка, гадоў 40 з хвосцікам.
**Косцік** — сын Тарлецкіх, 17 гадоў.
**Коля**, **Міша** — аднакласнікі Косціка Тарлецкага







Двор Тарлецкага. Па ўсіх прыкметах — гаспадара руплівага і заможнага. На заднім плане — фасад дабрэннага новага дома пад шыферам. Ад дома — выступам на сцэну — зашклёная веранда з адчыненымі дзвярыма. Гэта — уваход у дом. Перад парогам — вялікі пляскаты цёмна-шэры камень, пакладзены, каб было зручна ступаць на парог.

Гаспадар з малатком у руцэ рамантуе штыкетнік.

З веснічак, што вядуць на вуліцу, на падворак заходзіць Косцік з нечым нагружанай капронавай торбай.

**Тарлецкі** *(павярнуўшыся да сына)*. Ты адкуль, сын?

**Косцік** *(прыпыніўшыся)*. З магазіна. Па хлеб хадзіў, мама казала купіць свежага.

**Тарлецкі.** «Беламору» мне прыхапіць не дагадаўся?

**Косцік.** Не-а. Дый ці ёсць ён там? Нешта не бачыў.

**Тарлецкі.** Ёсць... Мoжа, на прылавак забыліся выкласці.

**Косцік.** То пасля абеду схаджу зноў, вазьму.

Падыходзіць да веранды і, не ступаючы на камень, скача адразу на парог, прычым бачна, што робіць так наўмысна — як бы камень толькі што пафарбаваны і на яго нельга ступаць.

**Тарлецкі** *(услед Косціку)*. Пачакай! *(Косцік запыніўся на парозе і азірнуўся.)* Ідзі сюды!

**Косцік.** Чаго?

**Тарлецкі** *(патрабавальна)*. Ідзі сюды зараз жа!

Косцік зноў пераскоквае цераз камень і падыходзіць да бацькі.

**Косцік** *(устрывожана)*. Чаго?

**Тарлецкі.** Колькі яшчэ ты будзеш прыдурвацца?

**Косцік.** Што?

**Тарлецкі** *(злосна)*. Колькі яшчэ будзеш скакаць, як казёл цераз загарадзь?

**Косцік** *(спакойна)*. Я ж табе сказаў, тата...

**Тарлецкі** *(зрываючыся)*. Што ты мне сказаў?! Што?!

**Косцік** *(нясмела)*. Што... на гэты камень я ступаць не буду. Ён з магілы.

**Тарлецкі** *(крычыць)*. З якой магілы? Я ўзяў яго на магіле? Ён быў у кустах каля самага поля і чорт ведае колькі ўжо часу там валяўся! Дык пры чым жа тут магіла, ёлупень ты смалены!

**Косцік** *(стараючыся быць мужным)*. Не крычы, тата, і не лайся дарэмна. Ты ж ведаеш, што ка-

мень усё-такі з магілы. У кусты яго зацягнулі з магілы. І ты нават ведаеш — з чыёй, мы пра гэта гаварылі, калі я прачытаў надпіс.

**Тарлецкі** (*яшчэ больш злуючыся*). Што ты прачытаў? Ерунду сабачую ты прачытаў, а не надпіс! Мне няма ніякай справы, дзе быў сто гадоў назад нейкі камень. Ці мала дзе які валяецца камень, дык я павінен думаць, што, можа, ён некалі, пры цару Гароху, быў на нечай магіле?

**Косцік.** Чаму на нечай? Гэта камень з магілы Цішкевіча — таго самага, пра якога я чытаў у часопісе. Там пісалася, што Іпаліт Цішкевіч быў выдатны вучоны, што ён паходзіў з нашага мястэчка і тут, на нашых могілках, пахаваны.

**Тарлецкі.** Ерунду сабачую ты мне гародзіш! Я гаварыў з дырэктарам школы, ён жа вас па гісторыі вучыць. Я спецыяльна, наўмысна спытаўся, ці быў такі вучоны з нашага Зарэчча. Не чуў ён такога вучонага! Паны-крывасмокі пад гэткім прозвішчам жылі тут некалі, яшчэ да рэвалюцыі. Вось што мне сказаў твой дырэктар! Не стала паноў — не стала і памяці пра іх. Таму і камяні з магіл пасцягвалі і самі магілы з зямлёй зраўняліся. А ты мне — вучоны!

**Косцік.** Я чытаў пра гэта ў часопісе, у артыкуле прафесара. Прафесар жа хлусіць не будзе...

**Тарлецкі.** А дырэктар твой, значыць, хлусіць?

**Косцік.** Іван Архіпавіч, відаць, не чытаў таго артыкула. Да таго ж — ён чалавек прыезджы, здалёку, мясцовай гісторыяй не займаўся...

**Тарлецкі.** Дык жа і ніхто з тутэйшых не чуў такога вучонага! Калі б на могілках была магіла вялікага вучонага, дык ты ведаеш, як бы яна была дагледжана? Які б на ёй стаяў помнік? За дзесяць тысяч манумент стаяў бы! Ад дзяржавы! Вунь — як партызанам у Калінаўцы. А гэта — ужо і ад самой магілы следу не засталося. І правільна, што не засталося! Нечага шанаваць памяць паноўдушагубаў!

**Косцік.** Пры чым тут паны-душагубы?

**Тарлецкі.** А-а, пры чым тут паны? От пажыў бы пад імі, паспытаў бы іх хлеба — тады ты іначай гаварыў бы!

**Косцік** (*усміхнуўшыся*). Між іншым, тата, ты таксама не жыў пад панамі.

**Тарлецкі.** Я не жыў, але ведаю! А ты і ведаць не хочаш. Табе ўжо шкада іх памяці! Пад ногі іх памяць, і толькі! І ганарыся, што маеш гэта права — выціраць ногі аб колішнюю панскую пыху! За дзядоў і прадзедаў сваіх паганарыся, што адпакутавалі за нас з табою!

**Косцік.** Тата, я — пра адно, а ты — пра зусім другое. Я — пра памяць выдатнага вучонага, а ты — пра паноў-душагубаў.

**Тарлецкі.** Дык жа Цішкевічы тут былі панамі! Спытай любога старога чалавека, хто яшчэ помніць! Вунь Ганна Муляровых, яшчэ малая, служанкай была ў іх!

**Косцік.** У артыкуле напісана, што Цішкевічы былі дробнымі фальваркоўцамі. Да вялікіх паноў яны не належалі. Але гэта нават не мае значэння — дробныя ці буйныя. Важна, што Іпаліт Цішкевіч быў вучоны, які мае заслугі перад навукай і культурай.

**Тарлецкі** (*нанова ўзрываючыся*). Дык жа не было, сукін ты кот, такога вучонага! Не было, сказана табе!

**Косцік.** Быў — раз напісана. І таптацца па пліце з яго магілы — некультурна і амаральна... Так, так, тата. Прабач, што я вымушаны гаварыць гэтак...

**Тарлецкі.** Ага-а!.. (*Наліваючыся гневам.*) Значыцца, ты — культурны і маральны, а я — бескультурны і амаральны... Ага-а!.. На маім хлебе вырасшы, ты стаў гэтак вышэй нада мною. Ну, то мы зараз з табой зраўняемся! (*Кінуў, адвярнуўшыся, пад плот, вобзем, малаток і новую штыкеціну і разлютавана рынуўся да сына.*)

**Косцік** (*спалохана*). Тата, ды пачакай ты, чаго ты...

Тарлецкі хапае Косціка за пояс, прыпадымае на руках, нясе да ганка і спрабуе яго паставіць нагамі на камень.

**Тарлецкі** (*у лютым гневе*). Станавіся, бо задушу сваімі рукамі, гад печаны!

**Косцік** *(падкурчыўшы ногі, каб не даставаць імі да каменя)*. Тата, пусці! Пусці, тата, не рабі глупства!

На парозе веранды з абвязанай даёнкай у руках паяўляецца **Франуся.**

**Франуся** *(спалохана)*. Банадысь! Здурнеў ты!.. Косцік! За што гэта вы?

**Тарлецкі** *(усё яшчэ трымаючы сына)*. Станавіся, кажу табе! Станавіся і тупай чаравікамі! Шаруй і выцірай ногі, мярзотнік, бо ў хату іначай ты ў мяне не зойдзеш! Раз такі культурны, дык ногі выцірай перад парогам!..

**Франуся.** Пусці дзіця, Банадысь! Звар'яцеў, дальбог! Апомніся!

Косцік тузануўся і вырваўся з аслабелых рук бацькі.

**Тарлецкі** *(да жонкі)*. А-а, заступніца падаспела якраз! Ну, нічога! Я яшчэ яму дакажу, хто з нас культурны! Калі бэсціць роднага бацьку — гэта культура, дык не трэба мне яна такая!

Косцік адышоўся да плота, павесіў торбу з хлебам, адвярнуўся, абапёрся грудзьмі на штыкетнік. Падобна, што ён моўчкі плача.

**Франуся** *(да мужа)*. Чаго ты разлютаваўся гэтак? Хоць бы людзей пасаромеўся. Гэта ж з вуліцы чутна...

**Тарлецкі** *(цяжка дыхаючы, дастае папяросы і закурвае)*. Ён мяне культуры будзе вучыць!.. Сапля непадцёртая! *(Накіроўваецца да веснічак на вуліцу.)*

**Франуся** *(услед мужу)*. Ты куды, Банадысь? Палуднаваць жа будзем. Вось толькі схаджу падаю карову.

**Тарлецкі** *(павярнуўшыся)*. Туды, дзе менш культурная публіка! Палуднуй са сваім анёлкам, якому ты патураеш!.. *(Выходзіць.)*

**Франуся** *(голасна)*. Банадысь, здурнеў ты! *(Памкнулася да веснічак, але спынілася. Паставіла вядро каля ног, успляснула рукамі, пакрыўджана.)* Ну, што ж гэта робіцца? Што ж гэта робіцца ў нашай хаце! І ўсё з-за гэтага праклятага

каменя! *(Да сына.)* Косцік! Дзіцятка! *(Падыходзіць да яго бліжэй.)* Хай бы ты ўжо змірыўся нарэшце? Ды ліха з ім, з гэтым каменем! Ты ж гэтак бацьку да інфаркту давядзеш. Сыночак! Прашу цябе: змірыся! Чуеш, Косцік?

**Косцік** *(павярнуўшыся нарэшце да маці, круціць галавой)*. Не, мама... На гэты камень я ступаць не буду. Ён з магілы нашага вучонага...

**Франуся.** Дык а як жа будзе, сынок? Бацьку ж мы не пераканаем з табой! Ты ж ведаеш яго натуру. *(Плача.)* Ты і сам такі ж упарты ўдаўся. Абое вы гэткія, толькі здзекавацца з мяне.

**Косцік.** Калі не пераканаем, дык зробім самі, без яго.

**Франуся** *(сцепануўшыся)*. Што ты зробіш?

**Косцік.** Камень гэты... адсюль прыбяром, а пакладзём іншы. Я ўжо гэта даўно наважыў, толькі яшчэ не знайшоў прыдатнага каменя на ўзамен.

**Франуся** *(устрывожана)*. Сынок, без яго згоды ты гэтага не рабі! І так бацька на цябе крыўдзіцца. Надоечы зноў казаў мне: «Ці ж я гэта для сябе стараўся — адляскаць такі дом, як лялечку? Для свайго ж дзіцяці стараўся, каб яму добра было. Я і транзістар яму, і веласіпед, і акардыён, а скора і на машыну чарга падыдзе... А яму нейкі дапатопны камень стаў даражэй за роднага бацьку!..» Чуць не плакаў ад крыўды.

**Косцік.** Мама! Ды не праўда ж гэта! Нічога не даражэй!.. А проста — нельга так! Гэты камень — гістарычная каштоўнасць, ён ляжаў на магіле выдатнага вучонага. Цяпер так многа пішуць пра захаванне помнікаў гісторыі і культуры, нават цэлае таварыства для гэтага ўтварылі. А мы выціраем ногі аб помнік. Ты ж і сама тады сварылася на тату, крычала, што гэта грэх і што няможна так!

**Франуся.** Крычала, а як жа! І нават плакала: што людзі скажуць, як убачаць. Але ж ён не паслухаў. Нарабіў насечак на мармуры, каб гэны надпіс відаць не быў і каб не слізгацца, бо надта гладкі, і кажа: «Глупства ўсе твае забабоны! Камень з магілы звярнулі і адкінулі ў кусты. І калі б я не ўзяў яго, дык узяў бы нехта іншы». Навошта, кажа, каб прападаў такі цудоўны матэрыял. Па-

глядзі, кажа, як ён хораша тут лёг, каля ганка, як усё роўна па заказу зроблены: і шырокі, і роўненькі, і такі прыгожы... Яно і праўда, як пагляндзела я — дык надта хораша. Можа, думаю, і не грэх, калі ён ужо ў кустах валяўся, калі ўжо і ад той магілы нават знаку няма... Хто ж яго ведае, дзіцятка, калі цяпер такое жыццё пайшло, што ні з чым не лічыцца. Усё, што некалі людзі лічылі святым і аберагалі, цяпер бурыцца і знішчаецца. Ніякага граху ніхто цяпер не баіцца.

**Косцік.** Гэта вельмі кепска, мама, калі знішчаецца тое, што створана чалавечымі рукамі для ўпрыгожання жыцця на зямлі. Мы гэта нарэшце зразумелі — вось таму і таварыства арганізавалі, і пішуць пра гэта многа.

**Франуся.** Ай, дзіцятка маё дарагое, я ўжо дык і не веру, што нешта перайначыцца, што людзі будуць шанаваць даўнейшае, і наогул — будуць хоць трохі нейкага граху баяцца ці хоць саромецца. Ты кажаш — пішуць і заступаюцца, а вунь арган у старым касцёле разабралі, парэзалі усе трубы і павезлі. Куды і навошта? Такую дарагую рэч зглумілі! Такая, бывала, музыка грала! Арганісты гэны дык горкімі слязьмі плакаў, як разбіралі...

**Косцік.** За арган нашаму культурнаму начальству папала. У рэспубліканскай газеце фельетон быў.

**Франуся.** Можа, і папала. Але што з гэтага? Аргана ж назад не прывезлі, недзе пусцілі на глум, збяёдавалі. А арганісты казаў, я сама чула, можна было б у тым храме зрабіць музычную школу і вучыць дзяцей арганнай музыцы. Ты ж таксама хадзіў некалі слухаць, яшчэ зусім малы, дашкольнікам. І ўсё пытаўся, як гэта на іх граюць, на такіх доўгіх трубах...

**Косцік.** Уся бяда, мама, у тым, што многія не адрозніваюць, дзе рэлігія, а дзе — культура і мастацтва, дзе забабоны, а дзе — гістарычная памяць народа. І той арган і гэты камень пайшлі на глум па адной і той жа прычыне. І дарэмна тата злуецца. Ён лічыць мяне ўсё яшчэ малым дзіцем і думае, што я нічога не разумею.

**Франуся.** Можа б, ты прайшоўся, глянуў, дзе

ён дзеўся — бацька? Ды перапрасіў бы хоць якнебудзь?

**Косцік.** Трохі пасля, няхай супакоіцца... А перапрашаць... я не ведаю — за што?

**Франуся.** Ой, сынок, сынок... Разумны ты ў нас і не па гадах дарослы, а вось з бацькам паладзіць не ўмееш... Пайду я падаю Недзяленьку, ды палуднаваць будзем. А ты прайдзіся ўсё-такі, пашукай яго...

**Косцік.** Зараз прайдуся...

**Франуся** забірае даёнку і ідзе за хату. Косцік падымае малаток і штыкеціну, на лаўцы бярэ цвікі ў скрыначцы і робіць тое, што не скончыў бацька: уважліва прымярае штыкеціну і прыбівае на месцы паламанай.

Праз веснічкі ў двор заходзяць **Міша,** за ім **Цішкевіч,** тады **Вера** і апошнім — **Коля.**

**Міша.** Эй, майстар-ламайстар, канчай работу! Да вас госці шаноўныя! *(Падміргвае Косціку.)*

**Цішкевіч** *(Косціку)*. Добры дзень, малады чалавек!

**Косцік** *(трохі разгублена)*. Добры дзень...

**Цішкевіч.** Сынок гаспадара будзеце?

**Косцік** *(ківае галавой)*. Так...

**Цішкевіч.** Дазвольце назвацца: прафесар Цішкевіч, Вячаслаў Антонавіч. *(Прыўзнімае над галавой лёгкі летні капялюш.)* А гэта *(паказвае на Веру)* — Вера, таксама Цішкевіч, мая ўнучка. *(Вера чуць кіўнула галавой Косціку.)* А вы, значыць, Тарлецкі... *(Чакае, каб Косцік назваў далей сваё імя.)*

**Косцік** *(ён зусім ашаломлены прозвішчам Цішкевіч, на твары ў яго разгубленасць і страх)*. Банадысь Сымонавіч...

Міша і Коля голасна рагатнулі.

**Міша.** Ужо за бацьку выдаеш сябе!

**Косцік** *(схамянуўся, зачырванеўся)*. Прабачце... Я — Кастусь. Мне здалося, вы пра тату пытаеце...

**Цішкевіч.** Так, нам вельмі патрэбна пабачыць вашага бацьку. Ён дома?

**Косцік.** Не, зараз яго няма, але... можа, ён скора прыйдзе...

**Цішкевіч.** Справа вось у чым, малады чалавек.

Нас запэўнілі, што толькі ваш бацька можа дапамагчы нам у той невясёлай сітуацыі, у якой мы апынуліся. Мы прыехалі з Далёкага Усхода. Там я нарадзіўся і пражыў жыццё, там — мае дзеці і ўнукі. Але карэнне наша тут, адсюль быў некалі высланы за рэвалюцыйную дзейнасць мой бацька, тут засталіся магілы многіх пакаленняў нашага роду. У тым ліку і майго дзеда Іпаліта Іванавіча Цішкевіча, вядомага ў свой час вучонага, які так горача дбаў і клапаціўся пра развіццё асветы і культуры ў гэтым краі. *(Запнуўся і перавёў дыханне.)*

**Косцік** *(нягучна)*. Я ведаю...

**Цішкевіч.** Што вы ведаеце?

**Косцік.** Што Іпаліт Цішкевіч быў адгэтуль родам. Я чытаў пра гэта ў часопісе.

**Цішкевіч.** Ах, вось як? Гэта вельмі пахвальна, малады чалавек. Вельмі пахвальна, што вы ведаеце. *(Да Мішы і Колі.)* А вы — таксама ведаеце?

**Міша** *(упэўнена)*. Чулі, вядома!

**Коля** *(кіўнуўшы на Косціка)*. Косцік расказваў, ад яго ведаем.

**Цішкевіч.** Ага, значыць, чулі і ведаеце. Вельмі рад за вас, маладыя людзі. Дык а як жа здарылася, што магіла Іпаліта Іванавіча ў такім запушчаным стане? Фактычна — магілы няма! *(Пачынае хвалявацца.)* Нават камень — надмагільны мармуровы камень — сцягнулі, і немаведама дзе ён!

**Вера** *(узяўшы Цішкевіча пад руку)*. Дзядусік, табе няможна так хвалявацца, ты мне абяцаў, што будзеш гаварыць спакойна.

**Цішкевіч** *(гладзячы руку ўнучкі)*. Я — спакойна, спакойна... *(Да Косціка.)* Прыехаўшы, мы пайшлі адразу на могілкі. Я лёгка знайшоў месца, дзе была магіла: пад ралатай сасною. Апошні раз я бачыў яе ў сорак чацвёртым, калі тут праходзіў наш полк... Дык вось нам сказалі, што пра камень трэба спытацца ў вашага бацькі. Там, на могілках, нам сказалі.

**Косцік** *(апусціўшы сумна вочы)*. Я таксама... ведаю, дзе ён, той камень...

**Цішкевіч.** Ён хоць не знішчаны? Цэлы?

**Косцік.** Цэлы, але... папсаваны.

**Цішкевіч** *(здымае капялюш, дастае хусцінку, выцірае твар)*. Шкляначку вады халоднай не маглі б вынесці?

**Косцік.** Зараз... пачакайце хвілінку...

Ідзе да хаты, перад ганкам азіраецца і з жахам бачыць, што Цішкевіч і Вера памалу ступаюць за ім — бліжэй да веранды. Ён пераскоквае камень і знікае ў хаце. Цішкевіч з Верай падыходзяць амаль да самага ганка, і тут прафесар раптам спыняе позірк на камені і пазнае яго.

**Цішкевіч** *(рашуча ступіўшы крок наперад)*. Верачка! Вось ён дзе — камень!.. Камень з магілы нашага дзеда Іпаліта Іванавіча! Яны паклалі яго пад ногі!.. О-о, людзі! *(Кідае на зямлю капялюш і трасе над галавой рукамі.)* Якое святатацтва! *(Падае перад каменем на калені, трасе сівой галавою.)* Так наглуміцца... над светлай памяццю чалавека...

**Вера** *(моцна ўсхваляваная, таксама апускаецца на калені побач з дзедам)*. Дзядусік, міленькі, устань! Табе няможна так хвалявацца! Дзядусенька!

**Цішкевіч** *(дастае хусцінку і змятае ёю з каменя пыл)*. Паглядзі, Верачка, вось яшчэ і прозвішча прачытаць можна... Наша прозвішча.

**Косцік** выходзіць тым часам з конаўкай вады. Бачыць усё, што адбываецца, і заміpае на парозе. Затым, асцярожна саскочыўшы з парога, падыходзіць да Мішы і Колі, якія стаяць тут жа, аслупянелыя.

**Косцік** *(з крыўдай у голасе)*. Гаварыў жа я тату...

**Коля** *(шэптам)*. Дай вады старому... І растлумач як-небудзь...

**Косцік** *(нясмела ступае крок да Цішкевіча)*. Вячаслаў Антонавіч, вось вада, калі ласка...

Цішкевіч яго нібы не чуе. Ён стаіць на каленях і гаротна ківае галавой, як над магілай. Вера падхопліваецца з вачыма, поўнымі слёз, і, сціснуўшы кулачкі, павярнулася да Косціка.

**Вера** *(крычыць у вялікім гневе)*. Што вы зрабілі, дзікуны? Вы кінулі пад ногі памяць чалавека, якім павінны ганарыцца! Вы невукі і варвары, і я

ненавіджу вас! *(Да Цішкевіча.)* Хадзем адсюль, дзядуська! Паедзем у раён і там пра ўсё даложым начальству. А не — дык і ў вобласць паедзем! За гэтае варварства яны паплоцяцца! Хадземце, дзядуська!

З дапамогай Веры Цішкевіч падымаецца з зямлі.

**Косцік** *(Цішкевічу і Веры)*. Паслухайце, калі ласка, я вам усё растлумачу...

**Цішкевіч** *(рэзка)*. Не трэба! Вы ўжо ўсё сказалі, малады чалавек! *(Паказвае рукой на камень.)* Больш вам дабавіць няма чаго!.. Хадзем, унучачка!.. Дзе мой капялюш... *(Азіраецца наўкола.)*

**Косцік** *(разгублена працягвае конаўку)*. Вады, калі ласка, вы прасілі...

**Цішкевіч** *(з пагардай)*. І вады, прабачце, з вашых рук я не вазьму.

Коля падымае, абдзьмухвае і падае Цішкевічу капялюш.

**Коля** *(хвалюючыся)*. Вы... на Косціка дарэмна. Ён не вінаваты! Паверце мне...

**Цішкевіч** *(надзеў капялюш, рашуча рушыў з двара, раптам павярнуўся і ступіў крокі тры назад)*. І запомніце, што я вам скажу, маладыя людзі, будучыя гаспадары жыцця і гэтай зямлі... «Калі мы стрэлім у мінулае з рэвальвера — будучыня стрэліць у нас з гарматы». Гэта напісаў паэт, і ў гэтых словах вялікая праўда. Запомніце гэта і моцна падумайце! *(Павярнуўся і пайшоў.)*

**Косцік** *(кідае вобзем конаўку і крычыць услед)*. Стойце! *(У імгненне вока даганяе Цішкевіча і заступае яму дарогу. Тут жа і Вера.)* Паслухайце! *(На ўвесь голас, зрываючыся, душачыся ад крыўды і гневу.)* Я вас прашу, паслухайце! Я пайду працаваць! Я зараблю грошы і пастаўлю новы помнік! За тысячу рублёў помнік — з мармуру і граніту! Праз год будзе новы помнік! Я клянуся вам! І я ні разу не ступіў нагой на гэты камень! Ні аднаго разу!.. *(Бледны, глядзіць у вочы Цішкевічу, цяжка дыхае.)*

**Цішкевіч** *(мяняецца з твару, пагляд яго мяк-*

*чэе, цяплее, на вусны ўзбягае ледзь прыкметная ўсмешка. Да Веры).* Ты чуеш, унучка? Гэты голас мне падабаецца. *(Пераводзіць позірк на Косціка.)* Гэтаму голасу не паверыць цяжка. *(У роздуме.)* Та-ак, пачынаю разумець. Значыць, усё гэта зрабілася без вашай згоды?

**Косцік.** З маёй просьбай не палічыліся.

**Коля.** Я ж вам гаварыў: Косцік не вінаваты.

**Міша.** Косця ў нас хлопец — во! Перадавік кругом!

**Вера.** Дык а дзе ж былі вы, яго сябры? Чаму вы яго не падтрымалі? Як вы дапусцілі такое?

**Міша.** Вы не ведаеце яго бацькі! З ім у дыспут лепш не ўступаць! І вы нічога б яму не даказалі.

**Вера.** Я не даказала б? Калі б я не даказала праўду — я перастала б сябе паважаць! Проста вы ўсе тут вартыя жалю капітулянты! Вы і не спрабавалі сур'ёзна змагацца!

**Цішкевіч.** Верачка, не засмучай маладых людзей. Не ўсе адразу мудрасці да чалавека даходзяць. *(Да Косціка.)* Прабачце, дзе тая конаўка з вадою? Я ўсё-такі папіў бы вадзіцы...

**Косцік** *(да Мішы).* Міша, прынясі, калі ласка, там на верандзе ўбачыш, на ўслончыку. А яшчэ лепш — выцягні свежай са студні... Конаўку спаласні добра...

**Міша** падымае конаўку і ідзе за хату да студні.

**Цішкевіч.** Та-ак, значыць, з бацькам фактычна ў вас разлад... Нялёгкая сітуацыя. І ўсё ж — не дрэйфіце, таварыш Кастусь. У рэшце рэшт ён вас зразумее і прызнае сваю неправату. Абавязкова! Ну, а наконт помніка — не гарачыцеся. Гэта пытанне трэба абмазгаваць. Для гэтага я і прыехаў сюды. Так, так, я прыехаў не толькі затым, каб у апошні раз пакланіцца родным магілам. Але і для таго, каб дамовіцца з мясцовымі ўладамі наконт помніка Іпаліту Іванавічу Цішкевічу. У мяне ёсць зберажэнні, частку якіх я наважыў ахвяраваць на збудаванне помніка.

**Косцік** *(хвалюючыся).* Вячаслаў Антонавіч, прабачце, на помнік я зараблю грошы сам. Зразумейце мяне і не пазбаўляйце мяне гэтага права!..

**Коля** *(горача)*. І мы з Мішам паможам! А можа, і ўсім нашым класам — лета папрацуем, заробім, і будзе на помнік. Косцік, ідэя, га?

**Косцік.** У кожным разе — за сродкі вы не турбуйцеся...

**Цішкевіч.** Добра, дарагія мае, пра гэта мы яшчэ дамовімся. Я вітаю вашу ідэю, але, можа, вы і мяне ў пай прымеце, каб і мне крыўдна не было? І вось Веры — яна ж усё-такі Цішкевіч. А зараз мы сходзім у сельсавет — у першую інстанцыю, і пагаворым там. А затым да раённай улады з'ездзім, папросім, каб і там падтрымалі... Усё гэта трэба не толькі і не столькі мне з Верачкай. Гэта трэба перш за ўсё нам, нашаму народу. Народ павінен ведаць імёны сваіх лепшых дачок і сыноў. Абавязкова павінен ведаць! «Дзе не шануюць мёртвых — там не любяць жывых!» І гэта таксама сказаў паэт, і ў гэтых словах таксама вялікая і страшная праўда. Запомніце іх, мае маладыя сябры! І зразумейце, што нездарма ж урад і партыя праяўляюць столькі клопату аб увекавечанні памяці герояў і наогул слаўных людзей Бацькаўшчыны!..

**Міша** вяртаецца з поўным вядром вады, чэрпае конаўку і падае яе Цішкевічу.

**Міша.** Калі ласка — бальзаму з роднай вам зямлі!

**Цішкевіч** *(бярэ конаўку)*. Дзякую. *(Доўга, са смакам, п'е.)* Цудоўная вадзіца! Сапраўды — бальзам. *(Да Веры.)* Ты не хочаш, Верачка? Пасмакуй — шкадаваць не будзеш.

**Вера.** З прыемнасцю.

**Коля** *(амаль вырываючы конаўку ў Цішкевіча)*. Дазвольце! *(Зачэрпвае ваду і падае Веры.)* Калі ласка!

Міша глядзіць на Колю іранічна-насмешліва.

**Вера.** Дзякую. *(Бярэ конаўку і п'е.)*

**Коля.** На добрае здароўе! *(Калі Вера трохі адпіла і перавяла дух.)* Падабаецца вам?

**Вера.** Ага. Вельмі смачная. А сцюдзёная — аж зубы ломіць.

**Коля.** У нас тут кругом такая. У кожнай студні.

**Міша** *(іранічна)*. Малайчына, што пастараўся прынесці.

**Коля** *(засаромлена)*. Усе бачылі, хто прынёс...

**Вера** *(падаючы конаўку Колю)*. Дзякую яшчэ раз.

**Коля.** Няма за што.

**Цішкевіч.** Ну, што ж, мы пайшлі. *(Да Косціка.)* Сельсавет ад вас далёка?

**Косцік.** Не, зусім недалёка. Тут, хат праз дзесяць...

**Коля** *(паспешліва)*. Мы правядзём вас! Нам якраз па дарозе.

**Косцік** *(няголасна)*. Коля, ты застанься, калі ласка. Няхай Міша адзін пройдзе пакажа.

**Коля.** Дык я тут жа і вярнуся!

**Міша** *(да Колі)*. Слухай і выконвай заданне камсорга класа! Што гэта за дысцыплінка, таварыш? *(Хітра міргае Косціку.)*

**Цішкевіч** *(падае Косціку руку)*. Да пабачэння! Рад быў пазнаёміцца — і з вамі і з вашымі сябрамі. Думаю, да нашага ад'езду мы яшчэ пабачымся. *(Падае руку Колю.)* Да пабачэння!

**Косцік.** Да пабачэння.

**Коля.** Да пабачэння.

**Вера** *(кіўнуўшы злёгку галавой)*. Да пабачэння.

**Косцік.** Да пабачэння.

**Коля.** Да пабачэння.

**Міша** *(скорчыўшы сябрам міну)*. Да пабачэння, дарагія сябры, не памінайце ліхам!

**Цішкевіч**, **Вера** і **Міша** выходзяць. Косцік і Коля праводзяць іх паглядам.

**Коля.** Ты знаеш, я думаў, яна цябе ўдарыць!

**Косцік** *(як бы не пачуўшы, што сказаў сябра)*. Хадзі! Нам трэба хуценька зрабіць адну работу. *(Цягне Колю за сабою. Каля ганка запыніўся.)* Пачакай тут — я зараз. *(Пакідае Колю і знікае за хатай.)*

**Коля** *(застаўшыся адзін, нагінаецца і разглядае камень, марудна чытае надпіс)*. Памёр у тысяча восемсот... а далей не разабраць... нібыта восем

ці тры?.. Відаць, восем... Ціш-кевіч... Гэта хутчэй здагадацца можна, чым прачытаць. (*Выпрастаўся і адвёў позірк убок. Задуменна.*) Цішкевіч... Вера Цішкевіч. Цікава, а як на бацьку?

Паяўляецца **Косцік.** Ён коціць перад сабой невялікую каламажку на двух колах, з якой тырчаць два жалезныя ламы і рыдлёўка.

**Косцік.** Коля, бяры лом і за работу!

**Коля.** Што ты надумаў?

**Косцік.** Гэты камень трэба ўзадраць, пагрузіць на каламажку і завезці туды, на могілкі. Давай! Тата яго капітальна цэментам умураваў, дык трэба ламамі адбіць. Бо так не ўздзяром.

**Коля.** Слухай, ён жа ўвесь падзёўбаны, папсаваны...

**Косцік.** Хоць і падзёўбаны — ён павінен ляжаць там. Пакуль зробім сапраўдны прыгожы помнік. Давай!

Абое бяруць ламы і пачынаюць біць наўкола каменя.

**Коля.** А я ўжо думаў, яна цябе ўдарыць. Ты бачыў, як у яе гарэлі вочы і дрыжалі кулачкі?

**Косцік** (*абыякава*). Бачыў.

**Коля.** Агонь-дзяўчына! Ты знаеш, у нашым класе — няма такой. І ва ўсёй школе — няма. Ну і характар!

**Косцік** (*спрабуючы падважыць ломам камень*). Не ўсім жа быць цямцямі-лямцямі.

**Коля** (*перастаўшы біць ломам*). А пасля, як піла ваду, дык ужо зусім была нязлосная. Зусім нязлосная. Праўда?

**Косцік.** Я не прыглядаўся. Ты што — ужо з таго боку адбіў?

**Коля** (*зноў пачаў дзёўбаць ломам*). Не яшчэ, зараз... (*Памаўчаўшы.*) Як ты думаеш, у якім яна класе? Па-мойму, дык таксама дзевяты кончыла?

**Косцік.** Паспрабуй падважыць з таго боку. (*Коля падважвае.*) Зараз будзем грузіць, яшчэ вось тут трошку, пад самым парогам.

**Коля.** Напэўна, дзевяты! Каб дзесяць — дык бы яна не паехала ў такую далёкую дарогу, а рыхтавалася б да ўступных экзаменаў. Праўда?

**Косцік.** А можа, яна з медалём кончыла. Чаго ёй баяцца?

**Коля.** Напэўна, з медалём. Канешне, з медалём! Што ты! Тут і сумнявацца не трэба. Унучка прафесара. І наогул.

**Косцік.** Давай паспрабуем адцягнуць яго трохі ад ганка. Я вазьму за гэты край, ты — за той. Давай!

Бяруцца з абодвух бакоў за камень і цягнуць. Камень падаўся наперад, высунуўся з-пад парога.

Парадак! Цяпер пагрузім у каламажку — і гатова.

**Коля.** Цікава, ці стала б яна з намі перапісвацца... з нашым класам? Як ты думаеш?

**Косцік.** Перапісвацца з дзікунамі і варварамі? Пакуль што — мы для яе дзікуны і варвары. І ўжо ва ўсякім разе — нікчэмныя капітулянты. *(Падкаціў каламажку, нахіліў кузаў да самага каменя і падпёр ломам.)* Давай! Толькі б край ускласці, а тады ён пасунецца.

Уздымаюць і кладуць край каменя на борт кузава. Затым патроху пасоўваюць, і нарэшце камень у каламажцы.

**Коля.** Нешта доўга Мішы няма. Няўжо ён пайшоў з імі ў кабінет да старшыні?

**Косцік.** Так, пастаўлю на месца ламы і рыдлёўку і павязём. Не, рыдлёўку возьмем з сабою, можа, там спатрэбіцца. *(Бярэ ламы і нясе іх за хату.)*

**Коля** *(услед)*. Я выгляну на вуліцу — зірну, можа, Міша ідзе. *(Подбегам кінуўся да веснічак і там сутыкнуўся з Тарлецкім. Трохі сумеўшыся.)* Дзядзька, а Мішу там не бачылі?

**Тарлецкі** *(прыкметна, што ён на добрым падпітку. Спыніўся і ўставіўся ў Колю)*. Там, дзе я быў, ніякага Мішы не было. Ідзі шукай свайго Мішу сам!

**Коля** шмыгнуў за спіну Тарлецкага і знік. Тарлецкі цяжкім няўпэўненым крокам ідзе да ганка. Убачыўшы каламажку з каменем — аслупянеў. У гэты ж момант з-за хаты выходзіць **К о с ц і к.**

Ага-а! Значыцца, ужо руйнуеш? Ага-а! Бацька

будаваў, а сын — руйнуе! Сыну, значыцца, не трэба!.. Ага-а!.. Ну, дык жа тады не будзе і па-твойму! Тады і я руйнаваць буду! *(Крычыць.)* На дробныя друзачкі к чортавай матары растаўку! *(Бягом кідаецца за хату.)*

На падворку зноў паяўляецца **Коля** і нясмела наблізаецца да Косціка, які стаіць каля каламажкі.

**Коля.** Што... бацька... за гэты камень?

**Косцік.** Ён недзе выпіў, мабыць, у магазіне.

З-за хаты выбягае **Тарлецкі** з ломам у руцэ.

**Тарлецкі** *(страшны ад гневу)*. Калі бацькава праца — нуль і бацькава слова — нуль, дык і ты для мяне нуль таксама! *(Кідаецца да каламажкі і ўзмахвае ломам, каб ударыць па камені.)*

**Косцік** *(толькі цяпер да яго дайшоў сэнс бацькавай пагрозы. Ён кідаецца да бацькі з крыкам)*. Тата! Што ты робіш, тата!

**Тарлецкі** *(павярнуўшыся да сына, у дзікай лютасці)*. Адыдзі — бо ўкладу на месцы, гад печаны!

Косцік, не зважаючы на бацькаў гнеў, хапае і вырывае ў яго з рук лом. Тарлецкі штурхае яго абедзвюма рукамі ў грудзі, і Косцік з ломам падае. Тарлецкі хапаецца за аглобелькі каламажкі і спрабуе выкуліць з яе камень. Убачыўшы гэта, Коля кінуўся да яго і схапіў за руку.

**Коля.** Дзядзька! Стойце! Ваш Косцік не вінаваты!

**Тарлецкі** *(адштурхвае яго)*. Прэч, малакасос!

Тым часам падхапіўся Косцік, падскочыў да бацькі і вырваў аглобелькі з рук. Тарлецкі на момант разгубіўся: сын упершыню дазволіў сабе такое. Стаў перад бацькам твар у твар і спакойна сказаў.

**Косцік.** Бі, тата. Можаш нават забіць. Але глупства гэта зрабіць табе я не дам. Гэты камень будзе там, дзе ён павінен быць. І не дом я руйную, а ганьбу нашага дома. Я люблю наш дом і не хачу, каб на ім была чорная пляма!

**Тарлецкі** *(апусціў рукі, абвяў)*. Ага-а!.. Значыцца, любіш... Любіш, значыцца?.. *(Голас задрыжаў, твар скрывіўся.)* А мяне ты любіш? Га?

А мяне ты за што не любіш? Га? *(Заплакаў і схіліў галаву на грудзі.)* За што ты мяне не любіш, гад печаны?

**Косцік.** Няпраўда, тата. Я люблю цябе. Хадзі пасядзі на лаўцы. *(Бярэ бацьку пад руку, вядзе да лаўкі і ўсаджвае.)* І супакойся, тата. Не трэба.

На падворак літаральна улятае праз веснічкі **Міша**. Не заўважаючы, у якім стане Тарлецкі, радасна крычыць.

**Міша.** Ну, хлопцы — поўны кантакт! Дарма ты, Колечка, стараўся паіць яе вадзічкай! Вось яе адрас *(паказвае паперку)*, і заўтра ў нас спатканне ў райцэнтры!

**Коля.** Ціха ты! Раскудахтаўся, як...

**Міша** *(убачыў Тарлецкага, падышоў да Косціка, пайшэптам)*. Што з бацькам?

**Косцік** *(ціха)*. Пасля пра гэта... *(Міргае Мішу і Колю і ідзе да каламажкі. Хлопцы за ім.)* Без лішніх слоў — бярыце і вязіце. Ты, Коля, ведаеш куды. Праз гумно і там аселіцай... Я прыйду туды да вас пазней. А хочаце — дык пачакайце каля ручая... Дамовіліся?

**Міша** *(нягалосна)*. Усё ясна, таварыш камісар. Будзе выканана дакладна. *(Казырнуў. Да Колі.)* Ану!

**Міша** і **Коля** ўзялі за аглоблі каламажку і пацягнулі за хату. Косцік вынес з веранды дзяркач, замёў ім каля ганка. Затым пайшоў і стаў каля бацькі. Паклаў яму руку на плячо.

**Косцік** *(усміхнуўся, ласкава)*. Ну, весялей, Банадысь Сымонавіч! А то зараз мама прыйдзе — убачыць — сорамна нам будзе з табою.

**Тарлецкі** *(не гледзячы на Косціка)*. Куды яны яго павезлі?

**Косцік.** На могілкі. Пакладуць, дзе ён і быў некалі.

**Тарлецкі.** Ён жа ўвесь падзёўбаны! Што ж яго гэткі класці?

**Косцік.** Часова няхай паляжыць. А потым будзем ставіць помнік. Мы ўжо дамовіліся. Дарэчы, ты ведаеш, хто сюды дзеля гэтага прыехаў?

**Тарлецкі** (*павярнуўся тварам да сына*). Хто?

**Косцік.** Прафесар Цішкевіч, унук таго вучонага Іпаліта Цішкевіча. Ён зараз недзе ў сельсавеце, да старшыні пайшоў.

**Тарлецкі.** Разыгрываеш мяне, п'янага?

**Косцік.** Чэснае камсамольскае! Прыехаў, кажа, пакланіцца перад смерцю магілам продкаў і дамовіцца з мясцовымі ўладамі наконт помніка дзеду. Сам ужо стары-стары, сівабароды, але яшчэ рухавы. З унучкай прыехаў.

**Тарлецкі.** У белым капелюшы? Высокі?

**Косцік.** Ага.

**Тарлецкі.** Дык я іх бачыў! З акна магазіна. Яшчэ падумаў: хто б гэта мог быць такі?

**Косцік.** Вось бачыш, тата, а ты казаў: не было такога вучонага і нікога не цікавіць яго магіла. Быў! Толькі мы, на жаль, кепска ведаем, што ў нас было і чым ганарыцца мы можам.

**Тарлецкі** (*падхапіўся*). Сын!.. Ты, адным словам, малайчына! Як дарэчы ты прыбраў гэты камень адсюль! Гэта ж, чаго добрага, яны пачалі б шукаць яго, пытацца ў людзей, і ім бы падказалі, дзе ён! І яны маглі б прыйсці сюды і ўбачыць!

**Косцік.** Яны яго бачылі, тата.

**Тарлецкі.** Як — бачылі?

**Косцік.** Яны былі тут, у нас на падворку.

**Тарлецкі.** І пайшлі ў сельсавет скардзіцца?

**Косцік.** Не. Я пагаварыў з імі, растлумачыў, і наконт помніка мы дамовіліся, так што скардзіцца яны не будуць. Не будуць, не бойся.

У Тарлецкага зноў задрыжалі губы, ён зашморгаў носам і паклаў абедзве рукі на плечы сына.

**Тарлецкі.** Даруй мне, сынок, і грэх мой нялюдскі, і глупствы. Я ўсё лічыў, што ты яшчэ хлапчук, дзіця, а ты — во які ў мяне дарослы і разумны!..

З-за хаты выходзіць з абвязанай даёнкай **Франуся**. Убачыла, як абняліся бацька з сынам.

**Франуся.** Ах, мае вы любчыкі! Мае вы дарагія-

мілыя! А я ж ужо без душы ішла дадому — дзе вы і што вы? Ці памірыліся ж хаця? А вы ўжо во якія харошыя!

**Тарлецкі** *(выцершы кулаком вочы, падымае ўгору ўказальны палец)*. А ты думала! Го-го, мы з сынам!..

Косцік стаіць і шчасліва ўсміхаецца.

*Заслона.*

1978

НІЛ ГІЛЕВІЧ



# ПЕРШАЯ НОЧ НА КУРОРЦЕ

Камедыя ў адной дзеі









ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

**Далікатны Антон Вікенцьевіч** — гадоў 50 з хвосцікам.
**Далікатная Сабіна Адамаўна** — яго жонка, гадоў пад 45.
**Сандалік Мацвей Мацвеевіч,**
**Сандалічыха, Вікторыя Маркаўна** — знаёмыя Далікатных, абаім гадоў па 60.
**Незнаёмец** — аматар прыгод, узрост няпэўны.

Дзея адбываецца ў невялікім прыморскім гарадку ў нашы дні.

Тыповы пакой тыповага дома адпачынку. На заднім плане — зашклёныя двухстворкавыя дзверы на веранду, за якою — прыцемак летняга вечара. Уздоўж бакавых сцен — па ложку, між імі метры са два праходу. За адным ложкам, у галавах, стол — упрытык да дзвярэй на веранду, за другім — тумбачка, а перад ім, на пярэднім плане,— шафа. Два крэслы. На верандзе праз адчыненыя дзверы бачна крэсла-гушкалка.

У пакоі — **Далікатны** і **Далікатная.** Ён — нізкі, пульхны і амаль зусім лысы таўсцяк. Яна — поўны кантраст яму: ударлявая, крыху дрындулястая і з пышнай завіўкай на галаве.

**Далікатны** (*сядзіць у крэсле, у летняй кашулі, выпнуўшы досыць ладнае чэраўца*). Чым мне спадабаўся першы дзень адпачынку — дык гэта сталоўкай. Кормяць — як на ўбой.

**Далікатная** (*штосьць парадкуе ў шафе*). А ты і рад старацца! Як наваліўся на тую манную кашу — нібы зроду не еў ніколі. Я ўжо баялася — і з-за стала ці ўстанеш.

**Далікатны.** А ты знаеш — нічога, скажу я табе, лішняга. Уклалася — і хоць бы штося.

**Далікатная.** Уклалася!.. Але дзе ўклалася? Пад сэрца яна ў цябе ўклалася! Вунь, выкаціў (*кіўнула на жывот мужа*) — як баба на сёмым месяцы!

**Далікатны.** А-я-яй, Собачка! Усё жыццё ты крытыкуеш маю канстытуцыю. Ты на пляжы сёння была са мною?

**Далікатная.** Ну і што?

**Далікатны.** Бачыла, якія начоўкі носяць маладыя здаровыя мужыкі? Ды што там начоўкі! У іншага вёдзер на дзесяць цэбар! Бочка-жлукта, а не жывот!.. Так што наконт майго ты яшчэ не грашы богу!

**Далікатная.** Дык і ты хочаш гэтакім цэбрам абзавесціся? Нашто ён табе? А галоўнае — нашто ён мне? Мне такі твой цэбар не патрэбен!

**Далікатны.** А тэткага ў мяне ніколі і не будзе. Не хвалюйся, у мяне ўсё раўнамерненька...

Чуецца стук у дзверы.

**Далікатная.** Сандалікі, мабыць. Абяцалі ж зайсці паглядзець, як мы ўладкаваліся.

Далікатны ідзе і адчыняе дзверы. Заходзяць **Сандалік** і **Сандалічыха.** Падобныя, як брат і сястра, ці сапраўды як два старыя сандалі: абое худыя і выгнутыя ўнутр. Даюць гаспадарам «Добры вечар!».

**Далікатны.** Вечар добры. Праходзьце, калі ласка, сядайце. (*Падсоўвае гасцям крэсла.*)

**Сандалічыха.** Дайце ж глянуць на вашу кватэру. (*Абводзіць паглядам пакой, вытыкае галаву*

*за дзверы на веранду.)* Так, як і ў нас, толькі што на першым паверсе.

**Далікатны.** Апартаменты не раскошныя, але адпачыць можна. Сядайце ж, калі ласка.

Госці ўсаджваюцца ў крэслы, гаспадары — на ложках.

**Сандалік.** Адпачываць, як і працаваць, трэба ўмеючы. Вы, дарэчы, што, апрача купання ды загарання, плануеце? Культпаходы? Карты? Віно?

**Далікатная.** Мацвей Мацвеевіч! Пабойцеся бога! Ні грама віна за ўвесь сезон! Так мы з Антонам дамовіліся. Тут хоць бы сонца ўхапіць крыху ды адаспацца ўволю.

**Далікатны** *(да жонкі)*. Нясі, Соба, тую дыню з веранды, можа, госці пачастуюцца.

**Сандалічыха.** Не трэба ніякай дыні! Мы цэлымі днямі толькі і ядзім дыні.

**Сандалік.** Так, гэтага дабра тут хапае. Не лепшыя гатункі, праўда. Дзе я еў сапраўдныя дыні — дык гэта ў Таджыкістане, у горадзе Ісфара. Вось гэта былі дыні! За такую смакату і заплаціць не шкода!

**Далікатная** *(ставячы талерку з дыняй на стол)*. Разразай, гаспадар. Нож там дзесьці ў століку.

**Сандалічыха** *(аж падхопліваецца)*. Не разразайце! Мы нават і не дакранёмся! Што вы! Мы не хочам дыні. А разрэзаная за ноч сапсуецца, майце на ўвазе.

**Далікатны.** Ну, то выбачайце. Былі і іншыя фрукты, але мы іх тым часове апрыходавалі.

**Сандалічыха** *(ківаючы на дыню)*. Ваша, відаць, з базару? У магазіне я такіх вялікіх не бачыла.

**Далікатная.** З базару. Антон, ад радасці, схапіў, не таргуючыся.

**Сандалік.** Багаты чалавек, калі не таргуючыся.

**Далікатны.** Багаты не багаты, а таргавацца за капейку проста саромлюся.

**Сандалічыха.** Вы ж не ўздумайце пакінуць гэту дыню нанач на верандзе.

**Далікатны.** А чаму? Якраз я і думаў пакінуць яе там, на халадку.

**Сандалічыха.** Вы што? Мілыя мае! Ні дыні, ні талеркі не ўбачыце! Гэта хто на другім ці на трэцім паверсе жыве — той можа пакідаць на верандзе ўсё, што хочаш. А тут — і не падумайце!

**Далікатная** (*занепакоена*). Украдуць дыню?

**Сандалічыха.** Яна яшчэ перапытвае! І дыню, і пасудзіну! Я кажу вам — не рабіце глупства! Вы бачылі, якія па ўзбярэжжы ходзяць валасацікі і з імі красуні? Ну? Яны ж толькі і глядзяць, каб што дзе злэпаць. Тут жа дзікі зброд з усяго свету! Дзве тысячы курортнікаў арганізаваных і пяцьдзесят восем тысяч «дзікіх»!

**Далікатны.** Дазвольце запярэчыць, Вікторыя Маркаўна! Тое, што нехта валасаты, яшчэ не значыць, што ён і злодзей.

**Сандалік.** А за што, вы думаеце, гэтыя валасацікі тут жывуць? Хто ім даў грошы? Тата і мама? Паглядзіце добра на іх, і вы не паверыце, што ў іх наогул ёсць тата і мама.

**Сандалічыха.** Усе калматыя, нямытыя, брудныя, а тыя джынсы — лата на лаце, а то і зусім, не пры вас кажучы, задніцай свецяць... Цьфу!

**Далікатная.** Я, паверце, іх не магу трываць. Агіда падварочвае. Каб ■ сваё дзіця ўбачыла гэтакім — я, напэўна, засілілася б.

**Далікатны.** І вы перабольшваеце, Мацвей Мацвеевіч. Дарэчы, таты і мамы ў іх ёсць, і ў некаторых нават не абы-якія таты... Сёння ў адной іх кампаніі я бачыў сына — каго б вы думалі? — нашага знаёмага прафесара, прарэктара інстытута. Такі ж, як і ўсе, валасаты, брудны і аблюманы. І дзяўчуля з ім такой жа масці — уся абнэданая і абфэнданая. Але ж, я думаю, грошы яму тата-прафесар дае, ці не праўда? І, мусіць, усё-такі сын прафесара красці з веранды дыню не пойдзе?

**Сандалічыха.** Моця, ты ім больш нічога не тлумач! Хай пераканаюцца самі! Пакіньце, калі ласка, на верандзе ўсё — і дыню, і свае купальнікі, і плаўкі, і ручнікі,— усё пакіньце! І заўтра будзеце мець! Мы вам нічога не гаварылі, а вы — нічога не чулі!

**Далікатны.** Ды я не адмаўляю, што ёсць зладзейства. Я толькі хацеў сказаць, што ў прынцыпе

мы часта мяркуем аб нашых маладых людзях панярхоўна. Яны сваім выглядам і паводзінамі нярэдка эпаціруюць публіку, гэта праўда, але ў прынцыпе... *(Запнуўся.)*

**Далікатная.** Памаўчаў бы ты са сваімі прынцыпамі! Ці ўжо забыўся, як гадоў пяць назад гэткія ж валасатыя сцягнулі ў цябе на возеры гадзіннік? Патрымай свае прынцыпы ў сабе, а дыню і мокрыя купальнікі я нанач з веранды папрымаю.

**Сандалічыха.** Не ўздумайце гэтыя дзверы *(ківае галавой на веранду)* пакінуць вось так, расчыненымі. Залезуць ноччу і абчысцяць дагала! Пасля мора вы будзеце спаць як забітыя, а ім толькі гэта і трэба.

**Далікатны.** Дык а што — спаць, запёршыся? А чым жа дыхаць? Мы ж ехалі, каб дыхаць свежым марскім паветрам.

**Сандалічыха.** Нашто — запёршыся! Дзверы хай будуць расчынены. Толькі трэба зрабіць перад імі барыкаду. Ці якую пастку навесці. Каб вы адразу маглі пачуць і прачнуцца. Усе, што жывуць на першым паверсе ці ў катэджах, нешта такое прыдумляюць. Мы з Моцем, помню, узводзілі цэлую барыкаду. Падцягвалі стол, на стол — плеценую гушкалку, а наверх яшчэ — абодва крэслы. А як жа вы думалі? Гэта ж вам курорт, а не ў вёсцы ў мамы!

**Сандалік.** Ну, добра! Вопытам мы падзяліліся, а астатняе — справа ваша. Хадзем, Вікторыя. Пройдземся яшчэ разок алеяй дый на бакавую. *(Падымаецца з крэсла.)* Дабранач вам!

**Сандалічыха** *(падымаецца з крэсла)*. Не праспіце заўтра ранішняга мора. Самая любата — гэта а гадзіне сёмай, не пазней. Мора — ціхаеціхае, і на беразе ніякага шуму-гаму. І сонца такое ласкавае, непякучае, сядзіш пасля вады на пясочку і проста маладзееш. Спакойнай ночы! *(Ідзе за мужам да дзвярэй.)*

**Далікатная** *(праводзячы гасцей да выхада)*. Заходзьце, калі ласка, не забывайце нас.

**Сандалічыха** *(далікатна, упаўголаса)*. Вы ўсётакі паслухайце мяне *(ківае не веранду)*, а то ваш супруг, я гляджу, дужа бяспечны...

**Далікатная** *(няголасна)*. Абавязкова! Мала што ён гаворыць. Дзякую вам за параду, Вікторыя Маркаўна! І дабранач!

Сандалік і Сандалічыха выходзяць.

**Далікатны** *(усміхаючыся)*. Во нагналі страху гэтымі валасатымі! Як мы з табой не ездзілі па курортах, кожнае лета праводзілі ў вёсцы, дык і не падазравалі, што гэтак трэба баяцца зладзеяў.

**Далікатная.** Добра, што папярэдзілі. А то ў першую ж ноч маглі б застацца з табой галышамі. Пакукавалі б тады тут. І ні сонцу, ні мору не ўзрадаваліся б.

**Далікатны.** Ты ўсур'ёз паверыла ім?

**Далікатная.** Канешне, паверыла! І я прашу цябе адразу: ты сваімі прынцыпамі мяне пад удар не падстаўляй. Калі сцягнуць усю вопратку і грошы — прынцыпы на сябе не надзенеш.

**Далікатны.** Дык што? Ты прапануеш рабіць у дзвярах барыкаду?

**Далікатная.** Канешне!

**Далікатны.** Людзі ж смяяцца будуць. Убачыць хто раніцой, праходзячы міма...

**Далікатная** *(пачынае злавацца)*. Што мне твае людзі! Ты не чуў, што сказалі Сандалікі? Усе, каго пасялілі на першым паверсе, нешта прыдумваюць, каб не абакралі! Смяяцца людзі будуць тады, як ты застанешся ў адной піжаме!

**Далікатны.** Ды не слухай ты гэтых Сандалікаў! Яна абчаплялася брыльянтамі, залатымі пярсцёнкамі, жамчуговым калье — дык ім і страшна. А каму патрэбны нашы сціплыя транты?

**Далікатная.** Антон! Калі ты думаеш нешта мне даказаць, то дарэмна стараешся. Я сама зраблю барыкаду! *(Ідзе і спрабуе цягнуць да дзвярэй стол.)*

**Далікатны** *(падыходзіць да жонкі)*. Ды пачакай ты! Не цягні стол. *(Далікатная адыходзіцца і садзіцца на ложак.)* Раз ужо цябе так напалохалі Сандалікі, то мы нешта прыдумаем. *(Абводзіць паглядам стол, крэслы, тумбачку.)* Лепш навесці якую пастку ў дзвярах, чым рабіць барыкаду. Гэта культурней будзе.

**Далікатная.** А якую ты прыдумаеш пастку?

**Далікатны.** Можа, тут унізе вяровачку нацягнуць? Упоцемку злодзей не ўбачыць, зачэпіцца і наробіць шуму. А я сплю вельмі чуйна, як ты ведаеш. Самы лёгкі шум я пачую.

**Далікатная.** Што вяровачка! Якая ж гэта пастка — вяровачка? Трэба, каб зладзюган сапраўды трапіў у пастку. Каб яму дасталося так, што і красці больш не захацеў!

**Далікатны.** Ого, Собачка! На сапраўдную пастку ў нас ніякага начыння няма. Ды і навошта?

**Далікатная.** Як гэта навошта? Трэба правучыць нягодніка! Каб дзесятаму заказаў!

**Далікатны.** У прынцыпе я згодзен, зладзеяў трэба адвучваць ад зладзейства. Але хіба гэта наша з табой справа? Мы прыехалі адпачываць, а не займацца зладзеямі.

**Далікатная** (*з радасцю*). Антон! Я прыдумала! Такую зробім пастку, што больш ніколі не палезе!

**Далікатны.** Прыдумала?

**Далікатная.** Прыдумала! Зараз пабачыш! (*Падхопліваецца і кідаецца ў выхадныя дзверы. Праз хвіліну вяртаецца з вялікім жалезным ломам у руках.*) Во!

**Далікатны.** Што — во?

**Далікатная.** Лом! Ты паглядзі, які здаравенны лом!

**Далікатны.** Бачу, што лом. Я нават ведаю, дзе ты яго брала — у туалеце. Яго, відаць, рабочыя-рамонтнікі пакінулі.

**Далікатная.** Цяпер ты разумееш, якую мы зробім пастку?

**Далікатны.** Нешта не ўяўляю.

**Далікатная.** Гэты лом трэба падвесіць над дзвярыма так, каб як толькі злодзей пераступіць парог — лом яму па галаве бац! — і кранты!

**Далікатны** (*смеючыся, кідаецца ў крэсла*). Ну, Собачка! Ну, вынаходніца! Вернемся дадому і пашлём тваю ідэю пасткі ў таварыства рацыяналізацыі і вынаходніцтва: першую ўсесаюзную прэмію атрымаеш!

**Далікатная** (*пакрыўджана, з напускной злосцю*). А чаго ты смяешся? Перастань смяяцца, Ан-

тон, а то ўсаджу табе гэты лом у чэрава без ніякага вынаходніцтва!

**Далікатны.** Галава ты садовая, Собачка. Як ты падвесіш гэты лом, каб ён бацнуў якраз па чэрапе?

**Далікатная.** А ты прыдумай, як! Можа, якую сістэму блокаў зрабіць, як некалі ў школе вучылі? У мяне дзве шпулькі нітак ёсць і вяровачка капронавая, для бялізны брала. Прыдумай што-небудзь!

**Далікатны.** Паслухай сюды, дарагая мая ненаглядная. Ну, дапусцім мы нават нешта сканструіруем. А ты падумала, што будзе, калі лом бацне злодзею па галаве?

**Далікатная.** Будзе тое, што трэба!

**Далікатны.** Што трэба? Ён жа можа забіць насмерць!

**Далікатная.** Не заб'е. Тут невысока.

**Далікатны.** Дык пакалечыць, калі не заб'е!

**Далікатная.** Ну і што?

**Далікатны.** Як — ну і што? Пакалечыць чалавека?..

**Далікатная.** Якога чалавека?! Злодзея, а не чалавека!

**Далікатны.** Ну, але ж чалавека!

**Далікатная.** Злодзея, Антон, злодзея! Нягодніка, што не дае сумленным людзям ні жыць, ні адпачываць нармальна. Ідзі і пацалуй яго, калі ён табе такі мілы! Ідзі! Іх цяпер там на ўзбярэжнай, каля мора, поўна — і з транзістарамі, і з гітарамі, і з крадзенымі дынямі!

**Далікатны.** Так, Собачка, і ўсе гэныя валасатыя і нямытыя, аблюманыя і абкерзаныя, абнэданыя і абфэнданыя — усе яны людзі. І не калечыць іх патрэбна, а выхоўваць. У тым, што яны такія, не толькі яны самі вінаваты. А можа, самі яны і зусім не вінаваты. Яны выраслі і выхоўваліся не на месяцы, а — на зямлі, з намі і сярод нас. І ўсё, чым яны табе не падабаюцца...

**Далікатная.** А табе — падабаюцца?!

**Далікатны.** Добра, хай будзе не табе, а нам. Дык вось, усё тое, чым яны нам не падабаюцца,— адкуль яны ўсё гэта ўзялі? Хто іх усім гэтым надзяліў? Радзіліся ж яны не такія!..

**Далікатная.** Антон, гэтае пытанне я ўжо чула ад цябе сто, а можа, і тысячу разоў. Скажы, ты прыдумаеш што-небудзь, ці я буду рабіць сама? Спаць жа пара ўжо класціся.

**Далікатны** (*бярэ лом і ставіць каля дзвярэй на веранду, адчыняе і зачыняе дзверы — мазгуе, што б такое прыдумаць*). Давай сюды свае ніткі. (*Далікатная вымае з тумбачкі і падае ніткі.*) Нашто нам усё гэта, калі ў мяне ёсць ідэя пасткі зусім нявіннай і ў той жа час бездакорнай па эфекту.

**Далікатная.** Без лома?

**Далікатны.** Канешне, без лома. З чайнікам. Вось з гэтым пустым алюмініевым чайнікам. Значыць, так. Чайнік ставім на самы край стала. За ручку прывязваем нітку — звычайную нітку, і другі канец яе чапляем за ручку дзвярэй. Уночы ніточка відаць не будзе. Дзверы пакідаем прыадчыненымі — настолькі, каб паветра паступала дастаткова, але каб чалавек, не адчыніўшы шырэй, не пралез. Значыць, злодзей пацягне на сябе створку дзвярэй — і чайнік кульнецца са стала на падлогу. І наробіць такога грому, што мёртвых разбудзіць, а не толькі сонных. Нават усе суседзі падхопяцца. Ты ведаеш, як грыміць у начной цішыні чайнік? Не выключана, што ад страшнага перапалоху ў злодзея здарыцца разрыў сэрца. Не выключана. Бо ён падумае, што ў яго стрэлілі з дубальтоўкі.

**Далікатная** (*радасна*). Антон! Ты ў мяне геній! Я б вельмі хацела, каб зладзюган ад страху абамлеў. Каб ён паваліўся тут непрытомны — тады б я з ім пагаварыла!..

**Далікатны.** Так і будзе, калі ён толькі паспрабуе сунуцца. Адным словам, кладзіся ты спакойна ў люлю і адпачывай. Я гэта змайструю хутка.

**Далікатная** (*раздзяваючыся за дзвярамі шафы*). Можа, давай праверым, як ён загрыміць.

**Далікатны.** Чайнік?

**Далікатная.** Ага.

**Далікатны.** Дык жа суседзяў напалохаем!

**Далікатная** (*выходзіць з-за шафы ў начной кашулі*). А ніхто яшчэ не спіць! Падумаюць, ненаўмысна зваліўся.

**Далікатны.** Давай, калі табе так хочацца. Толь-

кі спачатку я выйду на веранду і пацягну пару разоў дыму — няўсцерп курыць захацелася. Буду ісці з веранды і прадэманструю табе, як спрацуе пастка. Хадзі сюды. *(Далікатная падыходзіць да мужа.)* Бачыш, як стаіць чайнік?

**Далікатная.** Бачу.

**Далікатны** *(бярэ чайнік і падае ў рукі жонцы).* Трымай. Я зараз выйду, прычыню на патрэбную шырыню дзверы, а ты пастаў яго дакладна так, як ён стаяў. *(Бярэ папяросы і выходзіць на веранду. Жонка ставіць чайнік на край стала. З-за дзвярэй.)* Паставіла?

**Далікатная.** Чакай хвіліначку. *(Правярае, ці на самым краі, ці лёгка куляецца.)* Паставіла!

**Далікатны.** Добра. Кладзіся цяпер і чакай грому. Я трошкі пасмэнджу тут папяросу.

**Далікатная.** Глядзі, дым не пускай сюды, каб у пакой не нацягнула!

**Далікатны.** Не нацягне. Абы вучыць табе... Сам ведаю.

Далікатная кладзецца ў ложак, нацягвае коўдру і заплюшчвае вочы.

**Далікатная** *(счакаўшы трохі, пазяхаючы).* Ну, ці скора ты, Антон?

**Далікатны.** Скора. Дакуру толькі.

З веранды даносіцца пакашліванне. А ў пакоі пачуўся лёгкі прысвіст — Сабіна Адамаўна задрамала.

Ну, дык слухай гром, я іду. Іду!..

Але жонка не чуе, яна спіць. Антон Вікенцьевіч асцярожна цягне на сябе створку дзвярэй. Чайнік куляецца са стала і падае на падлогу з нечуваным бразгатам — як з мінамёта смалянулі ўсё роўна. Сабіна Адамаўна падхопліваецца з немым крыкам з пасцелі, бачыць, як круціцца на падлозе накрыўка ад чайніка, і — траціць прытомнасць. Далікатны падбягае, тармосіць яе, пляскае далонямі па шчоках.

**Далікатны.** Собачка! Собачка! Што з табою, галубачка! Гэта ж я, Антон! Гэта ж не злодзей! Соба! *(Кідаецца да графіна на стале і набірае поўны рот вады. Нагнуўся над жонкай і дзьмухнуў ёй у твар дажджом.)* Собачка! Ачніся!

Далікатная штось мармытнула, заварушылася і расплюшчыла вочы.

**Далікатная** (*ціхім, слабым голасам*). Антон, у мяне разарвалася сэрца...

**Далікатны.** Ды бог з табою, Собачка! Цьфу, цьфу, цьфу! (*Сплёўвае тры разы.*) Усё зараз пройдзе, і нічога ў цябе не парвалася.

**Далікатная** (*грамчэй*). А я табе кажу, у мяне разарвалася сэрца! Разарвалася і праваліласяі!

**Далікатны** (*мітусіцца каля пасцелі*). Ну, супакойся, супакойся, мая галубачка! Я ж не думаў, што ты так хутка заснеш! Зараз я табе кропелек накапаю, кропелек табе ад сэрцайка... (*Кідаецца да шафы, дастае пузырок з лякарствам, хапае на стале лыжачку са шклянкі, накапвае з пузырка капель і дае выпіць жонцы. Тут жа падае ёй вады ў шклянцы.*)

**Далікатная** (*глынуўшы і запіўшы лякарства*). Антон, вязі мяне адгэтуль, дзе браў. Не трэба мне ні барыкады, ні пастка, ні сам гэты дом адпачынку. Нічога не трэба.

**Далікатны** (*радасна*). Канешне, не трэба барыкады! І ніякая пастка таксама не трэба! Гэта ўсё недарэчныя выдумкі Сандалікаў! І накасала ж іх нячыстая сіла на нашу галаву! Бачыш, колькі ўжо мы пацярпелі толькі за тое, што паверылі іхнім засцярогам. Трэба ў людзей верыць, Собачка, а не ў абывацельскія страхі Сандалікаў. Зрэшты, калі ўжо на тое пайшло, я ж гэтак чуйна сплю. Я пачую любога аблюманага і абкерзанага! Таму нічога не бойся і спакойна адпачывай. Табе стала лепш?

**Далікатная.** Лепш. Але не ведаю, чым гэта кончыцца. Калі гэткія будуць ночы і далей...

**Далікатны.** Ды што ты, Соба! Усё будзе нармальна! Спі, галубачка. Я выключаю святло і кладуся таксама. (*Разуваецца, гасіць святло і кладзецца спаць.*)

**Далікатная** (*устрывожана, паўшэптам*). Антон, ты чуеш? Здаецца, за верандай кусты зашасталі?

**Далікатны** (*пазяхаючы*). Ветрык пранёсся, дык і зашасталі. Ты не прыслухоўвайся, а спі. Як у сваёй хаце.

**Далікатная** (*памаўчаўшы*). Ты заўважыў, якое на Сандалічысе плацце?

**Далікатны.** Плацце? Плацце заўважыў. А што?

**Далікатная.** Заўтра ўжо будзе іншае, другое. А паслязаўтра — зноў іншае.

**Далікатны.** Ты так думаеш?

**Далікатная.** Вось пабачыш! Паланеўскія былі неяк разам з Сандалікамі цэлы сезон на адным курорце. Дык гаварыла мне Юзэфа і паклялася, што не хлусіць, што Сандалічыха кожны дзень надзявала новае плацце. Ні разу за ўсе дваццаць чатыры дні не паўтарылася, не надзела тое самае! Ні разу!

**Далікатны.** Як некалі імператрыца Кацярына. Я дзесьці чытаў, што яна ніколі не надзявала на баль плацце, у якім ужо была раней. Для кожнага балю ёй шылі новае плацце.

**Далікатная.** Дык гэта ж імператрыца! А то — Сандалічыха! Ты толькі падумай, Антон: Сандалічыха едзе на курорт і вязе з сабою дваццаць пяць сукенак і касцюмаў!

**Далікатны.** Ты ёй зайздросціш?

**Далікатная.** Не зайздрошчу, але... дзіўна неяк. Яна ж усяго-наўсяго цырульніца і то ў далёкім мінулым. Ужо гадоў трыццаць нідзе не працуе, састарэла беспрацоўная.

**Далікатны.** Так то яно так, але яна жонка Сандаліка.

**Далікатная.** А што такое Сандалік? Якія ж ужо такія заслугі яго перад дзяржавай, што яго Віцця ўсё жыццё не працуе і купаецца як сыр у масле, уся брыльянтамі ды золатам абвешана, па два, як падняць, сакваяжы плаццяў на курорт прывозіць?

**Далікатны.** Сандалік, Собачка, гэта Сандалік. Галоўбух вядучага прадпрыемства. Камбінатарская галава!

**Далікатная** (*сумна*). А я ў цябе кожны дзень слепну на працы і думаю — хаця б як дацягнуць да пенсіі...

**Далікатны.** Нічога, Собачка, нічога... Жывём мы як людзі, сумленна, сваім мазалём, і павагу ад людзей маем... Вось і на курорт прыехалі... Спі. А то праспіш заўтра ранішняе мора...

Ямчэй улёгшыся, абое замаўкаюць.

Неўзабаве Сабіна Адамаўна засынае — пачулася ўжо знаёмае яе выдыханне з «музыкай».

Далікатнага сон не бярэ. Ён яшчэ раз павярнуўся, лёг дагары і заклаў рукі пад галаву. Нечакана зусім блізка, як бы на верандзе, пачуўся нягучны таямнічы свіст, які не мог быць ні чым іншым, апрача як умоўным сігналам. Антон Вікенцьевіч сеў на ложку і наставіў вуха. Таямнічы свіст паўтарыўся. Тады Далікатны злез з ложка і ціхенька, на пальчыках, прайшоў да дзвярэй на веранду, завешаных штораў. Стаў, стаіўся і слухае. На верандзе пачуўся нейкі шоргат і лёгкі скрып — як бы хтось пасунуў ці зачапіў крэсла-гушкалку.

Не заставалася сумнення, што лезе злодзей. Далікатны намацаў каля дзвярэй пакінуты лом і ўзяў яго ў рукі.

Створка расчынілася шырэй, і ў ёй паказалася мужчынская постаць. Незнаёмец уткнуў галаву і, гледзячы на ложак з Сабінай Адамаўнай, няголасна, паўшэптам пазваў.

**Незнаёмец.** Залаціначка! Гэта я іду! Ты што — заснула?

Пачуўшы такое, Далікатны аж разявіў рот, але не выдаў сябе. Незнаёмец, свіснуўшы нягучна яшчэ раз, асцярожна рушыў да ложка і спыніўся ў галавах, спіной да Антона Вікенцьевіча.

Заснула мая залаціначка, не дачакалася.

**Далікатны** *(наставіўшы на Незнаёмца лом)*. Ну, а далей што?

**Незнаёмец** *(моцна спалоханы, рэзка павярнуўся і імгненна прыняў позу баксёра)*. Ты — хто?

**Далікатны.** Дык ты прыйшоў не па дыню, а па гаспадыню?

**Незнаёмец.** Я пытаю: хто ты?

**Далікатны.** Не, гэта я пытаю: ты — па дыню ці па гаспадыню?

**Незнаёмец.** Ты як тут апынуўся?

**Далікатны.** Зусім не так, як ты. Гавары цішэй, а то разбудзіш.

**Незнаёмец.** Па-мойму, ты нават раздзеты, у адной піжаме?

**Далікатны.** Ну, няўжо ж я павінен спаць у брызентавай робе!

**Незнаёмец.** Дык ты не злодзей? Ты прыйшоў да яе? *(Ківае галавой на ложак, у якім спакойна спіць Сабіна Адамаўна.)*

**Далікатны.** Дваццаць гадоў назад.

**Незнаёмец.** Што было дваццаць гадоў назад — мяне не цікавіць.

**Далікатны.** Дарэмна. Самае цікавае было якраз тады.

**Незнаёмец.** Значыць, ты таксама прыйшоў да яе. Як стары знаёмы. Дык што гэта яна — здурнела і запрасіла адразу дваіх? Ці, можа, ты сам, няпрошаны, прывалокся?

**Далікатны.** Я — сам, але з яе дазволу і паўтараю — дваццаць гадоў назад.

**Незнаёмец.** Я ўжо гэта чуў. Што некалі было — тое вадой сплыло. Я думаю, ты ўжо зразумеў, што табе трэба зматвацца адсюль. І чым скарэй, тым лепш. У мяне разрад па боксу.

**Далікатны.** А ў мяне — лом. Ты мне — бокс, а я табе лом у бок.

**Незнаёмец** *(не адразу)*. І яна табе дазволіла раздзецца?

**Далікатны** *(хехекнуўшы)*. Дзівак! Гэты дазвол я маю на кожную ноч. І ўжо дваццаць гадоў. Дваццаць!..

**Незнаёмец.** Што ты ўсё заладзіў гэтыя дваццаць гадоў? Што ты хочаш сказаць?

**Далікатны.** Што я ўжо дваццаць гадоў яе законны муж.

**Незнаёмец.** Муж? Яна мне сказала, што даўно развялася!

**Далікатны.** Памылачка. Калі яна магла табе такое сказаць?

**Незнаёмец.** Учора на пляжы, калі мы пазнаёміліся.

**Далікатны.** Ну, так і ёсць, памылачка. Учора яе тут не было. Мы толькі сёння прыехалі. Не ўчора, а сёння!

**Незнаёмец.** Сур'ёзна? Дык што гэта за фокус атрымаўся? Гэта — які пакой?

**Далікатны.** Дзевяты.

**Незнаёмец.** А корпус?

**Далікатны.** Трэці.

**Незнаёмец.** Трэці?.. Цьфу ты чорт! Я паблытаў упоцемку гэтыя інкубатарныя карпусы. Мне ў чацвёрты трэба.

**Далікатны.** Як трэба — то ідзі.

**Незнаёмец.** Дык ты ж пакладзі лом.

Далікатны спачатку памкнуўся паставіць лом каля стала, але тут жа спахапіўся.

**Далікатны.** Не бойся, ідзі. Каб я хацеў табе гакнуць ломам, я б гэта даўно зрабіў: тады, калі ты толькі ўсунуў у дзверы галаву.

**Незнаёмец.** Слова гонару?

**Далікатны.** Ды ідзі, кажу табе, а то прачнецца і напалохаецца жонка.

**Незнаёмец.** Ну, глядзі — без ніякіх дурыкаў...

Апасліва праходзіць міма Далікатнага ў дзверы.

**Далікатны.** Пачакай... (*Незнаёмец спыніўся — ужо ў дзвярах — і павярнуўся да Далікатнага.*) Значыць, ты сапраўды — не злодзей, не з гэных аблюманых?

**Незнаёмец.** Я — злодзей? Ды яшчэ й аблюманы? Ты што — усё-такі захацеў на развітанне пашумець?

**Далікатны.** Ды не пашумець! Мне сур'ёзна трэба дакладна ведаць, ці ты з ліку гэных абкерзаных ці не?

**Незнаёмец** (*крыху падаўшыся галавой да Далікатнага*). Таварышок! Калі б я не баяўся нарабіць шуму, ты б сам ужо даўно ляжаў тут і аблюманы і абкерзаны. Гуд бай! (*Знікае.*)

**Далікатны** (*досыць голасна, наўздагон*). Ого-го, які за дзвярыма храбры аказаўся! А чаго ж ты прасіў пакласці лом? Ты бач! Якраз як у той прыгаворцы: шчасце тваё, што ты мяне не дагнаў, а то я табе паказаў бы!..

На ложку заварушылася Сабіна Адамаўна.

**Далікатная** (*спрасонку, крыху спалохана*). Антон?

**Далікатны.** Я тут, Собачка.

**Далікатная.** Ці мне здалося, ці ты сапраўды з некім гаварыў толькі што?

**Далікатны.** Гаварыў. *(Ставіць лом каля дзвярэй.)*

**Далікатная.** З кім?

**Далікатны.** Няпрошаны госць прыходзіў.

**Далікатная** *(спалохана падхапілася, села)*. Зладзюган? Усё-такі быў?

**Далікатны.** Быў, але не зладзюган. Зрэшты, можна і яго злодзеем назваць. З той розніцай, што ён лез не па дыню, а па гаспадыню.

**Далікатная.** Не разумею, што ты гаворыш. Як гэта — па гаспадыню?

**Далікатны.** А так. Аматар начных прыгод. Лез сюды да сваёй палюбоўніцы.

**Далікатная** *(абражана)*. Антон! Што гэта за недарэчныя жарты?

**Далікатны.** Ніякія не жарты, Собачка. Але ты не хвалюйся, ты тут ні пры чым. Ён памыліўся корпусам і залез да нас ненаўмысна.

**Далікатная.** І ты яго пачуў?

**Далікатны.** А што ж бы я ў цябе за муж быў! Незнаёмы мужчына ноччу шыбуе прамой наводкай да твайго ложка, называе залаціначкай... ды так пяшчотна...

**Далікатная** *(перабівае)*. Антон! Ну, ты ж выдумляеш, напэўна!.. І што ён — быў тут, у пакоі?

**Далікатны.** Стаяў каля твайго ложка, у галавах, і ўжо нагінаўся, каб пацалаваць цябе. Калі б я не загаварыў, дык бы і цмокнуў!..

**Далікатная.** Вой, які ты бессаромны! Як табе не брыдка выдумляць такое?

**Далікатны.** Не верыш? Каб я з гэтага месца не сышоў, калі хлушу!

**Далікатная** *(не адразу, з дакорам)*. Антон! І ты не разбудзіў мяне?.. Чаму ты не разбудзіў мяне, Антон?..

**Далікатны** *(пазяхнуўшы)*. Собачка! Я, наадварот, папрасіў яго гаварыць ціха — каб ты не прачнулася і не спалохалася.

**Далікатная.** Ды не спалохалася б я!.. Ах, Антон, Антон, я так бы хацела паглядзець, які ён. Гэта ж вельмі цікава, праўда?

**Далікатны.** Нічога асаблівага. Звычайны аматар. Кот-памаўзá. *(Кладзецца ў пасцель і нацягвае*

*да падбародка прасціну.)* Спі, галубачка. А то праспіш сваё першае ранішняе мора.

**Далікатная** *(лягла і нейкі час ляжыць моўчкі з расплюшчанымі вачыма).* Антон, а ты яго пазнаеш, калі раптам сустрэнеш на пляжы ці на ўзбярэжнай? Ты яго запомніў? Антон! Чуеш! Антон!..

Але Антон Вікенцьевіч ужо не чуе. Ён спіць. Сабіна Адамаўна, зірнуўшы на яго, цяжка ўздыхае і заплюшчвае вочы таксама.

*Заслона.*

1977—1978

# ЗАБЯСПЕЧЫМ МАМЕ ЗДАРОЎЕ

**П'еса ў адной дзеі з эпілогам**



**ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:**

**Курашчуп Міхась Антонавіч** — выкладчык гуманітарнага факультэта, гадоў 35.
**Карчэўская Соня** — абітурыентка гэтага ж факультэта, не больш 20 гадоў.
**Сакратарка** прыёмнай камісіі інстытута, гадоў пад 50.





Дзея адбываецца ў кватэры Курашчупа. У гасціны пакой заходзяць **Соня** і за ёй **гаспадар.** Соня — у сціплым цёмным гарнітуры, з невялікай, на доўгім рэмені, сумкай пры боку. Курашчуп — у дарагім джэмперы, пад гальштукам, з папкай у руцэ. Соня нясмела спынілася каля дзвярэй. Курашчуп кідае папку на тахту і запрашае Соню сесці.

**Курашчуп.** Смялей, смялей! Праходзьце і сядайце, як дома. (*Паказвае рукой на тахту.*) Вось тут, калі ласка! Тут зручней будзе.

**Соня.** Дзякую, я пастаю тут, пакуль вы... знойдзеце кніжку.

**Курашчуп.** Э, не! На што ж гэта будзе падобна! Такая госця і будзе стаяць у парозе. Прашу, прашу! *(Бярэ далікатна за локаць і вядзе да тахты. Соня садзіцца, сумку кладзе побач.)* Ну, вось, цяпер ведайце, што вы — мая дарагая госця! Я падкрэсліваю — дарагая госця! Незвычайная!

**Соня** *(бянтэжыцца, круціць галавой)*. Не, Міхась Антонавіч, гэта няпраўда... Я — самая звычайная. Я — яшчэ ніхто, нават прафесіі не маю. І нічога не ведаю... Я слухала вас там, на эстрадзе, і думала... *(запнулася і змоўкла)*.

**Курашчуп** *(зацікаўлена, ласкава)*. Гаварыце, гаварыце, не бойцеся. Што б вы там ні падумалі — мне будзе прыемна. Гаварыце!

**Соня.** Я думала: якія разумныя людзі ёсць на свеце! Як яны многа ведаюць і як умеюць расказваць! Вы так гаварылі, Міхась Антонавіч, так гаварылі, што я сядзела, як зачараваная... Асабліва — пра космас, пра лятаючыя талеркі, пра жыхароў іншых планет і пра іх візіты на зямлю... Якія шчаслі̆ўцы тыя, што могуць вас слухаць часта!..

**Курашчуп** *(садзіцца на тахце, досыць блізка да Соні)*. Але вы майце на ўвазе: я ніколі не выступаў з такім натхненнем, як сёння. І ведаеце чаму? *(Глядзіць запытальна. Соня паціскае плячыма.)* Не здагадваецеся?

**Соня** *(апускае вочы)*. Не ведаю...

**Курашчуп.** Ды толькі таму, што сярод прысутных сядзелі вы! *(Соня здзіўлена падымае галаву.)* Так, так, так, Сонечка, не здзіўляйцеся. Як убачыў вас на першым радзе — так і азарыла мяне! Ну, думаю, вось гэтай чароўнай прыгажуні я і прысвячу сёння сваю лекцыю.

**Соня** *(трохі разгублена, сарамліва)*. Міхась Антонавіч, не жартуйце так... Я нічым не заслужыла вашай увагі. Я нават і на лекцыю трапіла выпадкова. Здала ў прыёмную камісію дакументы, выйшла на вуліцу, пакрочыла і — неяк непрыкметна апынулася ў парку. Чую: на эстрадзе аб'яўляюць, што зараз будзе вельмі цікавая лекцыя. Я і прымасцілася на пярэднім радзе...

**Курашчуп.** Сам бог вас паслаў мне, Сонечка!

Але што ж гэта мы так сядзім, як быццам у мяне няма чым пачаставаць такую дарагую госцю? Зараз я штось арганізую — адну хвіліначку, калі ласка, адну хвіліначку! (*Падхапіўся і падцягвае да тахты газетны столік.*)

**Соня** (*таксама спрытна паднялася*). Ды нічога не трэба, Міхась Антонавіч! Я толькі зайшла, каб... Вы сказалі, што падпішаце мне сваю навуковую кнігу. А так бы я ніколі не адважылася... Ну, не трэба, вельмі прашу вас — не трэба...

**Курашчуп** (*наўмысна насуплена*). Што? Каб такая госця асудзіла мяне за негасціннасць? Э, не! А кнігу я падпішу! (*Здымае з паліцы тоненькую брашурку.*) Кніга — вось, паглядзіце тым часам, а я — на адной назе на кухню. Толькі вы сядзьце, сядзьце, калі ласка! (*Амаль сілай усаджвае Соню на ранейшае месца і выходзіць на кухню. Соня разглядае брашуру. Неўзабаве Курашчуп паяўляецца з падносам, на якім — арыгінальная бутэлька каньяку, два кілішкі і цукеркі ў цукерачніцы.*) Так, вось цяпер мы і пагаворым канкрэтна пра вашы справы. (*Ставіць паднос на столік.*) Але спачатку — па адным кілішку за знаёмства. (*Садзіцца побач і налівае ў кілішкі каньяк.*) Прашу!

**Соня.** Навошта ўсё гэта, Міхась Антонавіч?.. Ведаеце, мне проста сорамна, што вы, такі чалавек, і траціце час...

**Курашчуп** (*перабівае*). Ніякага «сорамна»! Чуйцеся са мною зусім проста, як быццам мы даўнія і блізкія сябры! Прашу! За нашу сустрэчу і знаёмства!

Курашчуп куляе да дна. Соня адно прыгубіла і паставіла.

Э, не! Толькі чыста! А то што ж гэта за знаёмства будзе? Толькі чыста, Сонейка!

**Соня.** Не магу я, Міхась Антонавіч... Ды мне і да экзаменаў рыхтавацца трэба. Я дужа хвалююся. Калі і гэты раз...

**Курашчуп** (*перабівае*). Да экзаменаў? Лічы, што ты ўжо студэнтка. (*Шматзначна глядзіць на Соню.*)

**Соня.** Не, Міхась Антонавіч, я, відаць, і сёлета

правалюся. Мусіць, я ўжо такая нешчаслівая нарадзілася...

**Курашчуп.** Ты ж чула, што я сказаў? *(Выразна.)* Лічы, што ты ўжо паступіла. Ты ўжо студэнтка. Разумееш?

**Соня.** Як гэта?

**Курашчуп.** А так! *(Зачаравана ўсміхаецца ёй.)* Сумняваешся? У такім разе прашу выслухаць ўсю неабходную інфармацыю. Але спачатку — абавязкова выпі да дна гэты боскі напітак! Іначай — ніякай размовы! Так, так! Прашу, прашу! Што такое для маладой здаровай дзяўчыны кілішак каньяку? Як сабаку муха! Пардон — слова не тое выскачыла. Давай! Разам, калі адна баішся. *(Налівае свой кілішак, чокаецца з Соняй і куляе ў рот. Соня адпівае да палавіны.)* Ага! Ну, так ужо лепш. А цяпер — кусай цукерачкі і слухай. Справа ў тым, Сонейка, што без дапамогі, самастойна, табе з такім атэстатам усё адно не паступіць. Разумееш?

**Соня.** Але я вельмі шмат рыхтавалася!.. Вы лічыце мяне такой няздатнай?

**Курашчуп.** Дзівачка! Што тваё рыхтаванне і што твая здатнасць, калі конкурс — трынаццаць чалавек! Трынаццаць чалавек на адно месца! Тут і медалісты пасыпяцца, як тыя блохі з сабакі, а не то што!.. Пардон за параўнанне, знаеш, я часам люблю такое трапнае слоўца ўставіць... Але ты — паступіш. Ты — ужо студэнтка, зразумела? Гэта кажу табе я — Міхась Антонавіч! Не забывай, што я сам — выкладчык факультэта, на які ты падала дакументы. Апрача таго — дэкан факультэта мой блізкі сябра. Калі ўжо бог цябе паслаў да мяне ў госці, то з удзячнасці богу я цябе ў крыўду не дам! Будзеш студэнткай!

**Соня** *(уздыхнуўшы, соладка марачы)*. Ой, якая б я была шчаслівая! Міхась Антонавіч! Вы нават не ўяўляеце, як я хачу паступіць да вас вучыцца!.. А як бы ўзрадавалася мама! Гэта ж я ўжо трэці раз паступаю. Трэці раз запар!

**Курашчуп.** А вось за гэта — за тваё шчасце — мы і яшчэ па кілішачку асушым. *(Налівае.)* І каб мама была рада! А як жа! Мама абавязкова будзе

рада! Прашу! За тваё шчасце і за маміну радасць. Ну! Дзербалызнем, Сонейка!

**Соня** *(з мальбой у голасе)*. Толькі я капялютачку, я не магу столькі...

**Курашчуп** *(прытворна пагрозліва)*. Со-ней-ка! Гэта ж грэшна — не выпіць кілішак за радасць мамы! Мама ж твая спадзяецца, што ты гэты раз паступіш!

**Соня** *(шчыра, даверліва)*. Ведаеце, мама так перажывае, што аж захварэла. Яна ў мяне наогул нездараўчаная, слабая ад прыроды. Сардэчніца. А цяпер так хвалюецца за мяне, што зусім злягла. Кажа: калі Соня не паступіць — не перажыву. Гэта яна так маёй цётцы сказала, а я ненаўмысна пачула. Бацькі няма ў нас — з мамай удваіх жывём.

**Курашчуп** *(зноў падымае кілішак, пафасна)*. Дык забяспечым маме здароўе! Цяпер ужо гэта залежыць толькі ад нас з табою. Разумееш? Што трэба маме, каб быць здаровай? Радасць ёй трэба! Радасць за дзіця сваё. Гарантуем ёй радасць і забяспечым здароўе! Ды што здароўе! Мы ёй жыццё прадоўжым! Так, так, маё мілае Сонейка! Прашу: за тое, каб мы прадоўжылі маме жыццё. *(Скандуе.)* За маміна даўгалецце! Ура! *(Выпівае. За ім услед адпівае глыток і Соня.)* Малайчына! Во — ажно шчочкі паружавелі! Табе, канешне, гаварылі хлопцы, якая ты прыгожая?

**Соня** *(сарамліва ўсміхаючыся)*. Я не прыгожая, Міхась Антонавіч. Так, на тры з мінусам, можа, і пацягну...

**Курашчуп** *(прытворна сярдзіта пярэчыць)*. О-лё-лё-лё! На тры з мінусам! На ўсіх пяць і нават з вялікім плюсам! Гэта кажу я — Міхась Антонавіч! А што сляпцы не бачаць тваёй прыгажосці — тым горш для іх. Ах ты, мой жаўраначак звонкагалосы! Дай жа ты мне сваю шчочку! *(Падсоўваецца да Соні і цмокае ў шчаку.)*

**Соня** *(засаромелася, ціха)*. Дзякую, Міхась Антонавіч...

**Курашчуп** *(здзіўлена)*. За што?

**Соня.** За тое, што вы такі добры... Вы такі вучоны чалавек і раптам... Мне проста не верыцца...

**Курашчуп** (*какетліва*). Ну, тут ужо я не вінаваты. Перад такім цудам прыроды, як ты, і найвялікшы карыфей навук здаўся б!.. (*З напушчанай журбой і шчырасцю.*) Эх, Сонейка! Калі б ты ведала, як доўга і страшна я сумаваў па табе! Як мне цябе не хапала!

**Соня** (*насцярожылася, не адразу*). Мяне?.. (*Курашчуп працінае яе вачыма і ківае галавой.*) Міхась Антонавіч, але ж вы мяне ніколі раней не бачылі.

**Курашчуп.** Не бачыў? Я цябе бачыў тысячу разоў кожны дзень і столькі ж кожную ноч, маё ўяўленне абмалявала цябе дакладна такой, як ты ёсць. Нават гэтая мілая радзімачка каля носіка мярэшчылася мне і свяціла ў мае цёмныя пакутныя ночы, як ясная зорка! Дай жа я пацалую гэтую зорачку лёсу майго! (*Спрытна падсоўваецца, абдымае Соню і цалуе — спачатку ў радзімку на шчацэ, а потым — моцна ў губы.*)

**Соня** (*калі Курашчуп адпусціў, закрывае на хвіліну твар далонямі, не падымаючы вачэй*). Нашто вы так, Міхась Антонавіч... Не трэба так... (*Падымаецца з тахты.*) Прабачце мне, я пайду... (*Спрабуе выйсці з-за століка, Курашчуп хапае за руку.*)

**Курашчуп.** Ды ты што? Сонейка? Хіба жанчына павінна крыўдзіцца на мужчыну за ўвагу і пяшчоту? Тым больш калі яны ад шчырага сэрца? Сядзь, калі ласка, сядзь! (*Соня садзіцца, нейкі час уважліва глядзіць на Курашчупа, потым апускае вочы долу.*) Ты ўжо не малая, не школьніца... Дык пара больш цвяроза глядзець на рэчы. Ды і пра маму помніць. Пакідаць маму хворай — мы з табою не маем ніякага права! (*Спахапіўшыся.*) Ага, я ж не падпісаў табе кніжку! Ты ўжо і забылася? Падай яе сюды, калі ласка. (*Соня падае брашурку. Курашчуп разгортвае яе і піша.*) Вось так: што на сэрцы — тое і ў аўтографе. (*Чытае надпіс.*)

Табе, чароўнай госці,
Пішу ўсім сэрцам я:
Ты — сімвал прыгажосці,
Багіня ты мая!

Прашу! (*Падае брашурку Соні*).

**Соня** (*беручы брашурку*). Дзякую, Міхась Антонавіч... Толькі я ніякая не багіня. Я — звычайная, Міхась Антонавіч, зусім звычайная. У школе нават на медаль не выцягнула... (*Кладзе брашурку ў сумачку.*)

**Курашчуп.** Ой-лё-лё-лё! Зноў ты сваё вядзеш! Звычайная!.. Калі б ты была звычайная — я не прысвяціў бы табе столькі вершаў. Ты ведаеш, колькі я напісаў пра цябе вершаў? Цэлы сшытак! Агульны! На сто лістоў! Сто лістоў маіх начных пакут і бяссонніц, мар і летуценняў маёй душы і сэрца!

**Соня** (*глядзіць устрывожана, разгублена*). Пра мяне... вершы?

**Курашчуп.** Пра цябе, Сонейка! Цэлы сшытак!

**Соня.** Дык вы яшчэ і... паэт?

**Курашчуп.** Як табе сказаць?.. У друку я сваіх вершаў не змяшчаю і зборнікаў не выдаю. Мае вершы — асобага зместу і прызначэння. Я апублікую іх, абнародую на ўвесь свет толькі тады, калі на гэта дасць дазвол абранніца майго сэрца. І абнародую з прысвячэннем ёй, зразумела. Каб усе ведалі, каму я абавязаны гэтай кнігай, хто маё сапраўднае натхненне!

**Соня** (*заінтрыгаваная, нясмела*). Прачытайце, калі ласка, што-небудзь...

**Курашчуп.** З вялікай прыемнасцю. Я столькі чакаў гэтай шчаслівай хвіліны, калі ты будзеш слухаць запаветную песню маёй душы. (*Устае, прымае позу акцёра і ненатуральна-надрыўным голасам дэкламуе.*)

Твой гнуткі стан, тваё аблічча,
Спакусных вуснаў зорны цвет —
Няйначай космас вабіць, кліча
І засланяе мне сусвет.
Тваёй красой, нібы каметай,
Я любаваўся б дзень і ноч.
Зляці ж ка мне ў талерцы з неба
І дай нырнуць мне ў бездань воч!
Насмерць нырнуць!..

(*Садзіцца на тахту.*) Ну, як? Што ты скажаш?

**Соня** (*паціскае плячыма, усміхаецца*). Здаецца, хораша...

**Курашчуп.** Ты звярні ўвагу на гэты апошні

абарваны радок: «Насмерць нырнуць!..» Нырнуць — і ўсё! Верш абрываецца. Паўрадка — і шматкроп'е. Але адчуваеш, якая сіла пачуцця за гэтым?..

**Соня.** Гэта — як у вершы Някрасава памяці Дабралюбава: і там канчаецца абарваным радком... Настаўніца, помню, тлумачыла, для чаго гэта...

**Курашчуп** *(скісліўшыся)*. Э-э, там зусім другое! Там няма належнай кандэнсацыі асацыяцый і рэальных рэліквій рэчаіснасці. Эмацыянальнай субстанцыі там не адпавядае эквівалентнасць формы. Увогуле, хачу табе сказаць, што пісаніну продкаў-дзядоў пераацэньваць не трэба! Архаіка! Не забывай, што мы жывём у век лятаючых талерак! Але не пра гэта сказ. Мяне цікавіць: ці дазволіць мне абранніца майго сэрца выдаць гэтыя вершы асобнай кнігай з прысвячэннем ёй?

**Соня** *(нейкі час глядзіць Курашчупу ў вочы, апускае галаву)*. Не жартуйце так, Міхась Антонавіч... Вы жартуеце, а я... не знаю, як і адказваць на такія жарты... Дазвольце мне пайсці, Міхась Антонавіч. Пара мне. А то магу на аўтобус спазніцца...

**Курашчуп.** А ты не едзь сёння дадому наогул. Начуй тут. Я пайду да сябра перасплю, каб ты не саромелася, а ты заставайся тут гаспадыняю. І наогул, пакуль будуць ісці экзамены, ты можаш жыць тут. *(Украдліва-саладжава.)* А я буду памагаць рыхтавацца табе.

**Соня** *(амаль з пакутай на твары)*. Нашто вы такое гаворыце, Міхась Антонавіч! Прабачце, я проста не разумею... вы такое мне прапаноўваеце... Ой, я, відаць, упілася, як у нейкім сне ўсё роўна...

**Курашчуп.** Наадварот! Гэта таму, што ты зусім мала выпіла. *(Налівае ў кілішкі каньяк.)* Каб сон развеяўся — прашу! *(Працягвае Соні кілішак.)*

**Соня** *(спалохана адхіснулася)*. Што вы! Міхась Антонавіч! Я і так ап'янела. Не магу я больш.

**Курашчуп.** Як гэта не магу? Ты адмаўляешся са мною выпіць гэтую смакату? А хто ж забяспечыць маме здароўе? Га? Хто прадоўжыць маме жыццё, калі не мы з табою?

**Соня.** Міхась Антонавіч, злітуйцеся, я сапраўды не магу болей. У мяне і так кружыцца галава, гэта вельмі моцны напітак...

**Курашчуп.** Напітак — саміх багоў! Французскі! Самы дарагі з усіх, што ў нас бывае. Хаваў спецыяльна для гэтага дня — ведаў, што ён прыйдзе, гэты шчаслівы дзень, і з ім прыйдзеш у мой дом — ты. Прашу — за маміна здароўе і даўгалецце! Хоць колькі можаш — калі не да донца! *(Соня бярэ кілішак і крыху адпівае. Курашчуп кульнуў у рот, як у халяву.)* Ну, а зараз я пастаўлю музыку. Ты Элвіса Прэслі паважаеш, не?

**Соня.** Не ведаю... можа, я не чула такога?

**Курашчуп.** Гэта быў кароль рок-эн-рола. На жаль, задраў капыты нечакана.

Ля дзвярэй на тумбе звоніць тэлефон. Курашчуп ідзе і бярэ трубку.

Алё!.. Ды не, кватэра! *(Хацеў пакласці трубку, але зірнуў на Соню і загаварыў прытворна-заклапочана.)* Ах, гэта вы, Васіль Паўлавіч? Даруйце, не адразу пазнаў. Так, так... Вядома. Вельмі прашу прабачыць, але зараз я не магу. Я разумею, што справа — важная, дзяржаўная, але я цяпер заняты справай яшчэ больш важнай і таксама дзяржаўнай. *(Падміргвае Соні — вось, маўляў, як я адбіваюся.)*

**Соня** *(устае, адыходзіць да акна. Сама сабе).* З-за мяне адмаўляецца ад нейкай дзяржаўнай справы... Ой, мамачка, што гэта за дзень сёння! І што са мною робіцца? Здаецца, я пачынаю траціць памяць...

**Курашчуп.** Я вас зразумеў, Васіль Паўлавіч. Але прыйсці не магу. Усяго вам добрага. Да пабачэння! *(Кладзе трубку, падыходзіць да Соні.)* Чула? Хацелі сапсаваць мне такое свята. Я, можа, гэтага свята дзесяць гадоў чакаў, і калі яно нарэшце прыйшло ў мой дом — яны гатовы яго тут жа азмрочыць і зліквідаваць. Не ўдасца!

**Соня.** Міхась Антонавіч, прабачце, але, можа, вам сапраўды лепш пайсці... Мне вельмі няёмка... Выходзіць, што гэта я адрываю вас ад дзяржаўнай справы...

**Курашчуп.** Ну, не! І не падумаю! Скажы, маё мілае Сонейка: мае права Міхась Антонавіч на асабістую радасць? Ці не мае? Ці яму толькі дзяржаўныя справы рашаць? М-м? Я ж таксама жывы чалавек. Ці не праўда?

**Соня** (*ківае згодна галавой*). Вядома... Толькі мне няёмка, што...

**Курашчуп** (*перабівае*). А для цябе ў маім доме не павінна быць ніякай няёмкасці! Ніякай няёмкасці! Пускаем музыку і будзем святкаваць маё вялікае свята! (*Уключае радыёлу. Чуецца вясёлая, у зухаватым рытме музыка.*) Прашу!

Бярэ Соню за руку, выводзіць на сярэдзіну пакоя, і яны пачынаюць танцаваць модны сучасны танец. Ён — асабліва заядла і з прэтэнзіяй на экстра-клас. Яна — напачатку зусім сарамліва і сціпла, але, паддаючыся музыцы і маладому азарту, паступова таксама віхляецца ўсё больш смела. У той самы момант, як выключылася пласцінка, Курашчуп хапае Соню ў абдымкі, моцна, як клешч, упіваецца ў яе губы, доўга цалуе і валачэ на руках да тахты. Зразумеўшы яго намер, Соня з усіх сіл супраціўляецца, упіраецца нагамі, выгінаецца, спрабуючы вызваліцца. Нарэшце ёй гэта ўдаецца, і першае, што яна робіць — пляскае яму з сілай па мордзе. Курашчуп на момант аслупянеў. Такога пратэсту ён зусім не чакаў. Спалохалася, апомніўшыся, і Соня.

**Соня** (*адступіўшы крокі два назад, задыханая*). Я ж вас прасіла!..

**Курашчуп** (*паціраючы шчаку*). Ты... гэта што?

**Соня** (*ва ўзрушэнні*). Я ж вас прасіла: не трэба!.. Не трэба гэтак!..

**Курашчуп** (*з падаўленым гневам*). Ты — што? Наіўная дзяўчынка? Ці, можа, Тацяна Ларына? Ужо «другому отдана и буду век ему верна»? Так?

**Соня** (*ківае галавой*). Так... Я хацела сказаць вам адразу і — не рашылася. У мяне ёсць... я дружу з адным... Я... не магу так, як вам трэба... Не магу! Зразумейце ж вы гэта! (*Паварочваецца да тахты, хапае сумку і кідаецца да дзвярэй.*)

**Курашчуп.** Мінутку! (*Даганяе Соню, хапае груба за плячо, заступае дарогу.*) Мінутку! (*Соня спынілася.*) А як жа будзе з паступленнем на наш факультэт? І з маміным здароўем? (*Здзекліва.*)

У такім разе з выздараўленнем мамачкі давядзецца пачакаць. Няскора яна ў цябе паправіцца, сардэчная, няскора!

**Соня** *(зразумела, на што намякае Курашчуп, на твары ў яе адбілася пагарда і непрыязнь).* Вы хацелі памагчы мне за такую цану? Каб я... заплаціла сваім сумленнем і годнасцю?.. Шчыра дзякую. Не трэба клопатаў. Я... сама паступлю. Я добра падрыхтавалася.

**Курашчуп** *(непрыемна, іранічна хехекае).* Падрыхтавалася! Во, святая прастата, га! *(З нядобрай ухмылкай, уедліва.)* Не паступіш. Гэта кажу табе я, Міхась Антонавіч! *(Амаль па складах.)* Не паступіш! Сто разоў будзеш здаваць і не паступіш! Да другога сашэсця Хрыста! Зразумела?

**Соня** *(не адразу).* Не зразумела. Чаму вы так упэўнены, што я не паступлю?

**Курашчуп** *(усё з той жа ўхмылкай, у самы твар Соні).* Таму, Сонечка, што пра гэта паклапачуся я. Я зраблю ўсё, каб ты не паступіла. М-гы! Хоць на пяць з плюсам будзеш ведаць — не пройдзеш. У прыёмнай камісіі, Сонечка, мае блізкія сябры, і яны зробяць табе маленькі чык-чырык. Харакірчыкі. М-гы. Цяпер зразумела?

**Соня** *(пацямнеўшы тварам).* За што?

**Курашчуп** *(усё тым жа тонам).* За тое, Сонечка, што ты не разумная. Табе сёння выпала шчасце — атрымаць гарантыю на паступленне і забяспечыць мамусі здароўе. Але ў цябе няма розуму ацаніць гэта. А можа, ты пагарачылася? Га? Тады забудзем пра дробны інцыдэнт, хадзем да стала і прадоўжым размову. *(Хоча ўзяць Соню за руку, але яна рэзка адводзіць руку за спіну.)*

**Соня** *(з цяжкасцю перамагаючы агіду і абурэнне).* Не пагарачылася... Скажыце, калі ласка, на факультэце многа такіх, як вы?

**Курашчуп.** Якіх, Сонечка?

**Соня** *(горача, з нянавісцю).* Такіх амаральных і разбэшчаных тыпаў, такіх цынічных і агідных пашлякоў, такіх мярзотных і подлых нахабнікаў, што хабар за паступленне бяруць дзявочай чэсцю і годнасцю! Многа вас такіх сярод выкладчыкаў?

**Курашчуп** *(мяняючыся з твару, адкінуўшы гры-*

*масу далікатнасці).* Зеляпуха! Хто табе даў права? Ты з кім размаўляеш і дзе знаходзішся?

**Соня.** Вы далі права! Дык вось: калі нават вы адзін такі на факультэце — я не хачу ў вас вучыцца і не стану да вас паступаць! А тым больш калі і вашы сябры такія. І забярыце назад вашу навуковую кніжку — я сто гадоў яе чытаць не буду! *(Вымае з сумкі брашурку і шпурляе яе на падлогу.)* А яшчэ... калі будзеце ўспамінаць гэту хвіліну — ведайце, што мне вельмі хацелася плюнуць у вашы нахабныя, блудныя вочы! *(Абходзіць Курашчупа і цвёрдым крокам ідзе да дзвярэй.)*

**Курашчуп** *(наўздагон Соні).* Прэч! Прэч, дурніца! Бач, цаца мне якая знайшлася! Я табе плюну! Я табе так плюну, што й не вытрышся! *(Соня ўжо гэтага не чуе — яна выйшла. Курашчуп з прыкрасцю сплёўвае, падымае з падлогі сваю брашурку, абдзьмухвае і расхінае на тытульным лісце. Сам сабе.)* Добра, што не напісаў яе імя і прозвішча і не сапсаваў тым самым экземпляр. Можна будзе якой другой падсунуць, больш пакладзістай. Ад такога подпісу ўжо не адна млела і яшчэ не адна разамлее. *(Запіхае брашурку між кніг на паліцы. Ідзе да століка.)* Гы, авечка бязрогая, думала, што я сапраўды французскім каньяком яе частую. *(Бярэ бутэльку ў рукі.)* У гэтай бутэльцы ўжо неаднойчы пабываў і малдаўскі, і грузінскі, і армянскі — і ні разу вышэй трохзорачнага. *(Задаволена хехекае.)* Гэта бутэлечка яшчэ мне паслужыць. *(Бярэ кілішак, з якога піла Соня, і рэшткі каньяку выливае назад у бутэльку.)* Вось так, дабро прападаць не павінна. Пакуль вернецца жонка з адпачынку — яшчэ спатрэбіцца. *(Паглядзеў на святло, ці многа ў бутэльцы, і пайшоў з падносам на кухню.)*

*Заслона.*

## ЭПІЛОГ

Пакой прыёмнай камісіі інстытута. За сталом — сакратарка. Заходзіць **Соня.**

**Соня.** Добры дзень.

**Сакратарка.** Дзень добры. (*Не адразу.*) Слухаю вас.

**Соня.** Я прыйшла забраць свае дакументы.

**Сакратарка.** Ваша прозвішча?

**Соня.** Карчэўская, Соф'я Адамаўна.

**Сакратарка.** Даўно падавалі?

**Соня.** Два тыдні назад. Самая першая ў гэтым годзе.

**Сакратарка.** Самая першая? Значыць, не ваталіся ў выбары, абдумалі добра, загадзя.

**Соня.** Быў час абдумаць. У трэці раз ужо збіралася...

**Сакратарка.** Трэці раз? То ж вы моцна хацелі ў нас вучыцца?

**Соня.** Не ведала, дык і хацела.

**Сакратарка.** Чаго — не ведала?

**Соня.** Не ведала, што ў вас такія выкладчыкі працуюць.

**Сакратарка** (*уважліва паглядзеўшы на Соню*). Прысядзьце, калі ласка. (*Соня садзіцца на крэсла.*) Зараз разбяромся. (*Ідзе да шафы, знаходзіць папку з дакументамі Карчэўскай і вяртаецца да стала. Садзіцца, разгортвае, пераглядае.*) Атэстат у вас добры, сярэдні бал — чатыры з палавінай... Характарыстыка з месца працы вельмі пахвальная... Бацькі няма, толькі мама... (*Падымае вочы на Соню.*) Дык чым вам не падабаюцца нашы выкладчыкі? І адкуль вы іх ведаеце, калі яшчэ не вучыліся ў нас?

**Соня.** Ведаю... (*Ківае на папку.*) Можна забраць?

**Сакратарка.** Я прашу прабачэння, але... Вы зрабілі такую сур'ёзную заяву, такую назвалі прычыну, чаму забіраеце дакументы, што... давядзецца вам пагаварыць з нашым начальствам: з дэканам ці з яго намеснікам.

**Соня** (*узбуджана*). Навошта? Я не хачу ні з кім гаварыць! Я паеду паступаць у іншы горад. У Ленінград паеду.

**Сакратарка.** Ваша справа, вядома, куды вам паступаць вучыцца. Але скажыце: якіх нашых выкладчыкаў вы мелі на ўвазе, калі рабілі такую

заяву? Скажыце мне, і, можа, не давядзецца гаварыць з начальствам.

**Соня** *(рэзка, громка)*. Вашага Курашчупа, Міхася Антонавіча, мела на ўвазе! Ён сапраўды курашчуп, а не выкладчык!

**Сакратарка** *(з палёгкай усміхнуўшыся)*. Так бы адразу і сказалі — Курашчупа. А то — выкладчыкі, выкладчыкі... Курашчупа ў нас ужо няма, больш ён тут не працуе.

**Соня.** Не працуе?

**Сакратарка.** Так, не працуе. Тыдзень назад на апошнім вучоным савеце ён не прайшоў па конкурсу — праваліўся з вялікім трэскам.

**Соня.** А сябры? Хіба сябры яго не падтрымалі?

**Сакратарка.** Якія сябры? На нашым факультэце сяброў у яго быць не можа. Проста некаторыя не ведалі, што гэта за птушка, але калі даведаліся... А ўвогуле ён трапіў быў да нас па непаразуменню. Ну, вось, і пайшоў туды, адкуль прыйшоў. *(Усміхаючыся.)* Дык пакінем дакументы ў папачцы?

**Соня** *(шчасліва ўздыхнуўшы)*. Пакінем... У такім разе — пакінем... Буду паступаць да вас.

**Сакратарка.** Паступайце. Буду рада ўбачыць вас восенню сярод студэнтаў. *(Кладзе папку з дакументамі ў шафу, вяртаецца да стала і бачыць, што Соня сядзіць, аб нечым задумалася, не развітваецца.)* У вас яшчэ якое-небудзь пытанне ёсць?

**Соня.** Прабачце, вы сказалі, што ён пайшоў туды ж, адкуль прыйшоў. А адкуль ён прыйшоў да вас, адкуль ён узяўся гэтакі?

**Сакратарка.** Ды гэта я так, да слова. Прымаўка такая ёсць: паганаму прыблуду-валацугу кажуць: а ідзі ж ты, чалавеча, дзе ты дагэтуль быў! А адкуль быў прыцёгся да нас Курашчуп і адкуль наогул такія бяруцца, я гэтага не ведаю. *(Паўза. Усміхнулася.)* Паступайце, вучыцеся, можа, знойдзеце адказ самі.

**Соня** *(падняўшыся)*. Знайду. Абавязкова знайду! Іначай — для чаго ж вучыцца? Для чаго ж іначай вучыцца?

**Сакратарка.** Толькі жыць вам будзе цяжкава-

та, галубка. Гэта я ўжо бачу. І маме вашай нялёгка будзе.

**Соня** *(усміхнуўшыся)*. А-а, забяспечым маме здароўе?.. Нічога. Мама мяне разумее. Не бойцеся... Да пабачэння! *(Выходзіць.)*

**Сакратарка.** Да пабачэння! *(Гледзячы ўслед Соні, здзіўлена круціць галавою. Застаўшыся адна.)* Ты бач, якая! А іначай, кажа, навошта тады і вучыцца?.. Навошта тады і вучыцца, кажа... Слаўная ўсё-такі моладзь ідзе нам на змену. Слаўная!

*Заслона.*

1978

# НАЧЛЕГ НА БУСЛЯНЦЫ

П'еса ў пяці карцінах







## ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

**Барэйка Павел Арсеневіч** — навуковы супрацоўнік інстытута мовазнаўства, гадоў 25.

**Лера** — жонка Барэйкі, на год-два маладзейшая за мужа.

**Бладыка Аскольд Гаўрылавіч** — гаспадар дачы на возеры Лясное, гадоў 30.

**Алік** — сябар і хаўруснік Бладыкі, гадоў 30.

**Жыткевіч Адам Лявонавіч** — былы рабочы рыбгаса ў Лясным, пенсіянер, гадоў 60 з хвосцікам.

**Жардэцкі Юстын Антонавіч** — аднавясковец і равеснік Жыткевіча, таксама пенсіянер.

**Нішчык Сцяпан Іванавіч** — кватарант Жыткевіча, гадоў 50.

**Іра**
**Люда** } дзяўчаты з турбазы, ім гадоў па 20.

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Хата і двор Жыткевіча. Злева на пярэднім плане хата — сцяной, процілеглай фасаду. У сцяне два акны, адно адчынена. Каля хаты, якраз паміж вокнамі, лаўка.

Справа на пярэднім плане хляўчук, за ім — дашчаная прыбудоўка. Крыху далей — дрывотня, ляжаць круглякі, стаяць дзве калодкі. За дрывотняй — высокая бяроза з буслянкай на зломаным вяршку. Далей за дваром — сосны. У прагале блішчыць вада — там возера.

**Гаспадар** — у шэрым танным гарнітуры, у шэрай шапцы, у чаравіках — выходзіць з-за хаты і садзіцца на лаўцы. Бачна, што ён нападпітку. Адкідвае галаву да сцяны, заплюшчвае вочы і пачынае няголасна спяваць.

**Жыткевіч** *(пяе)*.

Хлопец здуру ажаніўся, ой-ё-ёй,
Навек жонкай падавіўся, ой, божа ж мой!
Ані лыжкі, ані міскі, ой-ё-ёй,
Павесілі тры калыскі, ой, божа ж мой!
Даў ён жонцы тры капейкі, ой-ё-ёй:
— Купі, жонка, хлеба, солі, ой, божа ж мой!
Хлеба, солі не купіла, ой-ё-ёй,
На базары заблудзіла, ой, божа ж мой!

Справа на сцэну выходзіць **Жардэцкі** — у ботах, у чорных галіфэ, у паношаным рыжым кіцелі, у старой фуражцы з бліскучым казырком.

**Жардэцкі** *(падыходзячы да Жыткевіча)*. Слаба пяеш!

**Жыткевіч** *(адплюшчыўшы вочы)*. А-а, Юстын. Здароў!

**Жардэцкі.** Здароў! *(Падае руку. Садзіцца побач.)* Слаба пяеш, кажу. Чуць цягнеш. Як бы табе дыхання не хапае.

**Жыткевіч.** Ты ж ведаеш, што нам дыханне дае. З бутэлькі «чарніла» не распяешся.

**Жардэцкі.** Дык усё-такі бутэльку ўжо ўвабраў?

**Жыткевіч.** Гэны, што ў Вікці на кватэры, лодку ўзяў. Прыпёрся на досвітку — я яшчэ дрыхнуў. Замест рублёўкі гатовую прадукцыю прынёс. Яблычнае. Ну, чорт з ім, кажу. Так смылела ў душы, што і яблычнаму рад быў.

**Жардэцкі.** А я сёння яшчэ нашча. І не нюхаў.

**Жыткевіч.** Дык схадзі панюхай! *(З намёкам.)* Я магу правесці, паказаць дзе. І адкупорыць памагу.

**Жардэцкі.** Гэ-э, бач, мондры! Ты ж мяне не клікаў на падмогу — адкупорваць... Я вось прыйшоў да вываду, што трэба яшчэ адну лодку раздабыць.

**Жыткевіч.** Дзвюх ужо мала? За шкірку возьмуць. Скажуць, прыватную лодачную станцыю адкрыў.

**Жардэцкі.** Не возьмуць. У сястры будзе стаяць, у Тэклі. Ма́е ж яна права на лодку, хоць сабе і без мужыка жыве? Каму якая справа да гэтага? Буду да яе пасылаць дачнікаў, хай выдае, як сваю.

**Жыткевіч.** Каб у цябе іх і дзесяць было, дык ты б думаў, як бы гэта і яшчэ адну, адзінаццатую, займець.

**Жардэцкі.** І дзесяць не завадзіла б... Паспрабуй не думаць, калі сёння зранку, ну, далібог, чалавек сем пыталася! Вось тады і дыханне было б што трэба! І пелася б іначай.

У адчыненым акне паказваецца **Нішчык**, аблакаціўся на падаконнік і прыслухоўваецца да размовы.

**Жыткевіч.** Я ўжо не раз казаў, што табе трэба было з маёй Анцяй жаніцца. Яна во мне жыцця не дае — каб яшчэ і з гэтага боку, ля гэтай сцяны, веранду зрабіў для дачнікаў. Каб яшчэ за лета сотні паўтары выкалачваць...

**Жардэцкі.** З галавой баба, правільна мазгуе. Ты ж пенсію ёй не аддаеш, а грошы ў хаце патрэбны.

**Жыткевіч.** Во-во, паспачувай ёй!.. Ты спытай, дзе яна гэтыя дзяе, што бярэ з кватарантаў. Мне ж не перападае ні капейкі! Мой увесь прыва́рак — калі пушчу каго пераначаваць у сваю «рэзідэнцыю», у гэну прыбудоўку ля хлева. Яшчэ ў канцы ма́я мяне выпэндзіла туды... Грошы, брат, колькі б іх ні меў,— усё роўна мала.

**Жардэцкі.** Але лепей, калі іх болей. Ты ж, відаць, чуў, што мы ўчора пастанавілі?

**Жыткевіч.** Дзе?

**Жардэцкі.** У Занямонца. Сабраліся грамадой і прынялі пастанову. Па цябе таксама хлапца пасылалі, калі гэта дзела абмазгоўвалі, але ж цябе некуды знесла.

**Жыткевіч.** А што вы пастанавілі?

**Жардэцкі.** А так што пераключай сваіх кватаранцікаў на дзесятку вышэй. Пастанавілі ў гэтым годзе браць у месяц за пакой ці там за веранду

на чырвонца болей. Так што — давай абвяшчай сваім. Каб не было разнабою. Каб па ўсёй вёсцы адна цана была.

**Жыткевіч.** І гэтыя браць сорамна, а вы яшчэ дзесятку. Язык не павернецца сказаць людзям...

**Жардэцкі** *(з запалам)*. Ат, ерунду ты, Адам, гародзіш, скажу я табе! Сорамна! Якое тут сорамна, калі ўсё законна, па агульнай пастанове! Пакой, як сырабойня, і аддаваць за паўсотні на цэлы месяц? Сама мала шэсцьдзесят браць трэба! У Крыму, расказваў Тэклін хлапец, малюпасенькая каморка на тры ложкі — сто цалковых без размовы! А ты — сорамна!.. *(Паўза.)* Пайшлі — паможаш адкупорыць, і я табе лепш растлумачу, чаму не сорамна. У мяне тут недзе *(ляпае па кішэні кіцеля)* пяцёрачка целяпаецца. *(Падымаецца з лаўкі.)*

**Жыткевіч** *(ажыўлена)*. Гэта — іншая справа! З гэтага і пачынаў бы адразу. *(Падымаецца з лаўкі.)*

**Жардэцкі.** Ты скажы Анці пра нашу пастанову. Калі сам гэткі сарамлівы — хай яна аб'явіць...

**Жыткевіч** і **Жардэцкі** пайшлі.

На двор выходзіць з хаты **Нішчык** — тоўсты, лысаваты, у майцы і ў шортах, у сандалях басанож. Нейкі час ён стаіць пасярод двара, задумаўшыся.

**Нішчык** *(сам сабе, ківаючы галавой)*. М-хы-хы-хы! Што ж гэта такое робіцца? Яшчэ дзесятачку лупіць будуць! Тры гады назад за гэты самы пакойчык плаціў трыццаць, праз год — сорак, летась — паўсотні, а сёлета, выходзіць,— шэсцьдзесят. Можна падумаць, што і мая зарплата за гэтыя гады ў два разы большая стала. *(Ківае галавой.)* І нічога не зробіш: усім сялом змовіліся. Заўтра аб'явяць семдзесят — будзеш плаціць семдзесят, калі адпачыць хочаш. Не стаўляць жа мне палатку ў лесе! М-мы-хы-хы! *(Круціць галавой, ідзе на край сцэны да дрывотні, садзіцца на калодку, падымае з зямлі недароблены лазовы кошык, дастае з кішэні складанчык, прымаецца за работу.)*

З левага краю сцэны паяўляюцца **Павел** і **Лера**. Бачна, што вельмі стомленыя. Спыняюцца, ставяць на

зямлю куфэрак, бавул і рукзак, азіраюць хату. Нішчыка ім пакуль не бачна.

**Лера.** Усё, Паўлік, больш я — ні кроку. Калі і тут не ўладкуемся — я вяртаюся ў Мінск.

**Павел** (*кладзе Леры на плячо руку і ласкава глядзіць у твар*). Уладкуемся. Вось пабачыш. Ёсць у мяне такое прадчуванне... Толькі ты не кідайся ў паніку. Ну, вельмі прашу цябе!

**Лера.** А калі ўсё-такі не — што ты думаеш рабіць?

**Павел.** Думаю, тады мы зробім так: перадыхнём тут, папалуднуем, ты супакоішся і — пойдзем далей, у Альхоўку ці ў Жылічы. Свет клінам не сышоўся! І там — тое самае возера, і бераг, кажуць, не горшы. Згода?

**Лера** (*круціць галавой*). Не. Я сваё сказала цвёрда: або тут, у Лясным, або — вяртаюся ў Мінск. Ты зусім забываешся на адну акалічнасць. Тут цэнтр, на беразе — і лодачная станцыя, і кінатэатр, і рэстаран, і закусачная... А там, там жа — нічога гэтага няма, глухамань. Ці ты думаеш, я буду ўвесь час капцець на кухні? Добра ж я праведу адпачынак! Дзякуй табе. (*Надзьмула губы, гатова вось-вось заплакаць.*)

**Павел** (*гладзіць Леру па плячы, супакойвае*). Ціх-ціх-ціх-ціх!.. Толькі не засмучайся, прашу цябе. Такой жоначцы я і сам гатаваць памагу.

**Лера.** Ведаю тваю помач. Як зоймешся тут сваёй навукай — толькі і будзеш цягацца па хатах, па старых бабулях. Як і летась у Заазер'і.

**Павел.** Ну, што ты загадзя бядуеш? Можа, нас чакае добрая кватэра! Пайду ў хату пытацца. (*Памкнуўся пайсці, але пачуў у двары кашаль і ўбачыў Нішчыка. Ціха да Леры.*) А вунь ці не гаспадар сядзіць? Хадзем. (*Павел і Лера бяруць рэчы і падыходзяць да Нішчыка.*) Добры дзень вам!

**Нішчык** (*шморгаючы дубцом між рэбраў кошыка*). Дзень добры і вам!

**Павел.** Ці не гаспадар будзеце?

**Нішчык.** Не. Гаспадар, мабыць, у закусачную падаўся.

**Павел.** А я гляджу — за такой работай, пэўна, гаспадар, думаю. Гэта ж на грыбы рыхтуеце?

**Нішчык.** На грыбы. Некалі ў маленстве, як жыў у вёсцы, плёў неблагія кошыкі. Вот — рашыў успомніць.

**Павел.** Добра атрымліваецца. Прыгожа.

**Лера.** А вы не ведаеце: у гаспадара ёсць вольны пакой? Нам патрэбен на месяц пакой — хочам адпачыць тут.

**Нішчык** *(падымае вочы на Леру, глядзіць з іранічнай усмешкай)*. Вольны пакой?.. Пра што вы гаворыце. У гэтай хаце кватарантаў, як селядцоў у бочцы. І ў пакоях, і на верандах, і ў сенцах. Можа, нават і на гарышчы, бо і там, чуваць, вечарам тупаюць. Хіба што, можа, хто-небудзь выязджаць збіраецца.

**Лера.** А сам ён з сям'ёю дзе начуе? Для сябе ж нейкі пакой пакінуў?

**Нішчык.** Сям'я ў яго цяпер — адна старая. Дзеці — жанатыя, калі часам заглянуць — усіх на гарышча тураць. А старая — шчыра кажучы, дык і не ведаю, дзе начуе. Мабыць, недзе ў сенцах на лаве. Сам во ў гэтай прыбудоўцы спіць *(ківае галавой на прыбудоўку.)*

Дзесьці за хатай зноў чуецца «Хлопец здуру ажаніўся, ой-ё-ёй» у знаёмым выкананні Жыткевіча.

Вось і гаспадар вяртаецца. З песняй.

З-за хаты выходзіць **Жыткевіч** і кіруе да прыбудоўкі.

**Павел.** Добры дзень вам!

**Жыткевіч** *(спыняецца)*. Здрасце!

**Павел.** А мы да вас, гаспадар. Ці не патрэбны вам кватаранты?

**Жыткевіч.** Кватаранты? Міленькі ты мой... Мне як мне, але маёй бабе вы — во як патрэбны! *(Паказвае «пазарэз».)* Ды яна б вас... палавіну Мінска ўзяла да сябе! Яна б вас у кожную шчыліну панаторкала!

**Лера** *(нецярпліва)*. Ну, хоць адзін вольны пакой ёсць у вас?

**Жыткевіч.** Божа, якая пекная панечка! Дайце вашу ручку! *(падыходзіць і цмокае Леры ў руку.)* Што ж гэта мне для вас прыдумаць?.. Слухайце, можа, вам мая «рэзідэнцыя» спадабаецца? Вы ж маладыя, здаровыя, га?

**Лера.** Якая рэзідэнцыя?

**Жыткевіч.** Мая асабістая! Калі толькі прыйдзецца вам даспадобы — займайце! *(Ідзе да прыбудоўкі і адчыняе насцеж дзверы.)* Прашу! Як вам, маладым, дык можна тут жыць прыпяваючы!

Павел і Лера падыходзяць да дзвярэй.

**Лера** *(крывячы губы)*. У гэтым катуху — жыць прыпяваючы?

**Жыткевіч** *(крыху абражана)*. Панечка! Вы ж будзеце спаць на свежым сене і на чыстым паветры! Наберыцё здароўя на сто гадоў сабе! Скажу бабе, каб вам дала коўдру цёплую нанач. Тут во і ўслон я зрабіў, і цвікі загнаў у сцяну, каб вопратку вешаць. А як жа людзі ў палатках жывуць? На зямлі спяць?..

**Павел** *(да Леры — тонам, у якім чуецца просьба, каб яна згадзілася)*. А ты ведаеш, тут, бадай, не горш, чым у якім пакоі. Ты паглядзі: зацішна і сена многа, и ў сене — цёпла, хораша... Я ўсё маленства летам спаў у пуні на сене, аж пакуль вучыцца не паехаў.

**Лера** *(да Паўла)*. Ціха!.. *(Паварочваецца да Жыткевіча.)* Тут у вас нехта ляжыць у сене! Я чую, як нехта цяжка сапе!

**Жыткевіч** *(ступае наперад)*. Хто сапе? Ніхто не мог сюды залезці — замкнута было. А калі які валацуга залез, дык я яго зараз!.. *(Прыслухоўваецца.)* Панечка, ніхто не сапе! Гэта свіння дыхае!

**Лера.** Хто?

**Жыткевіч.** Свіння! Наелася, пражора, дык ляжыць і адсапваецца.

**Лера.** О, які жах! *(Да Паўла.)* Куды ты мяне прывёў, Паўлік? Гэта я разам са свіннёй спаць буду?

**Жыткевіч.** Панечка, дык жа свіння не тут, а ў хляве, за сцяною. А тут усё чыстае.

**Лера.** Але ж чуваць, як яна агідна сапе! А калі ўздумае рохкаць?

**Жыткевіч.** Ды яна амаль ніколі не рохкае! Чаго ёй рохкаць? Што ёй — яды не хапае... Чыстым хлебам баба корміць, па васемнаццаць капеек буханка!.. А часам дык і батонамі!.. Ну, я бачу —

пані не падабаецца мая «рэзідэнцыя», тады — перапрашаю. Я вам хацеў паспагадаць, бо нічога вы ў Лясным лепшага не знойдзеце, а калі так... то перапрашаю. *(Хоча зачыніць прыбудоўку.)*

**Павел** *(спыняе Жыткевіча)*. Пачакайце. *(Да жонкі.)* Не расстройвайся, Лерачка, і паслухай мяне. Адразу мы можам не знайсці, што хочам. Таму я прапаную так: спынімся тут на дзень-два, а тым часам я пахаджу ў наваколлі, пашукаю. Нічога за дзень-два тут з намі не стане. Чэснае слова! А тым часам лёс нам пойдзе насустрач. Вось пабачыш! *(Да Жыткевіча.)* На пару дзён вы адступіце нам гэту «рэзідэнцыю»?

**Жыткевіч** *(махае ў знак згоды рукою)*. Хай будзе на пару дзён. Бутэльку «чарніла» з вас — і ўвесь клопат.

**Павел.** Гэта — само сабою. Не хвалюйцеся.

**Лера.** Прабачце, а дзе вы, між іншым, самі начаваць будзеце, аддаўшы нам «рэзідэнцыю»?

**Жыткевіч.** Я? *(Паварочваецца і паказвае рукой на бярозу з буслянкай.)* Унь там, бачыце, пад небам? Цудоўная пасцель намошчана!

**Лера.** У бусліным гняздзе?! Вы жартуеце?!

**Жыткевіч.** Ніякіх жартаў! Буслы там не жывуць — ужо колькі гадоў, як не прылятаюць. Адракліся. Не перанеслі шуму-гаму, як набудавалі тут санаторыяў. Вось я там і раскашуюся, дзякаваць ім. Ну, а вы раскашуйцеся тут. Прыемнага вам адпачынку! *(З усё той жа песняй пакідае новых кватарантаў.)*

Павел і Лера пераносяць рэчы ў прыбудоўку. Праз хвіліну выходзяць, аглядаюць падворак.

**Павел** *(у добрым настроі, задаволены)*. Ну, зачэпка зроблена. Ты тут, Лерчык, адпачні трохі, а я скокну ў магазін па хлеб, і будзем палуднаваць. Згода?

**Лера** *(іранічна)*. Гаспадар такой «рэзідэнцыі» і пытае ў мяне згоды! Рабі як знаеш.

**Павел** *(ласкава)*. Вось і малайчына *(прыхінае Леру да сябе, цалуе ў шчаку)*. Я хутка вярнуся.

Лера заходзіць у прыбудоўку і праз хвіліну выхо-

дзіць у лёгкім пляжным халаце. Ідзе да Нішчыка і садзіцца насупраць яго на другой калодцы.

**Лера.** Першы раз бачу, як кошыкі плятуць.

**Нішчык** *(зацягваючы новы дубец).* Відаць, не ў вёсцы гадаваліся.

**Лера.** Не. Я — карэнная гараджанка. І ўсе мае продкі — гараджане.

**Нішчык.** І чым жа вы, калі не сакрэт, у горадзе займаецеся?

**Лера.** Музыкант. Я музычнае вучылішча закончыла.

**Нішчык.** І цяпер — што?

**Лера.** У Доме культуры працую.

**Нішчык.** Зайздросная прафесія. Музыку я цаню вышэй за ўсякае іншае мастацтва. Сапраўдную музыку.

**Лера** *(злёгку іранічна).* Пад сапраўднай вы, канешне, разумееце толькі класічную і народную. Так?

**Нішчык** *(уважліва глядзіць на Леру).* Не зусім так. Я разумею музыку, якая глыбока хвалюе душу, якая прымушае на свет і на людзей глядзець больш яснымі, больш добрымі і... і... *(шукае слова)* больш справядлівымі вачыма. А вы, прабачце, як разумееце?

**Лера.** А я сапраўднай лічу тую музыку, якая мне падабаецца. Якая не падабаецца — тая для мяне не існуе наогул, як жа я магу лічыць яе сапраўднай? А падабаюцца мне перш за ўсё сучасныя рытмы. Рытмы нашага веку: моцныя, рэзкія, напорыстыя. Даўнейшыя рытмы мяне не хвалююць.

**Нішчык.** Супруг ваш, вядома, гэтак жа разумее, як і вы?

**Лера.** На жаль, не. Ён у мяне трохі старамодны. Відаць, затое, што ў яго навука такая.

**Нішчык.** Ён гісторык?

**Лера.** Не, ён мовазнаўца, філолаг, але... з гістарычным ухілам. У мове яго найбольш цікавяць рэдкія, а таксама старыя, забытыя словы. Ён збірае назвы траў і кветак — не навуковыя, а даўнейшыя, народныя назвы. Работа накладае адбітак і на характар. Ну, але да сучасных рытмаў я яго ўсё-такі прывучу.

**Нішчык.** Упэўнены ў гэтым?

**Лера.** Абсалютна! Ён мяне слухаецца.

**Нішчык.** Прабачце, а вы — яго?

**Лера** *(пацiскае плячыма)*. Не ведаю. Мабыць, не заўсёды... *(Наўмысна мяняе тэму гутаркі.)* А нашто вы такі вялікі кош робіце? Хіба гэтак многа грыбоў у лесе?

**Нішчык.** Далей, вёрст за дзесяць — пятнаццаць адсюль, трохі ёсць, і то нямнога. А тут, паблізу, ніводнага грыба няма. Затое — пад кожнай хвояй — бутэлька з-пад віна або бляшанка з-пад кансерваў. Як пабудавалі тут санаторый, дом адпачынку, турбазу і як абласавалі гэта возера «дзікуны» — вытапталі і запаскудзілі ўвесь лес навакола. Хутка і сам лес загіне, дык пра якія ўжо грыбы тут гаварыць. *(Круціць кош у руках, аглядае, ці роўна.)* Калі я прыехаў сюды першы раз,— гадоў пятнаццаць назад,— дык баравікі во тут, каля хаты, зразаў. Ледзь адыдзеш крокаў на колькі — і тут жа грыбы. Ды якія грыбы! *(Ставіць кош на дол.)* Ну, але на сёння хопіць. Дубцы скончыліся. Заўтра зранку схаджу нарэжу болей. *(Падымаецца і ідзе ў хату.)*

**Лера** накіроўваецца ў прыбудоўку, заходзіць і зачыняе за сабой дзверы. У гэты ж момант на двары паяўляецца з кійком у руцэ **Бладыка:** на ім палатняныя штаны і блакітная тэніска, на дахоўцы — залацістая цюбецейка. Пачуўшы, што нехта ёсць у прыбудоўцы, ён накіроўваецца туды, трохі не дайшоўшы, спыняецца і прыслухоўваецца.

**Бладыка.** Адам Лявонавіч! Ты тут?

У гэты момант у прыбудоўцы чуецца моцны прарэзлівы крык, адчыняюцца насцеж дзверы, і на двор вопрамеццю вылятае перапалоханая **Лера**. Бладыка робіць ёй крок насустрач, і яна, амаль без памяці, абвісае ў яго на руках. Бладыка глядзіць у расчыненыя дзверы, але адтуль за жанчынай ніхто не гоніцца. Тады ён пачынае злёгку тармасіць Леру.

Што з вамі, грамадзяначка? Апомніцеся! *(Убачыў, што каля хаты паявіўся Жыткевіч.)* Скарэй вады сюды! *(Працягвае трэсці Леру.)* Грамадзяначка, ачніцеся! Хто вас так напалохаў?

**Лера** (*упалым голасам*). Пацук...

**Бладыка.** Хто-хто?

**Лера** (*аслабаняючыся з рук Бладыкі, закрываючы твар далонямі*). Прабачце, дзякую вам... Ой, як я напужалася! Памру, мабыць, ад гэтага перапуду...

**Жыткевіч** (*бяжыць з вядром вады*). Што — ужо вада не трэба?

**Бладыка** (*пазнае Леру, моцна, здзіўлена*). Лера?! (*Адступае пайкроку.*) Лера!..

**Лера** (*пазнае Бладыку, перапалох на твары пераходзіць у здзіўленне, здзіўленне саступае месца няёмкасці і сораму*). Аскольд Гаўрылавіч? Ой, прабачце, калі ласка... (*Зноў закрывае твар рукамі.*)

**Жыткевіч.** Дык што — вада ўжо не трэба, пытаюся?

**Лера.** Дайце, дайце, калі ласка! Ой, мусіць, не прыйду ў сябе ад страху... (*Бярэ з рук Жыткевіча конаўку вады і п'е.*)

**Жыткевіч** (*да Бладыкі*). А я толькі выйшаў з хаты, гляджу — штò гэта вы з чужой маладзіцай абнімаку рэжаце? Ажно панечцы нечага блага стала?

**Бладыка.** Перапалохалася вельмі.

**Лера** (*аддае конаўку Жыткевічу*). Дзякую... Пацук там... Во такі вось пацук (*разводзіць рукі на добрага пайметра*). Расхінаю бавул, хацела прадукты дастаць, а ён адтуль як скочыць — проста на мяне!.. Ой, не ведаю, ці адыду я, усё яшчэ ўнутры калоціцца... Ой, як гэта страшна!

**Жыткевіч.** А, каб жа яны павыдахлі, каб яны! Во падлы ненажэрныя! Заўтра ж накладу мыш'яку на ўсіх іх дарожках! Даруйце, панечка, за такую прыгоду.

**Бладыка.** Што гэта ты, Лявонавіч, так і не вывеў іх?

**Жыткевіч.** Ды ўжо былі звяліся, каб на іх мор! А цяпер ізноў аднекуль прыгнала халера. Да свінячага карыта прынадзіліся, дык вось і гарцуюць тут, у хляве. Ну, заўтра я за іх вазьмуся. (*Бярэ вядро, хоча ісці ў хату.*)

**Бладыка** (*Жыткевічу*). Лявонавіч, ты мне патрэбен — пачакай хвілінку. Я ўжо дамовіўся з

Жардэцкім і прыйшоў прасіць цябе — трэба ў мяне пачысціць студню. Зацвіла вада. Калі ты зможаш прыйсці?

**Жыткевіч.** Толькі на тым тыдні — раней нічога не выйдзе: паеду да сына на хрэсьбіны. На тым тыдні — змагу.

**Бладыка.** Добра, значыць, дамовіліся. На тым тыдні — чакаю.

**Жыткевіч.** Пачысцім, раз трэба. *(Адыходзіць.)*

**Бладыка** *(нейкі час выпрабавальна глядзіць на Леру)*. Ну, што, пачнём з таго, што павітаемся? *(Падае Леры руку.)* Добры дзень!

**Лера.** Добры дзень.

**Бладыка.** Ну і спатканне, больш пікантнага не прыдумаеш!

**Лера.** Прабачце мне, я сапраўды так спужалася.

**Бладыка.** Дзіва што! Я і сам умлеў бы на вашым месцы.

**Лера** *(скаланаецца)*. Вы-ы-ы, як страшна!.. Ды так неспадзявана!

**Бладыка.** Ці не адпачываць вы прыехалі сюды?

**Лера** *(няўпэўнена)*. Думалі. Пабачым, як яно тут будзе.

**Бладыка.** З мужам ці адна?

**Лера.** З мужам, канешне!.. А адкуль вы ведаеце, што я замужам? Мы з вамі столькі часу не бачыліся.

**Бладыка** *(шматзначна)*. Я ўсё пра вас ведаю. *(Пасля паўзы.)* І што — у гэтым свінушніку кватэру знялі?

**Лера** *(засаромеўшыся.)* Дзе? Тут? Ды што вы!.. Мы проста на некалькі хвілін, перадыхнуць... Зараз вернецца Павел, і пойдзем далей... Мы — вандроўнікі.

**Бладыка.** А што — возера Лясное вам не да спадобы?

**Лера** *(паціскае плячыма)*. Не ведаю. Яшчэ не агледзеліся. Пабачым.

**Бладыка.** Тады я вам вось што прапаную — па старому знаёмству: пакуль агледзіцеся — можаце спыніцца ў мяне: ёсць вольны пакой. А спадабаецца — кватаруйце, колькі вам трэба. Тым больш што я цяпер адзін тут.

**Лера.** Як гэта ў вас... вольны пакой? Вы што — здымаеце цэлую хату?

**Бладыка** *(паблажліва ўсміхаючыся)*. Навошта мне яе здымаць? Я сам — гаспадар гэтай хаты.

**Лера** *(здагадваецца)*. У вас тут дача?

**Бладыка.** А вы не ведалі? Хіба я вам тады не гаварыў?

**Лера.** Не помню, можа, і гаварылі.

**Бладыка** *(упэўнена)*. Гаварыў. Але вы тады на такія бытавыя дробязі не звярталі ўвагі. Гэта — бацькава спадчына. Маці хварэе і паяўляецца тут рэдка, так што фактычна дачай распараджаюся я. Дык як — прымаеце маё запрашэнне?

**Лера.** Не ведаю, я вам шчыра дзякую... Але... гэта так нечакана. Можа, ваша сям'я будзе пярэчыць?

**Бладыка.** Я ж вам сказаў, што я цяпер адзін. Вы нікому замінаць не будзеце.

**Лера.** Дзякую, Аскольд Гаўрылавіч. Я пагавару з Паўлам і... калі вы так шчыра запрашаеце — думаю, што мы прыйдзем да вас.

**Бладыка.** Тады запомніце: проста па беразе, у тым кірунку *(паказвае рукой)*, не больш паўкіламетра. Пятая дача па парадку. Каля зялёных варот — высозная таполя стаіць. У другіх няма такой. Запомнілі?

**Лера.** Знойдзем.

**Бладыка** *(падае руку)*. Да хуткай сустрэчы! Чакаю вас.

**Лера.** Дзякую.

**Бладыка** ідзе за хату. Лера нейкі час стаіць у роздуме, потым садзіцца на калодку і глядзіць на «рэзідэнцыю». З буханкай хлеба ў авоськы вяртаецца **Павел.**

**Павел.** Прабач, Лерчык, прыйшлося пачакаць, пакуль прадаўшчыца тавары прыме. А яшчэ на пару хвілін мяне затрымаў Мікола Зайчык. Ён тут у доме адпачынку, аказваецца. І так узрадаваўся мне! Будзем разам на рыбу ездзіць. Дамовіліся, што заўтра ж ранічкай, на досвітку, і пададзімся. Пакуль ты будзеш спаць — я прывязу табе да снядання залатую рыбку. Ну, хадзем папалуднуем *(хоча ўзяць Леру за руку)*.

**Лера.** Не, не, я не пайду туды!

**Павел.** Чаму? *(Глядзіць уважліва на Леру.)* Што-небудзь здарылася?

**Лера.** Здарылася. Я ледзь не памерла.

**Павел.** Што?

**Лера.** Ад страху... Там пацукі.

**Павел.** Пацукі?

**Лера.** Пацукі. Адзін залез у бавул і выскачыў проста на мяне. Во гэткі. *(Разводзіць рукі на паўметра.)* Я была абамлела.

**Павел** *(устрывожана)*. Абамлела? І нікога блізка не было?

**Лера.** Былі... Ішоў якраз чалавек... Гаспадар вады прынёс.

**Павел** *(садзіцца на другую калодку)*. Вось гэта аказія!.. Што ж ён не ведае, што ў яго «рэзідэнцыі» пацукі водзяцца? Якога ж д'ябла ён нам прапанаваў яе!

**Лера** *(пасля паўзы)*. Нам зрабілі другую прапанову.

**Павел.** Хто?

**Лера.** Тут яшчэ адзін знаёмы аказаўся. Праўда, ты яго, відаць, не ведаеш. Бладыка, Аскольд Гаўрылавіч, супрацоўнік Міністэрства гандлю. Два гады назад мы былі разам у замежнай турыстычнай паездцы — круіз па Дунаі. Я табе, здаецца, расказвала.

**Павел.** Не помню. І што ён прапанаваў?

**Лера.** У яго тут дача. І нікога няма цяпер. Прапаноўвае вольны пакой. Хоць на суткі, сказаў, хоць на ўвесь час. Калі ласка, кажа, вы мне замінаць не будзеце.

**Павел.** Так сам і прапанаваў?

**Лера.** Ну, канешне, сам! Няўжо ж ты думаеш, што я прасілася?

**Павел.** Дзіўна. На гаспадароў дач гэта не падобна.

**Лера.** А можа, якраз і нічога дзіўнага. Проста добры чалавек — і толькі. Калі ў яго сапраўды пустуе цэлы дом — то чаму не паспачуваць нам? Хіба ты сам не зрабіў бы так для сваіх знаёмых, калі б у цябе пуставала дача, а іх чакаў начлег у кампаніі са свіннёй і з пацукамі? Замест таго каб

быць удзячным чалавеку, ты пачынаеш сумнявацца ў яго дабрыні і тым самым зневажаць яго. Не бачыўшы нават у вочы, не ведаючы яго...

**Павел.** Можа, і твая праўда... (*Памаўчаўшы.*) І што ты яму сказала? Прыняла яго запрашэнне?

**Лера.** Сказала, што пагавару з табою.

**Павел** (*усміхаючыся*). А калі я не згаджуся?

**Лера** (*усміхаючыся, але сур'ёзна*). Тады ты застанешся тут — з пацукамі, а я вяртаюся дадому. У цябе, аказваецца, зусім няма пачуцця гонару. Ты можаш дазволіць і сабе і жонцы начаваць у свінушніку.

**Павел.** Ціх-ціх-ціх-ціх!.. Толькі не засмучайся! Я прапаноўваў пайсці ў суседнюю вёску, але ты не хочаш. Што ж датычыць гонару — дык я баюся, ці не страцім мы яго больш, прыняўшы запрашэнне твайго знаёмага. Скажы, на якіх правах мы пойдзем да яго: як госці ці як кватаранты? Калі як кватаранты — я згодзен. У такім разе мы заплоцім яму, колькі належыць, і ўсё.

**Лера.** Неяк не магу ўявіць, каб ён узяў з нас грошы. Ён вырас у культурнай сям'і, інтэлігентны чалавек. Зрэшты, мы можам спыніцца ў яго толькі на два-тры дні, а там пабачым.

**Павел.** Добра. Такі варыянт я прымаю. І то — каб не сварыцца з табою. Зразумела? (*Усміхаецца Леры і цалуе яе ў шыю пад вухам.*) Не ведаю чаму, але мне вельмі не хочацца ісці да гэтага Бладыкі. Вельмі не хочацца!.. Гатоў лепш тут усю ноч пацукоў ганяць, каб цябе не палохалі!..

**Лера.** Ой, які ты смешны, Паўлік! Ну, навошта табе ганяць пацукоў, калі чалавек прапануе чысты і ўтульны пакой? Хадзем! (*Падымаецца з калодкі.*) Хадзем! Тут — недалёка. Ён гаварыў — не больш паўкіламетра. Бяры рэчы. Я ў гэту «рэзідэнцыю» больш не зайду.

**Павел** падымаецца і ідзе ў прыбудоўку.

*Заслона.*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Дача Бладыкі. На пярэднім плане — прасторны травяністы падворак. Далей, у зелені дрэў,— фасад дачы з высокім крытым і зашклёным ганкам. Злева перад домам — разгалістая яблыня, пад ёй — укапаны стол з лаўкамі. Справа — гародчык з кветкамі, каля плота — студня з высокай дашчанай стрэшкай і бліскучай металічнай корбай. Каля стала тупае **Бладыка** — засцілае, ставіць кафейнік, цукарніцу, кубкі,— збіраецца піць каву. З ганка ў лёгкім сарафане, у хатніх пантофлях выходзіць **Лера.**

**Бладыка** *(да Леры)*. Як вы чытаеце мае думкі! Я толькі збіраўся пастукацца і запрасіць вас на каву. Сябры лічаць мяне спецыялістам па гатаванню кавы. Так што прашу, калі ласка, адведаць. Ну, і ацаніць маё майстэрства.

**Лера.** Дзякую шчыра, але я... дрэнна разбіраюся ў каве, ацаніць ваша майстэрства я не здолею.

**Бладыка.** Такую каву ацэніце адразу. Не трэба асабліва і разбірацца, каб адчуць, што гэта экстраклас. Прашу да стала, прашу!

**Лера.** Прабачце, Аскольд Гаўрылавіч, але ж... у мяне клопат ёсць... Хачу да прыходу Паўла сёетое падрыхтаваць на абед,— з таго, што купіла сёння на базары...

**Бладыка.** Ды паспееце вы зрабіць абед свайму заўзятаму мовазнаўцу. *(Падыходзіць да Леры, уладна бярэ яе за локаць і вядзе да стала.)* Сядайце і пакаштуйце маёй кавы! *(Налівае ёй у кубак каву.)* Цукар сыпце па густу. Між іншым, па маіх назіраннях,— а я гэтыя два дні стараўся назіраць за вамі,— у вас не зусім правільныя ўяўленні пра абавязкі жонкі,— вядома, калі жонка — сучасная інтэлігентная жанчына, а не вясковая цётка Палуся. *(Налівае каву ў свой кубак.)* Я настолькі перакананы ў гэтым, што нават не прашу ў вас прабачэння за крытыку, хаця лічыцца, што сямейныя справы іншых крытыцы не падлягаюць і ўмешвацца ў іх нетактоўна.

**Лера.** Ад вас я гатова выслухаць і крытыку. Я не пакрыўджуся. *(Спрабуе каву.)* Сапраўды, кава смачная.

**Бладыка.** Ага! А чым больш п'еш, тым яна смач-

нейшая. (*Мякка, даверліва, з салодкай мінай.*) Вы, дарагая Лерачка, не павінны ператварацца ў домработніцу малодшага навуковага супрацоўніка Паўла Барэйкі. А такая тэндэнцыя ў вашых паводзінах заўважаецца. І калі ёй даць развіцца — то праз нейкі час вы станеце звычайнай хатняй гаспадыняй, без свайго ўласнага духоўнага жыцця, без уласнага імя і прызнання ў культурным грамадстве. Станеце гаспадарчым прыдаткам свайго мужа — на ўсё жыццё. І самі не заўважыце, як гэта здарыцца.

**Лера.** Мне здаецца, вы перабольшваеце небяспеку, Аскольд Гаўрылавіч. З чаго вы робіце такое заключэнне, з якіх назіранняў?

**Бладыка.** Хопіць толькі сённяшняга дня. З самага ранку — калі так соладка спіцца — вы ўжо адправіліся ў Альхоўку на базар па правізію — пяшком за тры кіламетры! Ну, добра, што я вас нагнаў на машыне, падвёз і назад даставіў — а то б вы туды і адтуль прамаршыравалі б шэсць кіламетраў. А дзеля чаго? Каб згатаваць абед свайму малодшаму навуковаму супрацоўніку!.. Вось і цяпер вы спяшаецеся на кухню ўсё з тым жа клопатам — замест таго каб пасядзець спакойна на беразе ці ў бяседцы, якая вам падабаецца, падыхаць азёрным або лясным паветрам... Скажыце, хіба нельга паабедаць у рэстаране, пакарыстацца паслугамі дзяржаўных кухараў? Тут жа даволі добры рэстаран, да вашага ведама.

**Лера.** Я ведаю, мы ўжо адзін раз былі там.

**Бладыка.** А-а-а... я вас разумею. На зарплаце малодшага супрацоўніка асабліва не разгонішся. Адразу ж узнікае праблема фінансава-эканамічнага характару.

**Лера.** А як жа гэтай праблемы пазбегнеш? Хіба ёсць сем'і, у якіх яна не ўзнікае зусім?

**Бладыка.** Так, гэта праблема ўзнікае для кожнага, але ўся справа ў тым, як хто яе вырашае. Адны вырашаюць з толкам, з розумам, рэалістычна, так, каб не задумвацца — ісці ў рэстаран ці не ісці, каб не падлічваць медзякі ў жмені... Ну, а другія вырашаюць яе ўсё жыццё, штодзённа і без поспеху — вырашаюць тым спосабам, што ў магазіне

выбіраюць самую танную ялавічыну і каўбасу, а на базары таргуюцца за кожны медны пятак...

**Лера**. Аскольд Гаўрылавіч, я нарадзілася і вырасла ў сям'і, дзе гэту праблему вырашалі іменна так — штодзённа і без асаблівага поспеху. Прыходзілася і выбіраць недарагое, і таргавацца за некалькі капеек. Хаця мой бацька, здаецца, і талковы, і з розумам, яго вельмі паважаюць на службе...

**Бладыка** (*прыўстае з лаўкі, бярэ ў руку кафейнік*). Дазвольце дабавіць кубачак... Дазвольце, дазвольце, не бойцеся — вам не пашкодзіць, толькі на здароўе будзе... Вы кажаце, у такой сям'і гадаваліся... Я нічога дрэннага не думаю пра вашых бацькоў. Але вы зразумейце адну рэч. У бацькоў ваша становішча цалкам залежала ад іх, вы былі несамастойным чалавекам. А цяпер? Цяпер сітуацыя рэзка перайначылася. Вы — ні ад кога не залежыце. Вы можаце самастойна распараджацца сабою, як хочаце. Сабою і ўсім, чым вас надзяліў усявышні, а ён даў вам, Лерачка, нямала. Я маю на ўвазе не толькі вашы музычныя здольнасці... (*Робіць паўзу, глядзіць на Леру вачыма чалавека, які ведае, што гаворыць, і не сумняваецца ў сваёй праваце.*) Вы мне ў машыне сказалі, што належыце да арміі музыкантаў звычайных, якіх тысячы. Можа быць... Але ў вас — у адрозненне ад тысяч жанчын-музыкантш ёсць затое нешта іншае. Усявышні, Лерачка, даў вам зайздросную прыгажосць...

**Лера** (*задаволена ўсміхаецца*). Гэта вам так здаецца, Аскольд Гаўрылавіч...

**Бладыка** (*як бы не звярнуўшы ўвагі на словы Леры*). Дык вось — як вы думаеце распарадзіцца ў жыцці гэтым божым дарам? Ці ведаеце вы, што з вашымі данымі можна законна прэтэндаваць на зусім іншае становішча, чым тое, у якім вы марнуеце сваю жаночую маладосць?..

**Лера** (*какетліва*). Відаць, я не ўмею прэтэндаваць на іншае. Мабыць, так ужо мне суджана тым самым усявышнім. У кожнага свой лёс — як каму пашанцуе.

**Бладыка**. Наіўная дзяўчка вы, і толькі! У кож-

нага свой лёс, кажаце? Але што значыць лёс? Кожны павінен сам быць гаспадаром свайго лёсу. Вы ж, на жаль, уручылі свой лёс чалавеку, які наўрад ці забяспечыць вам тое, чаго вы заслугоўваеце. Я ўважліва слухаў у машыне вашу інфармацыю пра навуковую тэму мужа, што ён даследуе і чым займаецца. Прабачце мне, але гэта не навука, а глупства. *(Іранічна-грэбліва.)* Ён збірае народныя назвы траў і кветак! Па ўсёй рэспубліцы вандруе ў пошуках нікому не патрэбнага слова: як стогадовая бабка Палуся ці яшчэ больш выкапнёвая бабка Даміцэля называе нейкую травінку ці зёлку! І так па аднаму слоўцу яму трэба назбіраць на цэлую дысертацыю! Прабачце мне, але гэта — глупства, а не сапраўдная навуковая работа! Гэта проста смешна, каб у наш век, у эпоху НТР, дарослы мужчына з вышэйшай адукацыяй займаўся такой справай.

**Лера** *(засмучаная, упалым голасам)*. Аскольд Гаўрылавіч, я і сама спрабавала смяяцца з яго навукі, але ён страшэнна крыўдзіцца і заўзята даказвае, што гэта вельмі важная і патрэбная справа. У яго нават навуковым кіраўніком нейкі вядомы вучоны, акадэмік, чэснае слова!

**Бладыка** *(іранічна)*. Акадэмік!.. Пакуль твой малодшы супрацоўнік дойдзе да акадэміка,— ды што да акадэміка, пакуль да кандыдата навук дойдзе,— дык ты станеш старой жанчынай, ты гэта можаш зразумець?!. Прабач, што ў гарачнасці я перайшоў на «ты» — само неяк перайшлося... Зрэшты, тады, на параходзе, мы былі з табою на «ты», ці не так?

**Лера.** Завіце і цяпер, калі ласка, толькі... перад Паўлам не трэба, ён можа няправільна зразумець...

**Бладыка** *(лісліва ўсміхаецца)*. Дзякую за давер, Лерачка. Мне так хочацца, каб між намі было прасцей, па-сяброўску... Дык вось, я прадоўжу свае выкладкі. Пры такой рабоце твой малодшы супрацоўнік напіша і абароніць кандыдацкую дысертацыю ў лепшым выпадку пад сорак гадоў. Ты што — таксама да сарака гадоў будзеш чакаць, пакуль ён выб'ецца ў людзі? Да сарака гадоў будзеш начаваць у хлеўчуках — з пацукамі? А ў сорак пачнеш

жыць? Калі жыццё фактычна скончыцца? Калі ад гэтай тваёй прыгажосці і следу не застанецца? Дык схамяніся ж, дарагая мая!

**Лера** *(разгублена круціць галавой)*. Вы такі шквал абрынулі на мяне, Аскольд Гаўрылавіч, і так нечакана, што я нават не ведаю, што і адказаць вам... Аж у галаве закружылася...

**Бладыка.** Чаму нечакана? Хіба ў цябе самой ніколі не ўзнікала незадаволенасць сваім становішчам, і не хацелася рашуча пратэставаць, і не марылася аб тым, каб зрабіць сваё жыццё лепшым? Не сумняваюся, што нават вельмі часта — і абуралася, і пратэставала, і марыла. Так?

**Лера.** Марыла, вядома...

**Бладыка.** Вось прызнайся шчыра, што ты думала, калі мы ехалі сёння з Альхоўкі з базару?

**Лера.** Што я думала? Усякае думала...

**Бладыка.** Саромеешся прызнацца?.. Дарэмна! Думкі твае былі зусім законныя, і саромецца іх няма чаго. Я сам табе скажу, што ты думала. У цябе ўсё было напісана на твары. Ты з зайздрасцю думала пра тых жанчын, што могуць вось гэтак — ва ўласнай камфартабельнай машыне — ездзіць і на базар, і куды хочаш кожны дзень! Вось пра што ты думала! Так?

**Лера** *(збянтэжана ўсміхаючыся)*. Не ведаю, Аскольд Гаўрылавіч, не помню... Але цяпер ужо мне здаецца, што я сапраўды думала пра гэта...

**Бладыка.** Пра гэта, Лерачка, пра гэта! І паўтараю — не трэба саромецца. Я знаю, што табе вельмі спадабалася — вяртацца з базару ў «Волзе». Дзіва што! Сядзіш сабе як чалавек, любуешся дарогай, хараством прыроды ды з пагардай глядзіш на тых няшчасных жанчын, што сунуцца абочынай пешшу, цягнучы на сабе авоські і сумкі з пакупкамі... Нават жонка вядомага паэта — бачыла? — і тая плялася наўючаная правізіяй, як вярблюдзіца. Мы яшчэ на яе чуць гразззю не пырснулі з лужыны, абганяючы... Дык скажы ты мне, дарагая мая неразумная дзевачка, чаму ты не хочаш вось гэтак жа на першакласнай машыне ездзіць кожны дзень? І на базар, і з базару, і ў любы магазін, і ў любы горад — куды толькі душа за-

жадае? Чаму не хочаш праводзіць лета на такой шыкоўнай дачы?

**Лера.** Аскольд Гаўрылавіч, як гэта вы гаворыце — не хачу! Можа, я і вельмі хачу — але што з таго? Хто гэткі добры стане мяне вазіць?

**Бладыка** (*пільна ўставіўшыся позіркам у Леру, не адразу*). Я, напрыклад... Калі ты, канешне, згодна...

**Лера** (*круціць галавой, з ледзь прыкметнай сумнай усмешкай на вуснах*). Не трэба так, Аскольд Гаўрылавіч... Не жартуйце так... А то я вазьму і паверу...

**Бладыка** (*даверліва, інтымна*). Ты думаеш, мне сёння трэба было на базар? Не. Я дзеля цябе паехаў. Пачуў выпадкова, як ты гаварыла Паўлу... Уявіў, як ты стомлена крочыш па сонцы, як у цябе млеюць рукі ад нагружаных авосек. Шкада стала...

**Лера** (*доўга глядзіць сумнымі вачыма на Бладыку*). Дзякую, Аскольд Гаўрылавіч...

**Бладыка.** А яшчэ я хацеў бы сказаць, што магу дапамагчы табе ўладкавацца на лепшую работу. Так, так! Не забывай, што я ўсё-такі чын у Міністэрстве гандлю. Твая цяперашняя пасада нічога не варта — ні вялікага хлеба з яе, ні тым больш вядомасці і славы. А што такое — музыкант без вядомасці? Нішто! Нуль без палачкі!.. Я магу памагчы табе паступіць на працу ў філармонію, у якую-небудзь музычна-вакальную групу. Гэта дасць табе не толькі добрыя грошы. З добрымі грашыма прыйдзе і ўсенародная вядомасць. Арганізуем рэкламу, афішы з тваім прозвішчам. А можа, і з партрэтам, м-м-м? (*Пераможна падміргвае.*)

**Лера** (*зноў са скептычнай усмешкай круціць галавой*). Аскольд Гаўрылавіч, такое мне можа толькі ў сне прысніцца...

**Бладыка.** Ты сумняваешся, што ўсё гэта можа стаць рэальнасцю? Дзівачка! Адзінае, што для гэтай рэальнасці трэба, гэта — твая згода. Але я даю табе час падумаць. Ўсё павінна трымацца ў нас, у культурных людзей, на ўзаемнай згодзе і

дамоўленасці. Каб пасля ніякіх нараканняў і прэтэнзій!.. Ты мяне разумееш?..

**Лера.** Разумею, Аскольд Гаўрылавіч...

**Бладыка.** Ну, вось і добра. Ну, дык як мая кава?

**Лера.** Цудоўная! Я нават не ведала, што кава можа быць такая смачная. Я ніколі раней не магла ў ёй дабраць смаку і ўсё дзівілася, што ў ёй такое знаходзяць...

**Бладыка.** Кава, Лерачка, гэта — напітак для душэўнай сяброўскай размовы. Толькі за такою размовай і можна адчуць яе сапраўдны смак. Раз ты яго адчула — значыць, у нас з табою была шчырая сяброўская размова. Так?

**Лера** (*трохі гулліва ўсміхаючыся*). Мабыць, так...

**Бладыка.** Ну, а наогул — табе падабаецца тут, на маёй дачы?

**Лера.** Што вы пытаеце... Тут і пытацца не трэба.

**Бладыка.** Вось і цудоўна. Табе падабаецца, і мне вельмі прыемна, што хоць нейкую радасць магу зрабіць для цябе...

**Лера.** Я вам вельмі ўдзячна, Аскольд Гаўрылавіч. Толькі вельмі прашу вас — сёння ж вазьміце ў Паўла грошы.

**Бладыка.** Лера!.. І табе не сорамна прапаноўваць мне за дачу грошы? Хіба я на такіх умовах вас запрашаў?

**Лера.** Аскольд Гаўрылавіч, выслухайце мяне... Калі вам сапраўды прыемна... (*апускаючы ўніз вочы*), калі вы хочаце, каб мы тут былі — сёння ж вазьміце ад Паўла грошы. Ён згадзіўся сюды пайсці толькі на такой умове. Іначай заўтра ж мы развітаемся з вамі. Сур'ёзна! Вы проста не ведаеце Паўла...

**Бладыка.** Ну, калі ўжо гэтак сур'ёзна — тады няхай будзе па-твойму. Ладна: мы за тыя грошы наладзім тут агульную вечарынку. І не толькі з кавай, разумеецца. (*Глянуў убок, кагосьці згледзеў.*) Здаецца, сябра мой ідзе, Алік, яго капялюш мільгануўся.

**Лера** (*падхапіўшыся*). То я пайду, не буду замінаць вам...

**Бладыка.** Ды пачакай хвілінку — пазнаёмлю. Гэта вельмі інтэлігентны джэнтльмен.

Заходзіць **Алік** — усходняга тыпу малады брунет, з каротка падстрыжанымі вусікамі, у лёгкім летнім капелюшы, у франтаватым светлым гарнітуры.

**Алік.** Мір дому гэтаму! *(Да Леры.)* Маё шанаванне, сеньёра!

**Лера.** Добры дзень!

**Бладыка.** Прывітанне, Аляксандр Іванавіч. Прашу пазнаёміцца — мая госця, а фактычна цяпер і гаспадыня гэтай халасцяцкай вілы, Валерыя Змітраўна. Таленавітая піяністка, будучая зорка нашай філармоніі.

Алік падыходзіць да Леры і галантна цмокае ў руку.

**Алік.** У такой цудоўнай віле толькі і можа быць такая цудоўная гаспадыня.

**Лера** *(збянтэжана ўсміхаючыся)*. Прабачце, я не гаспадыня... Аскольд Гаўрылавіч жартуе...

**Алік.** Нашто адмаўляецеся? Дарэмна адмаўляецеся! Вам што — не падабаецца гэтая віла? Ці вам не падабаецца тытул гаспадыні?

**Лера.** Справа не ў тым, ці падабаецца... Проста я не маю падстаў... Я тут апынулася выпадкам...

**Алік** *(перабівае)*. О, гэта легендарная сціпласць беларускіх жанчын! Калі б у маім горадзе жыла такая каралева — яна была б гаспадыняй самай багатай вілы на беразе нашага беспадобнага заліва.

**Бладыка.** Вельмі добра гаворыш, дарагі мой друг! Сапраўды, нашы жанчыны часам не ведаюць сабе цаны і ўсё жыццё празябаюць у невядомасці, трацячы свае каралеўскія вартасці недастойным чынам...

**Лера** *(да Аліка — каб перамяніць тэму гаворкі)*. Прабачце, а дзе гэты ваш горад знаходзіцца, на якім моры?

**Алік.** На беразе самага прыгожага ў свеце мора. Нават у песні пацверджана. *(Пяе.)* «Самае сіняе ў свеце — Чорнае мора маё». Там мой горад — на Чарнаморскім узбярэжжы. Прыязджайце — я буду шчаслівы бачыць вас госцяй маёй вілы.

Яна чуць-чуць, трошачку лепшая за гэту *(з прыязнай усмешкай паварочваецца да Бладыкі)* — пардон за шчырасць, дарагі брат мой!

**Бладыка.** Катэгарычна не згодзен! Але — не будзем спрачацца. Дадзім магчымасць і папросім быць суддзёй Леру. Няхай яна вырашыць і скажа, чыя віла лепшая.

**Алік.** Выдатная прапанова, дарагі брат мой! *(Да Леры.)* Цяпер слова за вамі. Прашу прыехаць у госці і пагаспадарыць на маёй віле.

**Лера.** Дзякую, Аляксандр Іванавіч. Шчыра дзякую...

**Алік.** Навошта дзякую?.. Не трэба дзякую! Трэба прыехаць і паглядзець, пажыць у нас. Спадабаецца — прыязджайце кожнае лета. Жывіце! Дыхайце! Купайцеся! Загарайце! Лепшыя ў свеце марскія і сонечныя ванны — вашы! Кладу руку на сэрца — вы будзеце задаволены. Спытайце Аскольда, брата майго дарагога,— ён быў там. Цяпер я хачу, каб і вы пабывалі. Як гаворыць наша ўсходняя мудрасць: сябры маіх сяброў — мае сябры!

**Лера.** Дзякую, Аляксандр Іванавіч. Можа, калі-небудзь і скарыстаем ваша запрашэнне. Праўда, Паўлу больш падабаецца праводзіць лета ў Беларусі, ён любіць вандраваць тут, па сваёй зямлі...

**Алік.** Па якой сваёй зямлі? Што за перажыткі? Дзе жывуць сябры — там і свая зямля! Угаварыце супруга! Не магу ўявіць мужчыну, які б вас не паслухаў. Заявіце яму сваё жаданне — і толькі!

**Лера** *(усміхаючыся)*. Пастараюся... Можа, і ўгавару... Ну, а цяпер прабачце мне — я маю там сякі-такі клопат...

**Бладыка.** Калі ласка, Лерачка. А твой акадэмік скора прыйдзе?

**Лера** *(глянула на гадзіннік)*. Вось-вось павінен быць. Абяцаў — не пазней дванаццаці.

**Бладыка.** У мяне ўзнікла ідэя — схадзіць усім нам разам у рэстаран паабедаць. Аляксандр Іванавіч, ты з мужам і я. Запрашаю і частую я, разумеецца. Як ты глядзіш на гэта?

**Лера** *(круціць галавой, працяжна)*. О-о, не ведаю... Я асабіста не супраць, але што скажа на гэта Павел — не ведаю...

**Бладыка.** Ну, што ж, пачакаем твайго вучонага мужа.

**Лера** ківае галавой на развітанне і ідзе ў хату.

**Алік** *(падсеўшы бліжэй да Бладыкі)*. Што за птаха?

**Бладыка** *(хітра ўсміхаецца)*. Сам бачыш, друг мой.

**Алік.** Бачу. І што — можа быць поспех?

**Бладыка.** На гэты раз — кроў з носа!

**Алік.** Чаму — на гэты раз!

**Бладыка.** Таму што аднойчы яна ўжо ад мяне выслізнула. Выказала мне непавагу. А я гэтага не люблю, як ты ведаеш. *(Цынічна смяецца.)*

**Алік.** Калі і дзе?

**Бладыка.** Два гады назад мы былі разам у круізе па Дунаі. Яна была яшчэ незамужняя. Два тыдні я змарнаваў тады на пустыя заляцанні. Корчыла з сябе такую незачэпу, што куды там! А пасля круіза нават не захацела спаткацца. Сказала па тэлефоне — няма сэнсу. І вось — лёс пайшоў мне насустрач: ёй давялося прыняць маё запрашэнне і стаць маёй кватаранткай.

**Алік.** Калі я правільна зразумеў — яна тут разам з мужам?

**Бладыка.** Іменна! Яна ўжо больш года замужам. І, здаецца, за гэты час прыкметна паразумнела. Ва ўсякім разе, ужо не здаецца мне такой упартай і недаступнай. Цяпер перамога прынясе мне яшчэ большае задавальненне.

**Алік.** А што такое — ён? Што за фрукт?

**Бладыка.** Ён? Калі выразіцца па-кніжнаму — ідэаліст-рамантык, а калі сказаць прасцей — дурань. Для нас з табою ён — дурань, і толькі. *(Іранічна ўсміхаючыся.)* З тых, што вераць у справядлівасць, у ідэалы, у лозунгі.

**Алік.** А з чаго жыве?

**Бладыка.** Малодшы навуковы супрацоўнік Акадэміі. Восемдзесят чыстых штомесяц кладзе — як лёду. *(Пагардліва ўхмыляецца.)*

**Алік.** І за такія медзякі трымаецца гэта апетытная малодка?

**Бладыка.** Трымаецца — пакуль зусім не пара-

зумнее. Хачу сёння зрабіць яшчэ адзін абходны манеўр: уразіць — усё тым жа спосабам кантрасту — у рэстаране. Каб у яе вочкі акругліліся ад здзіўлення, як я буду пагардліва выкідваць на стол чырвонцы. Думаю закаціць такі абед, каб — на ўсю месячную зарплату яе «акадэміка». А тады паглядзім, якой яна мовай будзе гаварыць са мною. Спадзяюся, ты прыйшоў у ажуры?

**Алік.** Якія могуць быць сумненні? Мае людзі не падводзілі мяне ніколі. «Волга» ўчора ж пакацілася да Чорнага мора. З варот магазіна — адразу ж — узяла кірунак на поўдзень. Твае людзі атрымалі ўсё дакладна, як і дамаўляліся. *(Лезе ў кішэнь, вымае загорнуты ў паперу пачак грошай, падае Бладыку.)* А гэта — твая доля. Тры тысячы. Прашу пералічыць, не адыходзячы ад касы.

**Бладыка** *(бярэ пачак)*. Абавязкова! Толькі прашу самую «касу» прайсці за мною — тут лічыць такія грошы непажадана: можа раптам сведка заявіцца. Прашу! *(Жэстам паказвае Аліку на дзверы ў дом.)*

**Бладыка** і **Алік** ідуць у дом.

*Заслона.*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Дэкарацыя карціны другой. З дачы выходзяць **Павел** і **Лера.** Ён — у гумавых рыбацкіх ботах, на галаве — саламяны брыль; у руцэ — спінінг; яна — яшчэ заспаная — у хатнім халаце.

**Павел** *(бярэ каля ганка вядро, глянуў на гадзіннік)*. Мікола ўжо, відаць, чакае мяне. Пабягу... *(Да Леры, усміхаючыся.)* Што злавіць? Які будзе заказ?

**Лера** *(пазяхаючы)*. Што мне трэба, ты таго не зловіш. Як і ў сваёй навуцы, так і тут — ты ловіш адну драбязу. Там паўдня ходзіш дзеля аднаго слоўца, а тут — паўдня тырчыш на возеры дзеля аднаго ярша.

**Павел** (*раптам спахмурнеўшы*). Лера!.. Я столькі табе тлумачыў, што мая навука — не драбяза, а ты ўсё сваё... Ты стала кожны дзень папікаць мяне маёй навукай. Што з табой?

**Лера** (*зноў пазяхаючы*). Ідзі, Паўлік, а то і няшчаснага ярша не прынясеш. Нават кату паласавацца не будзе.

**Павел.** Ты кажаш — дзеля аднаго слоўца. Але якога слоўца? Слоўца ж залатое! Чыстае золата душы народнай! Вышэйшай пробы!.. (*Невялікая паўза. Сумна-іранічна заўсміхаўшыся.*) Ну, рыбка — згодзен, пакуль што — дробная і не залатая. Але ж ты ведаеш казку: хто надта прагне займець залатую рыбку — той застаецца ўрэшце каля разбітага карыта...

**Лера.** Добра, Павел, мне зябкавата стаяць тут...

**Павел.** Прабач. Ідзі дасыпай. Ты дарэмна паднялася. Мне шкада, што я не змог вышмыгнуць употайкі, каб ты не пачула.

**Лера.** Якое — «дасыпай»! Трэба ж ізноў на базар цягнуцца.

**Павел.** Паспееш пазней, базар нідзе не дзенецца... (*Панізіўшы голас.*) Між іншым, вельмі прашу цябе: не карыстайся аўтапаслугамі Бладыкі. Не трэба. Сваімі паслугамі ён прыніжае нас. Няўжо ты гэтага не разумееш?

**Лера** (*злуючыся*). О, божа мой! У цябе ўсё навыварат!.. Чалавек прапанаваў жыць у яго на дачы — ты быў скрывіўся, бо цябе гэта прыніжае! Прапаноўвае падвезці на сваёй машыне — цябе гэта зноў прыніжае! Табе лепей, каб я цягнулася, як наўючаная вярблюдзіца, па пыльнай дарозе? Чаму цябе не прыніжае, што я валаку на сабе з базару пакупкі?

**Павел** (*падступае бліжэй, ласкава кранае за плячо*). Ціх-ціх-ціх-ціх, толькі не злавацца. Толькі не крыўдавацц! Ты во зусім не падумаўшы сказала — а я ж не злуюся.

**Лера.** Чаму — не падумаўшы? Падумаўшы. Я больш думаю, чым табе здаецца.

**Павел.** Падумаўшы?.. Тады гэта кепска. Ты ж ведаеш, што да ўласнай машыны нам яшчэ далёка. Навошта ж папракаць мяне?.. Зрэшты — не

ідзі на базар зусім — абыдземся. Паабедаем у рэстаране.

**Лера.** Сам не думаючы гаворыш. Калі мы будзем абедаць у рэстаране — праз тыдзень застанёмся без капейкі. Не з нашымі фінансамі хадзіць па рэстаранах.

**Павел** *(засмучаны, стараецца ўсміхнуцца).* Вось... што з табой бывае, калі ты недаспіш. Ідзі — дабяры яшчэ пару гадзінак, ну? Дабяры сваё, калі ласка. *(Прыхінае да сябе і цалуе ў шчаку.)* І няхай табе прысніцца залатая рыбка!.. Да хуткай сустрэчы! *(Адыходзіць.)*

**Лера** *(спакойна).* Шчасліва.

**Павел** знікае за вуглом дачы. Лера застаецца стаяць ля ганка. Пацягваецца, пазяхае, аглядае падворак. Не бачыць, як з дому ціхенька, на дыбачках, выходзіць у піжаме **Бладыка,** становіцца зусім блізка ў яе за спіною.

**Бладыка** *(гуллівa, упаўголаса).* З добрым ранкам!

Лера паварочваецца, не паспявае нічога адказаць, як Бладыка хапае яе ў абдымкі і цалуе.

**Лера** *(спалохана, вырываючыся).* Здурнеў ты!.. Ён жа можа вярнуцца і ўбачыць! Пусці!.. Чуеш?..

**Бладыка** *(не выпускаючы з абдымкаў).* Не ўбачыць! Пашнураваў узмежкам да возера. Па залатую рыбку! *(Зноў намагаецца пацалаваць Леру.)*

У гэты час на падворак заходзіць, несучы ў руках доўгую драбіну, **Жыткевіч.** Бачыць незвычайную сцэну і замірае.

**Жыткевіч** *(кашлянуўшы).* Добры дзень вам!

**Лера** ўскрыкнула і вопрамеццю кінулася ў дом. Бладыка застаўся каля ганка.

**Бладыка** *(хутка аправіўшыся).* А-а-а, прывітанне, Адам Лявонавіч, прывітанне!

**Жыткевіч** *(падыходзячы бліжэй).* І ў вас, я гляджу, пацукі завяліся?

**Бладыка** *(здзіўлена).* У мяне — пацукі? Дзе ты іх бачыў?

**Жыткевіч** *(спыніўся, абапёр драбіну на плячо).* Ды я, гэта, гляджу, што зноў пані ў вас на грудзях самлела... дык я, гэта, думаю, мусіць, і тут пацукі напалохалі...

**Бладыка** *(гучна зарагатаў)*. Што табе здалося, Адам Лявонавіч? Ты, відаць, яшчэ не зусім прачнуўся?

**Жыткевіч.** Але во хітрыя, падлы!.. Зразумелі, што я наклаў клёцак з атрутай, дык ад мяне да вас перабеглі.

**Бладыка** *(смеючыся)*. Хітрыя, заразы!.. Але я думаю, мы з табой перахітрым іх, га? *(З намёкам паглядзеў на Жыткевіча.)*

**Жыткевіч.** Папросіце добра — дык я і ў вас клёцак з атрутай накідаю.

**Бладыка** *(з намёкам)*. Буду прасіць. Ты ж сам разумееш, што пацукі мне тут не патрэбны. Яшчэ дойдзе да людзей — смяяцца будуць, што на такой шыкоўнай дачы жыву з пацукамі... *(Сур'ёзна.)* А што ж ты адзін? Дзе Жардэцкі?

**Жыткевіч.** Рамантуе почапку ў вядры, зараз прыйдзе. Толькі сёння агледзеўся, што почапка слаба трымаецца, можа адарвацца вядро з граззю ды па галаве таму, хто будзе на дне студні...

**Бладыка.** Правер усё як мае быць сам. Табе ж не ўпершыню займацца гэтым... Слухай, Адам Лявонавіч, а як мы дамовіліся наконт разліку: колькі я сказаў заплачу за ачыстку студні?

**Жыткевіч** *(не здагадваючыся, навошта той пытае)*. Дваццаць пяць цалковых на дваіх!

**Бладыка.** Ага, ну, правільна... Дык вось, Адам Лявонавіч, я рашыў табе асабіста як начальніку ачысткі, як прарабу, чырвонца накінуць. Разумеецца, свайму напарніку ты не кажы аб гэтым... Ну, і пра пацукоў таксама...

**Жыткевіч.** Не, Аскол Гаўрылавіч, я, гэта, употайкі ад Юстына, не магу... Рабіць будзем разам, дык хай і за работу пароўну будзе. Колькі мне, столькі і яму. Так што, калі вы набавіце чырвонца,— мы яго падзелім... А наконт пацукоў... Які мне клопат, ці пані ў вас на грудзях самлела, ці яшчэ ў каго...

З вялікім старым вядром у руках паяўляецца **Жардэцкі.**

**Жардэцкі.** Добрай раніцы!.. І гаспадар на нагах ужо? *(Да Жыткевіча.)* Ці не ты ўспароў?

**Бладыка.** Прывітанне, Юстын Антонавіч! А што ты здзіўляешся, што я на нагах? Хіба гэта рана?

**Жардэцкі.** Для вас, па-мойму, рана. Гэта мы яшчэ з малых гадоў прывыклі ўздзірацца разам з сонцам. А вам — чаго?.. Некалі нябожчыца-маці, помню, усё любіла гаварыць нам: позняя птушачка вочкі трэ, а ранняя — ужо дзюбку чысціць... Вам можна, як той позняй птушачцы, і не спяшацца.

**Бладыка.** Ну-у-у, Юстын Антонавіч, ты так пра мяне не думай. Я такі ж працоўны чалавек, як і ты, як і Адам Лявонавіч, толькі ў кожнага свая праца, свой клопат. І падымаюся я, да твайго ведама, заўсёды рана. Твая маці гаварыла табе пра птушачак, а мая — яна таксама была з вясковай, сялянскай сям'і — гэтую ж ісціну ўнушала мне другой прыказкай: хто рана ўстае, таму бог дае. Так што гэту мудрасць і я ведаю...

**Жыткевіч** *(да Жардэцкага)*. Ты во лепш парадуйся ды скажы дзякуй чалавеку: Аскол Гаўрылавіч накінуў нам за работу чырвонца.

**Жардэцкі** *(ажыўлена)*. Накінуў? Ты глянь, як мае думкі акурат богу ў вушка папалі! Я ж ішоў і толькі пра адно думаў: як бы гэта спагнаць з гаспадара яшчэ хоць чырвончыка! Страшная ж работа!

**Бладыка** *(Жардэцкаму)*. Так, я рашыў дзесятку накінуць. У мяне, канешне, лішніх дзесятак няма, і лёгка яны мне не даюцца, але... Я спадзяюся, што ў такім разе вы пастараецеся зрабіць як мага лепш.

**Жардэцкі.** Гэ-э, можаце не сумнявацца, Аскол Гаўрылавіч! Гэта — само сабой!..

**Бладыка.** Ну, тады за работу! Жадаю вам поспеху. А мне трэба на базар падскочыць.

**Бладыка** ідзе ў дом. Жыткевіч з драбінай і Жардэцкі з вядром падыходзяць да студні.

**Жыткевіч** *(абапёр драбіну канцом на плот гародчыка)*. Пачнём з перакуру. Спяшацца нам няма куды. *(Дастае з кішэні пінжака папяросы і запалкі.)*

**Жардэцкі.** Буду я спяшацца!.. Дзякаваць богу, дажылі жыцця, што спяшацца не трэба. Досыць

усе маладыя гады душыліся работай, усё хапалі, спяшаліся, каб паспець, каб управіцца... (*Садзіцца на лаўку, на якую ставяць, наліваючы ваду, вёдры.*) А цяпер — дзякаваць богу! Можна пажыць і не спяшаючыся.

**Жыткевіч** (*дае Жардэцкаму папяросу і прысаджваецца на край драбіны*). А хто дзе цяпер надта душыцца работай? Думаеш, толькі ты паразумнеў? Гэ-э, брат!.. Во, каб далёка не хадзіць — наш Аскол. Можа, думаеш, ён на сваёй службе вельмі на пуп бярэ? Ні халеры ён не бярэ! А бачыш, як раскашуецца? І дача, як звон, і свая машына, як цацачка, і чырвонцаў, як гразі... (*Убачыўшы, што з ганка выходзяць Бладыка і Лера.*) Трэба асцярожна гэту стрэшку здымаць (*ківае на студню*), каб не развалілася, яна ўжо гнілаватая...

**Бладыка** і **Лера** праходзяць міма. Лера кідае Жыткевічу і Жардэцкаму «добры дзень». Тыя адказваюць.

**Жардэцкі** (*правёўшы позіркам Бладыку з Лерай*). Разваліцца — будзем яшчэ мець хаўтурку: папросіць зрабіць новую.

**Жыткевіч.** Не хачу больш ад яго хаўтуркі. Шкадую, што і на гэту пайшоў.

**Жардэцкі.** Нечым недагадзіў?

**Жыткевіч.** Ды не! Проста так. Шалахвост ён. Бацька быў чалавек што трэба. А сын — крутадух нейкі.

**Жардэцкі.** Табе не здаецца, што ён падбівае кліны да гэнай маладзіцы? Я ўжо разы тры бачыў іх разам на базары. Сёння зноў павёз.

**Жыткевіч.** Не ведаю. У яго кожны тыдзень тут новая дзевуля — ці з дома адпачынку, ці з турбазы. А то і па дзве на тыдзень. Дык што за дзіва, калі ён задумаў і гэту абкруціць?

**Жардэцкі.** І што гэта пачало на свеце рабіцца, скажы ты мне? Толькі кругом і чуеш: гэны выракся сваёй і знюхаўся з тою, тая кінула свайго і прынадзіла да сябе гэнага... Суцэльныя шпацэры! Я разоў колькі назіраў, як тут круцяць любоў гэтыя, што ў санаторыі. Проста кіно! Асабліва як развітваюцца, на ад'езд. І смешна, і пляваць хочацца. Адна, помню, дык, ну ўжо напэўна ўну-

каў мае — і згарбелая, і аблезлая, і ўся шыя — як тая трубка ў процівагазе,— а так закахалася ў нейкага залатазубага здараўца, што на развітанні, каля аўтобуса, уся слязьмі сышла. Слімбѐрыла і слімбѐрыла — некалькі насовак змачыла. І ўсё прасіла: «Пішы, мой мілы, пішы мне — буду чакаць прывета, як салавей лета...» Каб табе чорт скуру спісаў, мая ты кабеціна!..

З-за вугла дома выйшаў са спінінгам і вядром у руках **Павел.** Убачыўшы Жыткевіча і Жардэцкага, накіраваўся да іх.

**Павел** *(падыходзячы).* Добры дзень! *(Падае руку аднаму і другому).*

Жыткевіч і Жардэцкі адказваюць на прывітанне.

**Жыткевіч.** Ужо з возера? Ці яшчэ туды?

**Павел.** З возера. Не пашанцавала сёння. Рыбалка ляснула.

**Жыткевіч.** А што такое?

**Павел.** Пацякла лодка. Дый здорава. Спачатку думалі — так сабе, трохі сочыцца — няхай. А тады бачым, што трэба вяртацца.

**Жыткевіч.** А чыя лодка? У каго вы бралі?

**Павел.** Ды я нават і не ведаю. Гэта мой знаёмы Мікола Зайчык браў. Гаспадар такі нізенькі, з пісклявым голасам. Здаецца, Васілём зваць.

**Жардэцкі.** А-а, у Бахмэта бралі!.. Дык якая ж у яго лодка! Яна ж уся на дзірках. Яе ўжо даўно спісаць трэба.

**Жыткевіч.** На Бахмэтавай лодцы вы рыбы не наловіце. Гэна яго лодка — як мая доля: нічога не варта. Яна яшчэ і новая працякала.

**Павел.** Ну, я ж не ведаў. Зайчык раней у кагосьці іншага браў, але да таго нібыта прыехаў сын-рыбак, дык ён дамовіўся з гэтым, з Васілём... *(Да Жыткевіча.)* А чаго гэта вы так на сваю долю наракаеце — што яна ў вас, як тая Бахмэтава лодка?..

**Жыткевіч.** Бо так і ёсць, што і мая доля гэткая ж дзіравая. Усё жыццё ні плыву і ні тону. А так — адно вычэрпваю ды вычэрпваю, а яна ўсё цячэ і цячэ... У маладосці — ого на што разлічваў, якія планы складаў сабе! І галава нібыта была,

а людзі кажуць, што нават і нейкія здольнасці меў... І ўсё намарна. Напачатку — пілсудчыкі не далі разгону, панавалі тут і асаджвалі на месца любога, хто з мужыкоў хацеў вышэй узляцець. А пасля ўжо і можна было, ды сам здураваў, сам здаўся на волю лёсу. Сілёнкі ў душы не хапіла. (*Да Паўла.*) От вы, я чуў, навукай займаецеся? У акадэміі працуеце?

**Павел.** Працую... (*Заўсміхаўшыся.*) Таксама — планы вялікія маю, а што атрымаецца — не ведаю.

**Жыткевіч.** А што гэта ў вас за такая навука дзіўная, што вы ўсё па старых людзях ходзіце ды пра розныя зёлкі-травы пытаеце? Нашто гэта вам?

**Павел.** Нашто?.. Цяжкавата мне будзе вам растлумачыць, але — паспрабую.

**Жардэцкі** (*падымаецца, уступаючы месца Паўлу*). Прысядзьце, у нагах праўды няма, а я ўжо насядзеўся...

**Павел.** Дзякую... Але я пастаю — не турбуйцеся.

**Жардэцкі.** Зрэшты, мы можам тут і ўдвух памесціцца...

**Павел.** Не, не, я садзіцца не буду. Сядайце, прашу вас... Навука мая людзям недасведчаным можа, на першы погляд, сапраўды здацца крыху дзіўнай і нават непаважнай. Але гэта — толькі на першы погляд. Я збіраю народныя назвы траў, розных лугавых, палявых і лясных зёлак, нават садовых кветак і вазонаў. У кожнай мясцовасці — яны, гэтыя назвы, розныя, людзі называюць травы і зёлкі па-свойму, і таму гэтых назваў — калі сабраць разам, з усяго нашага краю — вельмі-вельмі многа. Можа, некалькі тысяч! А ведаем мы іх зусім мала. Вы, напрыклад, ведаеце толькі назвы са сваёй мясцовасці, як тут, у вас, называюць, ды і то не ўсе.

**Жыткевіч.** Якое там «усе»! Што я ведаю!.. Можа, мая Анця яшчэ трохі і помніць, а я ўжо ўсе гэтыя назвы пазабываў. Калісьці малы, кароў у поле ганяючы, таксама нямала ведаў, а цяпер!.. Тады ж іх збіралі, гэтыя краскі-зёлкі, то на лекі, то на корм жывёле, а то — моладзь, дзяўчаты на

вяночкі рвалі... Дык тады і ведалі! А хто ж іх цяпер збірае? Яшчэ адна старая Шушута ў нас хіба што на лекі рве іх!..

**Жардэцкі.** Гэна яшчэ збірае! У гэнай заўсёды, круглы год, усякіх сушаных зёлак — ад любой хваробы. *(Да Паўла.)* Вам трэба абавязкова да яе зайсці, да Шушуты.

**Павел.** Да Шушуты — гэта да Ганны Алісіёнак, што на самым канцы жыве?

**Жардэцкі.** Ну-ну! Толькі яе ніхто ў нас па імені не заве — Шушута і Шушута.

**Павел.** У Ганны Паўлаўны я ўжо быў, о так, яна мне многа памагла, дзесяткі тры назваў запісаў ад яе. Цяпер я хаджу па навакольных вёсках — і яшчэ сёе-тое знаходжу... Ну, дык вось: кожную травінку-былінку, зёлку-краску людзі ахрысцілі пэўным імем, і не проста абы-як, а каб гэта імя-назва адпавядала сутнасці, нейкай характэрнай асаблівасці расліны. Падбіралі імя ці паводле знешняй формы — па падабенству да якога-небудзь прадмета, жывёліны, птушкі; ці па пэўнай уласцівасці, па прыгоднасці да выкарыстання; ці паводле таго месца, дзе гэтая зёлка расце; ці паводле часу, калі зацвітае. Я прывяду вам некалькі прыкладаў. Скажам, зёлка, якая ў вашай мясцовасці завецца глухі або дзікі цыкорый. Ведаеце такую?

**Жыткевіч.** Гэта — высокая, з жоўтымі кветкамі, як у табакі? У лесе расце?

**Павел.** Так, так, у лесе, і з жоўтымі, як у табакі, кветкамі.

**Жардэцкі.** Шушута надоечы несла гэтага дабра дадому цэлую торбу.

**Павел.** Дык вось у гэтай зёлкі вельмі многа імён. Мною пакуль што зафіксаваны пятнаццаць, але, безумоўна, гэта далёка не ўсе, я яшчэ не ўсю Беларусь аблазіў. Апрача дзікі або глухі цыкорый, гэту зёлку яшчэ называюць так: лясная табака, жаўтакруг, грыбкі, куннік, розга, угаднік, палятуха, мядовік, перастрэл, стрэльнік, пухоўка, су́мнік, блошнік. Бачыце, колькі яркіх, цікавых, арыгінальных слоў-назваў! Толькі ў адной зёлкі! І кожная назва патрабуе адказу на пытанне: а чаму так

называецца? Чаму — перастрэл ці стрэльнік? Чаму — сумнік? Чаму — угаднік? Чаму — куннік? Чаму — палятуха? Або, напрыклад, ёсць такая трава — «кашачыя лапкі». Дык яе ў Беларусі называюць яшчэ так: коце-лапкі, кошачкі, аўдўлькі, грыжная трава, грызнік, скочыкі, стакратка, сухапут, магільнік, мёртвае зелле — я запісаў ужо больш дзесяці назваў. І зноў жа ўзнікае пытанне: а чаму — грызнік? Чаму — скочыкі? Чаму — стакратка? Чаму мёртвае зелле? Хіба чалавеку гэта ведаць не цікава? Хіба нам не цікава ведаць, якія травы, краскі-зёлкі вырастаюць з роднага долу, упрыгожваюць нашу дарагую, утульную і мілую зямлю і тым самым упрыгожваюць наша жыццё? Расліны — адвечныя сябры людзей, без іх нам было б проста немагчыма жыць. Але калі яны нашы сябры — дык жа сорамна не ведаць, як сяброў завуць. І чаму завуць менавіта так? А кожная назва — паўтараю — невыпадковая, яна не з неба бралася, а давалася, так сказаць, па заслугах, і давалася чалавекам разумным, назіральным, надзеленым паэтычнай фантазіяй. Таму гэтыя назвы, як вы маглі толькі што пераканацца — вельмі трапныя, дакладныя, прыгожыя, за іншай з іх — стаіць пэўная гісторыя, паданне, легенда! А ў цэлым — у гэтых назвах адлюстраваны многія асаблівасці жыцця і быту народа. Пра паходжанне адной назвы нават песня складзена — о так, яшчэ шмат стагоддзяў назад складзена цудоўная песня-балада, якая гучыць у народзе і да гэтага часу. Гэта песня пра брата і сястру, якіх няшчасная доля разлучыла яшчэ ў маленстве, а праз многа гадоў яны спаткаліся і — абое прыгожыя, маладыя — моцна пакахалі адно другога. І, можа, дайшло б нават да граху, ды, на шчасце сваё, яны разгаварыліся і з жахам для сябе высветлілі — што абое родам з адной і той жа мясцовасці і што ў іх адзін і той жа бацька... Страшна сорамна стала ім за сваё каханне, за свае грахоўныя пачуцці, і тады сказала сястра брату:

Пойдзем, братка, ў поле,
Рассеемся абое.
З цябе будзе сіні цвет,

З мяне будзе жоўты цвет.
Будуць людзі краскі рваць —
Нас з табой успамінаць:
Гэта ж тая травіца,
Што братка і сястрыца.

Брат і сястра — так і цяпер называюцца гэтыя дробныя красачкі, што цвітуць у два колеры — сінім і жоўтым. Іх яшчэ называюць браткі, дзень і ноч, сачноўка, чмельнік, мядунка, быкоўнік.

**Жардэцкі.** Як гэта даўней было, дык хоць яны разгаварыліся, гэныя хлопец і дзяўчына. А каб цяпер — дык бы так і пайшло! Спачатку б награшылі, а тады б пачалі пытацца адзін другога, адкуль ты родам і хто твой бацька...

**Жыткевіч** *(да Жардэцкага)*. Што ты пляскаеш языком недарэчы? Чалавек дзела расказвае, а ты перабіваеш!..

**Жардэцкі** *(тонам апраўдання)*. Як гэта недарэчы? Я ж пра тое, што і чалавек гаворыць!.. Ну, перапрашаю, калі перабіў...

**Павел.** Нічога, нічога, гэта сапраўды дарэчы. І вы мяне не перабілі. Я прадоўжу сваё растлумачэнне... Значыць, назвы траў і красак — гэта, калі хочаце, частка народнай мудрасці, народнай паэзіі, тое, што створана душой і розумам многіх пакаленняў людзей, нашых з вамі продкаў, нашых дзядоў і прадзедаў. І само сабой зразумела — гэта частка нашай роднай мовы, бо мова — цягам доўгіх стагоддзяў — складвалася па слоўцу, яна прарастала тут, на гэтай зямлі, па каліўцу, па зернятку, жыла разам з намі і разам з усім гэтым стракатым і гаманкім светам, што нас акружае. У кніжачцы аднаго нашага паэта я калісьці прачытаў такія радкі *(натхнёна і выразна дэкламуе)*:

Тут, між гэтых пагоркаў, у гэтых лясах і дубровах,
Каля гэтых азёраў і рэк, каля гэтых крыніц,
Узышла і ўзрасла на вякі наша родная мова —
І ніякай інакшай яе немагчыма ўявіць!

Кожным гукам і словам — па каліўцу — тут прарастала,
Разам з кожнай травінкай і зёлкай — найменнямі іх.
Што ж за дзіва, што нашай душой неўміручаю стала?
Мы ж і самі ўзышлі і ўзраслі — тут, з глыбінь векавых!

Іменна так — кожным гукам і словам, па ка-

ліўцу, прарастала. Разам з кожнай травінкай і зёлкай, чые назвы я збіраю. Услухайцеся толькі, як цудоўна гэтыя назвы гучаць. Я нагадаю ўсяго некалькі. *(Вымаўляе назвы эмацыянальна, смакуючы і любуючыся, захапляючыся і паўтараючы некаторыя словы двойчы — як бы запрашаючы сваіх слухачоў глыбей і паўней спасцігнуць іх асаблівы, незвычайны сэнс і хараство.)* Зверабой, ваўкабой, чартагрыз, пчалалюб, чарвяточнік! Або: серпарэз, свярбігуз, сухалом, касталом, галавалом, крывапуск, зубашчок, марыморд, балігалоў, крываўнік. Або такія: сухаягаднік, сямітычнік, залатахвост, каменеломнік, зімазялён, белаквет, жаўтажылле. Або такога ўзору: жыгунец, ядранец, чыхавец, яшчарэц, завязнік, вятроўнік, дрэмлік, раннік. Ці, скажам, гэткія: нячуй-вецер, панна-дзіванна, мацер-душка, сынавод і шмат іншых. Тысячы і тысячы такіх слоў-назваў, багатых зместам, цікавых па формаўтварэнню, яркіх па гучанню! Выкіньце іх з нашай мовы — і як яна раптам збяднее! Як шмат яна страціць! Як паблякнуць і прыцьмеюць яе фарбы-колеры, як парадзее і аслабне яе зямны, язычніцкі водар! Хто ж нам даў маральнае права дапусціць, каб такое здарылася? Каб гэтыя тысячы слоў старыя людзі, паміраючы, назаўсёды забралі з сабой у магілу? Мова — самы дарагі, самы каштоўны скарб у любога народа. *(Чым далей — тым з большым запалам, узнёсла.)* Дык скажыце, хіба зберажэнне і вывучэнне гэтага скарбу не ёсць патрэбная справа? Хіба навука, якая гэтым займаецца, марная навука? Хіба чалавек жыве толькі хлебам надзённым? А хлеб для душы? А для душы — патрэбен хлеб ці не патрэбен? А які гэты хлеб? Перш за ўсё — слова! Слова, слова, слова — вось самы спажыўны хлеб для нашай душы! Але гэты хлеб не вырастае за адзін год, як жыта ў полі. О, не! Збажына мовы вырастае цягам цэлых стагоддзяў. Гэта хлеб, які сеялі і расцілі яшчэ нашы прадзеды і прапрадзеды, і прадзеды нашых прапрадзедаў! Сеялі і расцілі — для нас, на ўцеху нам — многія дзесяткі пакаленняў. І нам завяшчалі працягваць гэту вялікую сяўбу і гэты вялікі клопат. На жаль, многія ў нашы дні пачы-

наюць траціць пашану да духоўнай спадчыны сваіх продкаў. Яны клапоцяцца і дбаюць толькі пра хлеб надзённы, пра тое, што пакладзеш у рот, чым напіхаеш чэрава. Ім мала абыходзіць, а што ж кладзецца ў душу і на сэрца. Вось такім бяскрылым сучасным спажыўцам матэрыяльных даброт і здаецца мой клопат дробязным, пустым і марным. Для іх наогул уся духоўная спадчына ніякай цаны не мае, нічога не варта. Яны жывуць адным днём. Іх не цікавіць мінулае свайго народа толькі таму, што іх не цікавіць і яго будучыня! Яны крывяцца і кісля́цца, гаворачы пра мову, пра фальклор, пра мастацкія скарбы сваёй зямлі. Яны саромеюцца таго, чым трэба ганарыцца. Калі б катораму з іх сказаў: твой дзед быў дурань і тупіца, ні да чога не здатны няўмека і недарэка, а прадзед твой дык і зусім быў круглы ёлупень! — калі б сказаў такое — ён, напэўна б, даў аплявуху, ва ўсякім разе — запратэставаў бы і пачаў апраўдваць, даказваць, што яго дзед быў — ого які разумны і здольны чалавек, а прадзед дык наогул быў вялікі мудрэц і талент! Гэта — калі б сказалі канкрэтна пра яго́ дзеда. Калі ж нехта пачынае гаварыць пра ўсіх нашых дзядоў і прадзедаў як пра ёлупняў і недарэкаў — прыніжаць усіх нашых продкаў разам узятых,— тады гэты сучасны інтэлігент маўчыць і не пратэстуе. Тым больш — не дае аплявуху. Яго не абражае і не крыўдзіць! Вось, дарагія мае дзядзькі, чым я жыву і куды вядзе мой клопат! Такі нязначны, на першы погляд, клопат: як называецца ў народзе тая ці гэта травінка-былінка, тая ці гэта зёлка-краска!.. (*Сарамліва заўсміхаўся.*) Прабачце мне, я трохі разышоўся... Цэлую прамову тут абрынуў на вас... Прабачце...

**Жыткевіч** (*амаль у захапленні*). Добрая ж прамова ваша, дарагі чалавеча! Добра гаварылі! От цяпер сапраўды ясна, што да чаго і навошта гэта вы ходзіце ды пытаеце, як што завецца... Цудоўна гаварылі!

**Жардэцкі** (*амаль абыякава*). Для таго і вучыўся чалавек, каб гаварыць гладка.

**Жыткевіч** (*падхопліваецца*). Дазвольце мне

падзякаваць вам! *(Паціскае і трасе руку Паўлу.)* Надта ж хораша сказалі! Надта! Дзякую ад усёй душы!..

**Павел** *(крыху збянтэжана).* Дзякую вам...

**Жардэцкі.** Цяпер майстроў гладка гаварыць многа. Часам слухаеш па радыё ці па цілявізару — ну, так жа кругленька словы коцяцца! Бывае, праўда, што каторы і не ўмее; хоць з выгляду і культурны, а гаворыць усё роўна як з бульбінай гарачай у роце...

**Жыткевіч** *(са злосцю).* Ну, ты, Юстын, сапраўды-такі ёлупень, хаця бацька твой і разумны быў!.. Ты ж ні халеры, выходзіць, не зразумеў, што чалавек сказаў нам!.. Прычым тут гладка і кругленька, калі тут — разумна і справядліва! Па ўсіх пунктах — разумна і справядліва!

**Жардэцкі.** Дык а што я благое сказаў на чалавека? Чаго ты ўз'еўся? Ты ўжо выдаеш сябе такім мондрым, нібыта разам з гэтым чалавекам інсцітут скончыў. Такі ж самы цёмны, як і я. На адну зіму болей у школку хадзіў...

**Жыткевіч.** От ты ўжо нават і не помніш. На цэлыя дзве зімы я хадзіў болей за цябе.

**Жардэцкі.** Можа, і на дзве. Усё роўна. Такі ж тапор нетачоны, як і я.

**Жыткевіч** *(да Паўла).* Дарэчы, пра школу зайшло... Скажыце, а ці настаўнікі ў школе гавораць такое дзецям, ці не? Як на мой розум, дык гэта трэба перш за ўсё школьнікам, моладзі гаварыць, каб яны разумелі...

**Павел.** Думаю, што талковыя, разумныя настаўнікі гавораць. Вы добра заўважылі: гэта вельмі патрэбна ўкладаць у душу моладзі, інакш яе выхаванне будзе аднабаковым, негарманічным.

**Жыткевіч** *(уздыхнуўшы).* Першы раз такую цікавую лекцыю слухаў. Шкада, што толькі для двух нас — старых пенсіянераў — гаварылі. Трэба б сабраць усіх гэтых людцоў — і з санаторыі, і з турбазы, ды і з вёсак. Хай бы гэта ўсе паслухалі!..

**Павел.** Прашу яшчэ раз прабачэння, што загаварыў вас, адарваў ад работы... Пайду будзіць жонку — хопіць ёй спаць. Хай прымае мой багаты ўлоў *(усміхаецца).*

**Жардэцкі.** Будзіць жонку? Яе разбудзілі без вас! Яна паехала на базар з Асколам!

**Павел** *(мяняючыся з твару)*. Пайшла на базар?!

**Жардэцкі.** Не пайшла, а паехала. З Асколам! Каб вы хвілін на колькі раней, дык бы яшчэ заспелі.

**Жыткевіч.** Ужо, мабыць, хутка вернецца. На машыне ж...

**Павел** *(спахмурнелы)*. Надумала купіць нешта. *(Зрабіў спробу ўсміхнуцца.)* Усё пра мяне клапоціцца, каб не галадаў тут. Прабачце — мне таксама пара за работу. *(Ідзе ў дом.)*

Жыткевіч і Жардэцкі пераглядваюцца.

**Жардэцкі.** Бачыў, як ён учарнеў адразу?

**Жыткевіч** *(у задуменні)*. Дык што ж гэта такое выходзіць? Што ж гэта яна сабе думае...

**Жардэцкі.** Значыць, і ён ужо западозрыў. Здагадваецца.

**Жыткевіч** *(як бы не чуе Жардэцкага)*. Такі светлы чалавек! *(Ківае ў бакі галавой.)* Такі светлы чалавек!

**Жардэцкі.** Вот таму і ўчарнеў, што светлы. На светлым лепш відаць чорнае.

**Жыткевіч** *(у роздуме, нібы сам сабе)*. Такога чалавека ашукваць!.. Ну, паскуды! Гэта ўжо, брат, паскуды!..

У лёгкім летнім адзенні, з партфелем у руцэ, выходзіць з дому **Павел**.

**Павел** *(прыпыніўшыся на імгненне)*. Адам Лявонавіч, я вас папрашу: як вернецца Лера — скажыце ёй, калі ласка, што я пайшоў у свой паход і вярнуся толькі пад вечар. Добра?

**Жыткевіч.** Скажу, калі ўбачу, скажу...

**Павел** уздымае руку на развітанне, як бы бярэ пад казырок, і пакідае падворак.

**Жардэцкі** *(правёўшы позіркам Паўла)*. Мусіць, гэнай яго малодцы больш даспадобы ездзіць на машыне, чым хадзіць пяшком.

**Жыткевіч** *(як бы не чуючы Жардэцкага)*. Такога чалавека ашукваць!.. Ну, паскуды!

**Жардэцкі.** Ланна, хопіць табе абурацца. Давай прыступім да справы — і так перакур наш зацягнуўся.

**Жыткевіч** *(раптам схамянуўшыся, голасна).* Усё! На гэтым і па рабоце! Смурод сам — хай і ваду смярдзючую пўгае. Хочаш — чысці з кім іншым, а я з паскуднікам справы мець не хачу. *(Падхопліваецца, зашпіляе пінжак.)*

**Жардэцкі.** Ты з глузду з'ехаў, Адам! Ад такой хаўтуркі адмаўляцца? Гэта ж на цэлы тыдзень будзе нам разгавення!

**Жыткевіч.** Не хачу! Не трэба мне ні яго грошай, ні ласкі. І драбіну сваю забіраю. Калі будзеш чысціць — сам прынясеш. *(Бярэ на плячо драбіну і ідзе з надворка прэч.)*

**Жардэцкі** *(услед Жыткевічу).* Ай-я-яй, ну, дальбог, здурнеў чалавек! Што гэта яго за муха раптам укусіла? Якая яму справа, каго возіць гэны Аскол на базар?.. Ну, што ж, пайду шукаць другога напарніка. Такая хаўтурка не часта здараецца. *(Бярэ сваё вядро і пакідае падворак.)*

*Заслона.*

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Дэкарацыя тая ж, што і ў дзвюх папярэдніх карцінах. Двор асветлены лямпачкай, падвешанай доўгім шнуром да яблыні. Стол пад яблыняй застаўлены бутэлькамі і закускай: у **Бладыкі** — гулянка. Ягоныя госці — **Алік, Іра** і **Люда. Разам** з імі і **Лера.** Усе ўжо нападпітку. На табурэтцы — магнітафон. Гучыць сучасная музыка. Гаспадар і госці тут жа, на падворку, танцуюць — у свабодным стылі, хто як умее. Азартней за ўсіх — Люда. На пару з ёй — Бладыка. З Лерай — Алік. Іра — адна, паміж астатнімі. У гэты момант і заходзіць на двор **Павел**. Ён воддаль, куды святло амаль не дастае, яго не адразу заўважаюць, і ён нейкі час назірае вясёлую кампанію.

**Люда** *(заўважыўшы Паўла).* Ірка! Глянь — табе кавалер знайшоўся! Хапайся, пакуль не ўцёк!

**Усе павярнулі галовы да Паўла.**

**Бладыка** *(не перастаючы танцаваць).* Ага! Аб'явіўся вучоны акадэмік!

**Лера** *(не перастаючы танцаваць).* Павел! *(Да Іры.)* Ірка — гэта Павел. Ідзі запрасі яго ў танец, ён сам не адважыцца.

**Бладыка.** Правільна! Ірка — не ўпускай акадэміка! Рэдкая табе нагода — патанцаваць з такім адукаваным партнёрам!

**Іра** *(танцуючы, набліжаецца да Паўла, з рэверансам запрашае на твіст).* Прашу вас, Павел бацькавіч! Уважце! *(Твістуе перад ім.)* Прашу!

**Павел** *(з акамянелым тварам).* Дзякую за гонар, але... я не танцую. Прабачце.

**Іра** *(прытворна надзьмуўшы губы).* У-у! І вы таксама грэбуеце мною! Вы такі ж непачцівы, як і тыя абодва! *(Завярнулася, танцуючы, вяртаецца да грамады.)* Лера! Я твайму акадэміку не спадабалася! Атрымала ад варот паварот!

**Лера** *(перастала танцаваць, запляскала ў далоні над галавой).* Прашу ўвагі! Ціха! *(Стала, прыкметна захмялелая, паміж грамадой і мужам.)* Павел! Я аб'яўляю табе суровую вымову з апошнім папярэджаннем: ты не ўважыў просьбу жанчыны!

**Люда.** Дзівакі! Які гэта мужчына пусціцца ўсухамятку скакаць? Вы яго спачатку да стала запрасіце — у яго божай расінкі не было ў роце!

**Бладыка.** Правільна, Люда! Прашу ўсіх да стала!

**Алік.** Канешне! Як гаворыць народная мудрасць: галодны мядзведзь у скокі не йдзець. Канешне, трэба пачынаць з бакала!

**Павел** *(падышоўшы да Леры, няголасна, цвёрда).* Ты замнога выпіла, Лера! Табе трэба адпачыць. Хадзем у пакой. *(Бярэ жонку за локаць, але яна выслабаніла руку з яго пальцаў.)*

**Лера.** Ха-ха! Клапатлівец знайшоўся! Я і яшчэ вып'ю — поўны фужэр вып'ю! За тваю навуку, Павел Арсеневіч! *(Насмешліва.)* За твае травінкі-былінкі і краскі-зёлкі! За залатое слоўца бабы Шушуты!

**Бладыка.** Брава, Лера! *(Падымае бакал.)* За росквіт навукі на сыравіннай базе бабы Шушуты!

*(Заходзіцца рогатам.)* Брава! *(Да Іры і Люды.)* Вы ведаеце, чым займаецца наш шаноўны вучоны? Збірае і запісвае старыя назвы траў і кветак. Вырвіце любую травіну — і ён вам скажа, як яе называлі пры цару Гароху. *(Рагоча.)*

**Іра.** А што гэткая за навука? Навошта яна?

**Павел** *(зноў узяў Леру за руку)*. Лера, ты траціш памяць і гаворыш немаведама што. Зараз жа пакінь гэты балаган! Нас абражаюць. Чуеш?!

**Алік** *(вырваў ля плота жмут пустазелля, падышоў да Паўла, працягнуў у руцэ адну зёлку)*. Пардон, як гэта будзе паводле вашай навукі?

**Павел** *(з непрыязню, але спакойна)*. І паводле навукі і паводле народнай мудрасці — гэта дурнап'ян — вельмі шкодная, атрутная расліна!

**Алік.** О-о! Дарагі мой, нашто так сярдзіта?

**Іра** *(выцягнуўшы са жмута ў Аліка нейкую кветку)*. А гэта?

**Павел.** А гэта — курыная галоўка. Пустазелле.

**Люда** *(таксама выцягвае са жмута зёлку)*. А вось гэта?

**Павел.** А гэта, прашу прабачэння,— сучы хвост. Таксама пустазелле.

Іра і Люда весела рагочуць.

**Бладыка** *(да Іры і Люды)*. Вось бачыце, якая арыгінальная навука! *(Да Паўла — іранічна.)* Вы, канешне, пайшлі ў гэту навуку не па разліку, а па прызванню?

**Павел** *(спакойна)*. Так, гэта маё прызванне. Яно, вядома, зусім не падобнае на ваша.

**Бладыка.** О, не дай бог мне гэтакі талент! Усё жыццё сноўдаць, як жабрак, ад Шушуты да Шушуты, каб урэшце ашчасліваць чалавецтва вялікім навуковым адкрыццём: вось гэта трава з-пад плота называецца сучча вымя, а вось гэта, з-пад хлява,— курыны пуп. Ура!..

Алік, Іра і Люда рагочуць.

**Павел** *(да Іры і Люды)*. А вось вы — смяецеся дарэмна. Вам па колькі гадоў? Па дваццаць — не болей? Вы сваё прызванне знайшлі? Паверылі ў яго? Ведаеце, чаму жыццё прысвяціць?.. Вам

смешна, што я займаюся назвамі траў і кветак. Вам здаецца, што ў гэтым няма ніякага сэнсу. Памыляецеся! Для вас — тысячы розных траў — трава, і толькі, тысячы розных кветак — кветкі, і толькі. Для вас і лес — зборышча дрэў, і толькі, летам — цянёк, а зімою — дровы. Але запомніце, што я вам скажу: сёння вам не цікава ведаць, сёння вам абыякава, усё роўна, як вашы дзед і бабуля называлі травы і зёлкі роднай зямлі, а заўтра вам стане ўсё роўна і вы забудзеце, як звалі саміх дзеда і бабулю, вашых кроўных продкаў, якім вы абавязаны сваім існаваннем. Далей застанецца адзін крок, каб забыць, дзе вы нарадзіліся і як завецца Радзіма! Ясна? Дык вось, каб такога не здарылася з вамі — я і хаджу, і сноўдаю кожны дзень ад Шушуты да Шушуты. І я ганаруся сваім прызваннем. Гэтым іронікам *(ківае на Бладыку і Аліка)* зразумець мой клопат ужо немагчыма. Іх прызванне, вядома, больш высакароднае: жлукціць каньяк, капы́ціць каблукамі танцпляцоўку, спакушаць і ашукваць наіўных зеляпу́х, а можа, і яшчэ што... Вось так, мілыя рагатушкі!

Дзяўчаты стаяць разгубленыя. Лера — таксама.

**Алік** *(да Бладыкі)*. Дарагі Аскольд, па-мойму, шаноўны акадэмік просіць нас павысіць яму адукацыю? *(Папраўляе пояс, робіць крок бліжэй да Паўла.)*

**Бладыка.** Спакойна, Аляксандр Іванавіч! Спакойна! Проста таварыш вучоны не ў гуморы — стаміўся і хоча адпачыць.

Павел рэзка павярнуўся і накіраваўся ў дом.

**Лера.** Павел! Павел, стой, я кажу!

Павел абярнуўся і спыніўся.

Павел, ты абразіў добрых людзей. Вярніся і папрасі прабачэння!

Павел зноў завярнуўся і моўчкі пайшоў у дом.

Павел!.. Ну, пачакай жа, асёл упарты!.. *(Да Бладыкі.)* Налівай! *(Схапіла фужэр і працягнула Бладыку.)* Заўтра ён будзе ў мяне ў нагах валяцца!

**Бладыка** *(наліваючы Леры віна)*. Супакойся —

усё нармальна. Трохі нервы не ў парадку ў твайго акадэміка — гэта не бяда. (*Падымае фужэр з віном.*) І так, за што драбалызнем?

**Люда.** Калі я выйду замуж, то ў мяне муж будзе па струнцы хадзіць. Скажу «стой!» — будзе стаяць, пакуль у слуп не абернецца.

**Іра.** А калі я выйду замуж, я буду рабіць усё, што толькі ні загадае муж. Для мяне найвялікшая асалода — выконваць жаданне каханага.

**Люда.** Ну і дурная будзеш.

**Алік.** Чаму дурная? Наадварот — харошая дзявачка!

**Бладыка.** П'ём і танцуем! Я хачу яшчэ патанцаваць! (*Выпівае, уключае магнітафон і запрашае ў танец Люду.*)

Алік запрашае Леру. Іра выходзіць на круг адна. Усе досыць заўзята танцуюць. Праз некалькі хвілін з дому выходзіць **Павел.** За спіной у яго набіты рэчамі рукзак, у адной руцэ — бавул, у другой — куфэрак. Параўняўшыся з танцорамі, спыніўся, стаў і глядзіць на Леру. Яго заўважылі. Бладыка-выключыў музыку.

**Лера** (*да Паўла*). Ты гэта што?..

**Павел.** Хадзем адсюль!

**Лера.** Куды — хадзем?

**Павел.** У рэзідэнцыю з пацукамі.

**Лера.** Ах, вось як?! (*З жэстам.*) Дыванам дарога, Павел Арсеневіч! А я нікуды не пайду адгэтуль! І занясі мае рэчы назад!

**Павел.** Лера, я кажу зусім сур'ёзна: хадзем!

**Лера.** А я табе кажу: занясі мае рэчы назад!.. Да чаго абнаглеў супруг: запрашае мяне начаваць у хлеўчуку з пацукамі!

**Бладыка** (*да Паўла*). Вось гэта вы ўжо ні к чаму. Я вас не выганяю. Жывіце! Я нават не пакрыўдзіўся за вашы паклёпніцкія выдумкі.

**Павел** (*не зрэагаваўшы на словы Бладыкі, да Леры*). Ну, што ж! Бывай здарова, жонка. (*Ставіць куфэрак і бавул на зямлю.*) Заставайся. Рэчы назад занясуць джэнтльмены. (*Папраўляе за плячыма рукзак і ідзе прэч з двара.*)

**Лера** (*услед Паўлу, крыху ўстрывожана*). Павел!.. Павел Арсеневіч!..

**Павел** нават не азірнуўся і знік з вачэй.

*(Лера апусцілася на лаўку і нейкі час маўчыць. Затым схамянулася і з усмешкай павярнулася да Бладыкі.)* Ну, вось так, Аскольд Гаўрылавіч. Патанцуем? *(Да Аліка.)* Алік, музыку!

Алік уключае музыку, адводзіць дзяўчат крыху воддаль і там з імі твістуе.

**Бладыка** *(сеў насупраць Леры каля стала).* Супакойся. Нідзе твой акадэмік не дзенецца.

**Лера** *(даверліва ўсміхаючыся).* А мне ўжо цяпер хваляванца няма чаго. Я сваё слова сказала. Я зрабіла так, як ты хацеў.

**Бладыка** *(не ўспрыняўшы слоў Леры).* Я думаю, ён скора вернецца па цябе.

**Лера.** Павел? Нізашто! Ты проста не ведаеш Паўла!

**Бладыка** *(хутчэй устрывожана, чым узрадавана).* Не вернецца?

**Лера.** Ні ў якім разе!.. А ты што — баішся, каб ён сабе чаго не зрабіў? Не бойся: у яго сіла волі — во! *(Паказвае вялікі палец.)*

**Бладыка.** Ды я не гэтага баюся...

**Лера.** А чаго ты... баішся?

**Бладыка.** Справа не ў боязі... Справа ў тым, што... неяк зусім нечакана ўзнікла ў вас гэта сварка...

**Лера.** Нечакана?.. Як — нечакана?.. Пасля ўсяго, што ў нас з табой было... Ён адчуў. Я кепска ўмею прытварацца...

**Бладыка.** Ну, з-за гэтага, што ў нас было, сварыцца з мужам не варта. Гэта ж муж усё-такі!

**Лера.** Што? *(На твары адбілася страшнае расчараванне.)* Не варта?.. Цяпер — не варта?..

Падыходзяць Алік, Іра і Люда.

**Люда.** Хопіць вам тут сакрэтнічаць! Ёсць прапанова прагуляцца берагам возера.

**Іра.** Так — мы ўсе трое рашылі ісці на прагулку. Нас большасць — значыць, вы — хоцькі-няхоцькі — падчыняецеся нашаму рашэнню і пойдзеце з намі.

**Бладыка** *(ажывіўся).* Выдатная ідэя! Цалкам падтрымліваю. Толькі трэба спачатку прыбраць

стол, занесці ў дом пасуду, магнітафон, разумееццa — гаручае. Давайце тут жа гэта і аформім! Іра і Люда — збірайце талеркі, відэльцы, фужэры. Аляксандр Іванавіч, забірай бутэлькі. Я панясу магнітафон. *(На Леру не звяртае ўвагі, як быццам яе няма.)*

**Іра** *(з талеркамі ў руках падышла да Леры).* Што замаркоцілася? Вернецца твой Павел! Мілыя сварацца — толькі цешацца! Бяры свой бавул і нясі ў дом. А куфэрак мужчыны занясуць.

**Лера.** Зараз... Я на хвіліну выйду на дарогу... Гляну... Потым сама занясу.

**Алік** панёс бутэлькі, **Бладыка** — магнітафон, **Іра** і **Люда** — пасуду. На падворку засталася адна Лера. Аглянуўшыся кругом, яна паціху ідзе да студні, што бялеецца ў змроку. Спынілася, заглянула ў студню, адхіснулася, зайшла на процілеглы бок і прыхілілася, прылёгшы грудзьмі і галавой, да пакатай стрэшкі. У такой позе замерла. З дому выходзяць **Бладыка, Алік** і **Іра.** Бладыка з вядром у руцэ.

**Бладыка** *(з ноткай трывогі ў голасе).* А дзе ж Лера? Рэчы стаяць, а яе не бачна?

**Іра.** Не хвалюйцеся, пайшла глянуць на дарогу, зараз прыйдзе. Алік, вазьмі яе бавул і куфэрак, а я занясу абрус і табурэтку.

Бладыка з вядром ідзе да студні, не дастаючы ваду, садзіцца на лаўку. **Іра** ўзяла са стала абрус і табурэтку і панесла ў дом. Алік таксама падышоў да студні. Леру яны не бачаць — яна з другога боку, за стрэшкай.

**Бладыка.** Складаная сітуацыя, Аляксандр Іванавіч. З мяне ажно хмель выйшаў.

**Алік.** Што такое, дарагі мой? Людачка не клюе?

**Бладыка.** Людачка клюнула, і, па-мойму, надзейна. Я хацеў бы неадкладна, сёння ж, заняцца ёю. А тут, бачыш, якую ініцыятыву праявіла Лера: спрáвадзіла к чорту, на ноч гледзячы, свайго лапуха-акадэміка і думае застацца начаваць у мяне. Яна ж сапсуе мне ўсю абедню! А галоўнае, што яна, дурніца, рассмакавалася і ўсур'ёз спадзяецца стаць гаспадыняй маёй дачы і «Волгі»... Можа, ты́ сёння аб ёй паклапоцішся?

За студняй ускрыкнула і асунулася на зямлю Лера. Бладыка і Алік кінуліся туды.

**Бладыка** *(спалохана)*. Лера?!. *(Аліку.)* Яна тут стаяла і ўсё чула!

**Алік.** Тым лепш, дарагі мой: сітуацыя спрасцілася сама.

**Бладыка.** Яна страціла прытомнасць. Скарэй вады! *(Хапае вядро на ланцугу.)* Трохі ёсць у вядры... Цягні сюды яе, тут відней. Жыва!

Алік падцягвае Леру. Бладыка плёхае ёй на галаву вадой і тармосіць.

Лера!.. Лера!.. Ты што надумала?.. Лера?!.

Лера прыйшла да памяці і села.

*(З палёгкай.)* Фу-ты, якога коніка выкінула, га?..

**Алік.** Нашто падаць? Нашто абміраць? Нашто так браць да сэрца сварку з мужам? Вернецца твой муж — гэта я табе гарантую! Хіба ён можа пакінуць такую каралеву?

**Лера** *(седзячы на зямлі, спачатку слабым шэптам, але з кожным словам усё грамчэй)*. Сволач... Сволач!.. Мярзотнік!.. Скаціна бязрогая!.. Скаціна!.. Ненавіджу цябе, скаціна!..

З дачы выходзяць **Іра** і **Люда.**

**Люда** *(здалёк)*. Што там у вас? Чаго яна села на зямлю?

**Бладыка.** Блага стала. Мабыць, выпіла лішне. Ідзіце памажыце ёй.

*Заслона.*

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Дэкарацыя карціны першай — хата і падворак Жыткевіча. Новая толькі адна дэталь — каля бярозы, абапершыся высока аб ствол, стаіць драбіна. Відаць, яе паставіў гаспадар, вярнуўшыся з дачы Бладыкі. На двары — шэры прыцемак летняга вечара. **Жыткевіч** сядзіць на лаўцы пад хатай. Падыходзіць з рукзаком **Павел.**

**Павел.** Добры вечар, Адам Лявонавіч!

**Жыткевіч.** Добры вечар. Гэтак позна ў дарогу некуды?

**Павел.** Ды не, не ў дарогу. Іду начлегу шукаць.

**Жыткевіч.** Начлегу?

**Павел.** Ну, так, начлегу. Не пад кустом жа начаваць, Лявонавіч. (*Садзіцца побач на лаўку, рукзак кладзе на зямлю.*)

**Жыткевіч** (*пільна паглядзеў у твар Паўла*). Сабе аднаму ці... двaім?

**Павел.** Аднаму.

**Жыткевіч.** А-а-а, значыць, толькі сабе... (*Памаўчаўшы.*) Па мордзе хоць пляснулі гэнаму ці не?

**Павел.** А за што?

**Жыткевіч.** Ну, як няма за што, то і не трэба. Хаця... каб гэта на мяне, скажу вам шчыра, то ўжо я б яго змалаціў на грэцкі сноп! Не тлумачачы за што. Я малады, брат, быў порсткі. Да двух не гавары! На вечарынцы, бывала, аж хацелася, аж карцела, каб хто-небудзь зачапіў хоць словам маю Анцю, каб тут жа пастаяць за яе гонар і расквасіць нюхаўку нахабніку... І самому, праўда, даставалася. Цяпер як падумаю — ну і дурны ж быў! Каб была тая Анця чаго варта, а то — ат!.. Як падрэзала мне крылы ў маладосці, так і застаўся я птахам нялётным. Так і змадзелася жыццё... Тут, брат, такі закон: калі адзін крылаты, дык трэба, каб і ў другога крылы выраслі. А калі ў другога не вырастуць, дык тады і ў першага могуць адпасці, адваліцца за непатрэбнасцю. Са мною так і здарылася. Вот — жыў, жыў і канчаю тым, што нават пенсіі людскай не выслужыў, самую малую бяру, як утрыманец усё роўна. Жыву, як мой большы сын кажа, на дывідэнды — гэта ён так называе грошы, што мне кватаранты плоцяць...

Нейкі час абое маўчаць.

**Павел.** Дык як з начлегам будзе, Лявонавіч? Знойдзецца што-небудзь?

**Жыткевіч** (*з ноткай дакору*). А што ж я цяпер знайду? Рэзідэнцыю маю вы не ўпадабалі — пацукоў спалохаліся.

**Павел.** Там, дзе я быў, пацукі больш страшныя, больш драпежныя. Гатоў лепей з тыграмі жыць, чым з тымі пацукамі.

**Жыткевіч.** Вось бачыце... Дык маю рэзідэнцыю

ўжо занялі. Нейкія два рыбачкі прыехалі. На матацыкле. Занялі, брат! Усё, што магу цяпер прапанаваць,— гэта буслянка. Хочаце на буслянцы паначаваць?

**Павел.** А што? *(Усміхаючыся.)* Я згодзен. Гэта будзе цудоўны начлег! Пад зорным небам, пад ясным месяцам. Буду слухаць, што шэпча ветрык, што гавораць зоркі...

**Жыткевіч.** Дык бярыце! Малады некалі і я неаднойчы марыў паначаваць на буслянцы. Хоць раз, думаў! Хоць адзін раз! Але так і не давялося. Нешта мне так і не дало забрацца туды. Ну, а цяпер ужо позна. Гэта — начлег для маладога, крылатага... Бярыце, адным словам! Вам там спадабаецца, я ўпэўнены. Па-мойму, гэта якраз для вашай душы.

**Павел** *(з разуменнем усміхаючыся)*. Дзякую, Адам Лявонавіч. Я ведаў, што вы мяне выручыце.

**Жыткевіч.** Ну, а калі пачнецца навальніца і вы змокнеце і змерзнеце там — тады злазьце і прыходзьце ў хату. Сёння выехаў — раней тэрміну — Нішчык, пастаянны мой кватарант, і да вашых паслуг цэлы пакой. Можаце жыць хоць да зімы.

**Павел** *(узрадавана)*. Сур'ёзна? У вас вызваліўся пакой?

**Жыткевіч.** Ну, кажу ж, чалавек паехаў сёння... Ужо там Анця і парадак навяла. Можаце ісці раскватароўвацца. Во — можаце ў акно глянуць, якраз гэты. *(Падымаецца і расчыняе акно.)* Хаця без святла нічога не ўбачыце...

**Павел.** Я вам вельмі ўдзячны, Адам Лявонавіч. Бясконца вам удзячны!.. Ага! Значыць, так: я ўкіну свой руксак у пакой, а сам схаджу да Міколы Зайчыка, трэба мне пагаварыць з ім. *(Бярэ руксак і праз акно апускае яго ў пакой.)*

**Жыткевіч.** Акно зачыніце, а то камары налятуць. З таго боку ёсць другое, зацягнутае марляй, яно дзень і ноч адчынена, каб свежа дыхалася...

**Павел** *(зачыніўшы акно)*. Лявонавіч, я хутка вярнуся. *(Шпарка знікае за хатай.)*

Жыткевіч зноў застаецца на лаўцы адзін. Праз хвіліну ён бачыць — да хаты набліжаецца, валочучы ў руках бавул і куфэрак, **Лера**. Яна заўважыла Жыткевіча, спы-

нілася, паставіла рэчы каля ног, дастала хусцінку, выцерла вочы. Пакінула рэчы, дзе стаяла, падышла да Жыткевіча.

**Лера** *(сумным, упалым голасам)*. Добры вечар...

**Жыткевіч** *(наадварот — вельмі бадзёра)*. Добры вечар, панечка!

**Лера.** Скажыце, Паўлік у вас?

**Жыткевіч** *(наўмысна разыгрываючы Леру)*. Які Паўлік?

**Лера.** Мой муж, Павел?

**Жыткевіч.** А хто ён? У мяне многа ўсякага народу.

**Лера.** Хіба вы мяне не пазнаеце? Мы прасіліся да вас на кватэру, тыдні два назад, помніце? Мы жылі гэты час у... *(Запнулася і не сказала ў каго.)* Вы туды прыходзілі.

**Жыткевіч.** У каго вы жылі?

**Лера** *(громка, злосна)*. У пацука!.. На якога няма атруты!

**Жыткевіч** *(засмяяўшыся)*. От гэта вы добра сказалі! У пацука вы жылі, панечка, у пацука! Позна, праўда, расшалопалі.

**Лера.** Чаму — позна?

**Жыткевіч.** Ну, можа, і не позна! Калі ўрадзіліся для шчасця, дык, можа, і не позна. Не ведаю.

**Лера.** Дзе Павел? Мне трэба яго неадкладна ўбачыць.

**Жыткевіч** *(усё тым жа жартаўлівым тонам)*. Павел?.. Павел спіць, вядома!

**Лера.** Дзе? У вашай «рэзідэнцыі»?

**Жыткевіч.** Не! «Рэзідэнцыю» занялі другія. Два рыбачкі пасяліліся. Прыехалі сёння.

**Лера.** Дык а дзе ён... спіць?

**Жыткевіч** *(паварочваецца і паказвае рукой)*. А вунь там, высока. На буслянцы.

**Лера.** На буслянцы?!

**Жыткевіч.** Ну, кажу ж, на буслянцы!

**Лера.** Вы жартуеце. Вы мяне падманваеце.

**Жыткевіч.** Якія жарты? Хіба вы не бачыце вунь драбіну каля бярозы? Да сукоў далез па драбіне, а там — па суках і ў гняздо. Што яму туды залезці — такому дужаму, спрытнаму хлопцу! Раз плюнуць!

**Лера.** Вы... сапраўды сур'ёзна? Не смеяцеся з мяне? Пакляніцеся, прашу вас!

**Жыткевіч** *(хрысціцца)*. Вось вам крыж, што ваш муж цяпер высока-высока! Вам да яго цяпер не дастаць, панечка!

Лера адыходзіць ад хаты, бліжэй да бярозы, задзірае галаву, глядзіць на буслянку, пачынае плакаць, а затым клікаць Паўла.

**Лера.** Паўлік! Паўлік!.. Ты мяне чуеш, Паўлік? *(Яшчэ больш голасна.)* Паўлік!.. *(Да Жыткевіча.)* Ён не адзываецца!..

**Жыткевіч** *(падыходзячы да Леры)*. А раней... ён вам адзываўся адразу?

**Лера.** З першага слова. Нават з паўслова.

**Жыткевіч** *(разводзіць рукамі)*. Відаць, не пазнае вас. Можа, у вас голас змяніўся, не той, што раней быў? Калі змяніўся, дык ужо цяпер, панечка, з паўслова адклікацца не будзе...

**Лера** *(хліпаючы носам)*. Пры чым тут голас. Голас у мяне той самы, і ўсё ў мяне тое самае... Проста ён пакрыўдзіўся на мяне... *(Зноў пачынае клікаць.)* Паўлік!.. Паўлічак, любенькі, міленькі, злазь!.. Злазь дадолу, Паўлічак!.. Ты чуеш?.. Спускайся на зямлю!.. Паўлік!..

**Жыткевіч.** Панечка, не цягніце яго долу! Хай ён пабудзе там — высока. Яму цяпер ветрык лісцвяную калыханку пяе. Ён цяпер размаўляе там з зоркамі і з месячкам, з хмаркамі, што прабягаюць над галавой. Ён жа разумее іх мову! І, мабыць, гэтак жа добра, як і нашу, як і мову гэтай зямлі, мову траў і кветак, вады і ветру. Не клічце яго, панечка, не трэба...

**Лера** *(выціраючы вочы)*. А я туды магу залезці?

**Жыткевіч.** Э-э, не! Вам туды няможна.

**Лера.** Чаму?

**Жыткевіч.** У вас, панечка, галоўка слабая. Закружыцца. Вам трэба толькі па зямлі хадзіць. Або ў машыне ездзіць. І начаваць вам таксама — на зямлі спадручней. Так што ідзіце, панечка, у пакой, які вас чакае, і — добрай вам ночы. А Паўла я сам разбуджу на буслянцы, скажу яму...

**Лера.** Дзе мяне чакае пакой?

**Жыткевіч.** У маёй хаце. Чысты, прыбраны, гатовы для вас пакой. Кватарант выехаў — і ён свабодны. Хадземце — завяду. *(Ідзе і бярэ бавул з куфэркам, нясе іх.)* Хадземце!.. Хай на буслянцы паспіць той, у каго сумленне — такое ж яснае і чыстае, як святло гэтых зорак у небе... Хадземце!..

**Жыткевіч** і **Лера** знікаюць за вуглом хаты. Гасне святло. Ноч.

*Заслона.*

1975—1977

# ЗМЕСТ

НЕ КАЖЫ «ГОП»...
5
МЫ СКОРА ЗАВІТАЕМ ЗНОЎ
25
ПАТРЫЯРХАЛЬНЫ ДЗЯДОВІЧ
45
КАМЕНЬ З МАГІЛЫ ПРОДКАЎ
67
ПЕРШАЯ НОЧ НА КУРОРЦЕ
87
ЗАБЯСПЕЧЫМ МАМЕ ЗДАРОЎЕ
104
НАЧЛЕГ НА БУСЛЯНЦЫ
119

Гілевіч Н.
47 Начлег на буслянцы: П'есы.— Мн.; Маст. літ., 1980.— 176 с.
45 к.

У кнігу ўвайшлі п'есы пра подзвіг беларускай моладзі ў Вялікай Айчыннай вайне, пра духоўнае станаўленне маладога сучасніка, пра адносіны да культурнай спадчыны і інш.

Камедыя «Не кажы «гоп»...» і драма «Мы скора завітаем зноў» адзначаны прэміямі на Рэспубліканскім конкурсе аднаактовай драматургіі ў 1971 і ў 1978 годзе.

Творы разлічаны на народныя тэатры і самадзейныя тэатральныя калектывы.

70202—078 / М 302(05)—80 79—80 Бел 2

*Нил Семенович Гилевич*
НОЧЛЕГ В ГНЕЗДЕ АИСТА
Пьесы
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке
Рэдактар Г. С. Шупенька. Мастак Л. Г. Мядзведзева. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар С. А. Абрамчук. Карэктар А. Т. Глушчанка.
ІБ № 869
Здадзена ў набор 04.10.79. Падп. да друку 05.03.80. АТ 05053. Фармат 84×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,70. Ул.-выд. арк. 8,02. Тыраж 5000 экз. Зак. 2650. Цана 45 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.
Паліграфкамбінат імя Я. Коласа.
220005, Мінск, Чырвоная, 23.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»

**

# НАБЫВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЗБОРНІКІ АРТЫКУЛАЎ

**

Лынькоў М.
ПУБЛІЦЫСТЫКА.

Казека Я.
КУЗЬМА ЧОРНЫ.

Вярцінскі А.
ВЫСОКАЕ НЕБА ІДЭАЛА.

